Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ і ЛЯСНОЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ.

Выпуск 6.

# МАТАР'ЯЛЫ ПА ЛЯСНОЙ ДАСЬЛЕДЧАЙ СПРАВЕ БССР

пад рэдакцыяй прафэсара С. П. МЕЛЬНІКА.







Белорусский Научно-Исследовательский Институт Лесного Хозяйства и Лесной Промышленности

## ТРУДЫ ПО ЛЕСНОМУ ОПЫТНОМУ ДЕЛУ БССР

под редакцией проф. С. П. МЕЛЬНИКА

Выпуск VI.

Belarussisches Institut für Wissenschaftliche Forschungen der Forstwirtschaft und Forstindustrie

## Mitteilungen aus dem Forstlichen Versuchswesen in der BSSR

regigiert von Professor S. P. MELNIK

VI Band.



МЕНСК-МИНСК-MINSK

1930.

## ЗЬМЕСТ. ОГЛАВЛЕНИЕ. INHALTSVERZEICHNISS.

# ПРАДМОВА

Прапануемае дасьледваньне, якое было першапачаткова даручана аўтару гэтых радкоў, пры садзейнічаньні і супрацоўніцтве былога дацэнта, а цяпер прафэсара Беларускай сельска-гаспадарчай Акадэміі К. Н. Караткова, з прычыны раптоўнай хваробы аўтара гэтай прадмовы, цалкам утворана К. Н. Каратковым.

Гэтае абсьледваньне, апрача вызначэньня маючыхся на Беларусі запасаў хваёвых пнёў, штогоднага іх прырасту паводле чарговых высечак,—якое носіць чыста таксацыйны характар, павінна перш за ўсё высьветліць ступень смалістасьці, як высьпеўшых старых пнёў, так і высьпяваючых, бо ад смалістасьці пня залежыць, не ўваходзячы ў разважаньні эканамічных умоў выкарчоўкі пнёў, яго дастаўкі і інш.—рэнтабельнасьць вытвару экстракцыі каліфоні.

Згодна дадзеных досьледаў Эўропы і Амэрыкі, толькі пры пэўнай колькасьці смалы і шпігінару, які, аднак, у экстракцыйным вытвары адыгрывае другародную ролю, мажліва вытворчасьць. Так, напр. лічаць, што калі смалякі маюць менш 15% смалы, а трэскі ўтылізуюцца на заводзе, як апал, дык рэнтабельнасьць, пры ўмове капіталістычнай гаспадаркі, будзе роўна нулю, бо прыбытак пакрывае толькі выдаткі вытвару.

Пры ўмове сувязі экстракцыі з папярова-цэлюлёзным вытварам, выгаднасьць значна падвышаецца, і атрымліваецца магчымасьць працаваць з больш беднымі смалякамі.

Такім чынам, вызначэньне смалістасьці пнёў адыгрывае першародную ролю ў дасьледваньні.

У прыкладаемай працы прыняты некаторыя зьмены супраць прапанаваных у нас мэтадаў узяцьця спроб і вызначэньня смалістасьці ўзораў.

Дзеля вызначэньня смалістасьці звычайна бяруць тым ці іншым спосабам спробы, каб па мажлівасьці атрымаць сярэднюю спробу данага вучастку, а колькасьць смалы, якая ў даным выпадку нас цікавіць не як смала, а як каліфоня, вызначаюць высушваньнем дабытай этарам масы пры 103—105°.

Узяцьце-ж спроб пераважна рэкамэндуецца шляхам распілаваньня хваёвых пнёў на высечаных масывах, зьбіраньнем пілавін, закупорваньнем іх у слоікі і адпраўкай іх у лябараторыі для дасьледваньня, іншы раз на значныя адлегласьці і са значнай затратай часу.

Выгаднасьць дабываньня смалы з пілавін пры вызначэньні яе колькасьці—пэўная, але самая падрыхтоўка пілавін вядзе да мажлівых памылак і страт.

Пілоўка смалякоў адбываецца зусім ня так лёгка, як звычайнага бярвеньня альбо дошак, піла ў прасмаленым дрэве заядаецца, награваецца, і на ёй асядае смала. Апрача таго, пілавіны сутыкаюцца з паветрам, што вядзе, пры вялікай іх паверхні пры награваньні да страты шпігінару і атляняньня смаляных кіслот. Смаляныя-ж кіслоты ўладаюць такой прочнай уласьцівасьцю акісьляцца, што пры захоўваньні іх у добра закупораных шкляяках, залітых парафінай, не мажліва папярэдзіць атляняньня, і толькі ў залітаваным выглядзе яны захоўваюцца бяз зьмены.

Куды больш дасканалы спосаб, прыняты Дэюпонам[1]), атрыманьня спроб падсочаных каржакоў.

З дрэва выкалываюцца сэктары, у якіх смала разьмяркована раўнамерна ў цэнтральных і перыфэрычных частках. Гэтым шляхам можна атрымаць сярэднюю спробу ад многіх пнёў, якія знаходзяцца на вучастку, падобна да таго, як атрымліваюць сярэднюю спробу цукраватасьці буракоў з сэктараў многіх буракоў.

У часе апрацоўкі сэктараў на тонкія лучынкі, ужо ў лябараторыі, ня могуць мець месца вышэйпамянёныя зьмены, якія адбываюцца з пілавінамі.

Дзеля азначэньня смалістасьці прынята тая колькасьць смалы, якая адпавядае яе бязводнаму стану каліфоні, што атрымліваецца пры награваньні смалы да 150°, як гэта мае месца пры запраўдным тэхнічным вытвары. Але з прычыны таго, што пры тэхнічнай варцы каліфоні прыступ паветра адхілен і атляненьня не адбываацца, дык і пры вызначэньні смалістасьці неабходна дабытую этарам масу пры награваньні аховаць ад атляняньня шляхам ператварэньня яе ў каліфоню ў струмені вугляkіслаты.

Пры такіх умовах каліфоня атрымліваецца заўсёды досыць сьветлага колеру, і выхады яе даюць ўзгодненыя выгады.

Вызначаная сярэдняя смалістасьць беларускіх пнёў, якая значна перавышае ў некаторых раёнах 15%; пэўна пакавзае на мажлівасьць з боку якасьці рэнтабельнасьць дабываньня каліфоні і шпігінару экстракцыйным спосабам, пры сувязі гэтага прадпрыемства з картонава-папяровым вытварам.

*Акадэмік В. ШКАЦЕЛАЎ.*

---

[1]) Гл. Dupont. Les essences de têrèbenthine.

# Сырцовая база для каліфонева-экстракцыйнай і шпігінарнай прамысловасьці ў БССР.

## I. УСТУП

Канцовымі прадуктамі каліфонева—шпігінарнага вытвару, як гэта відаць з самай назвы вытвару, зьяўляюцца каліфоня і шпігінар. Прадукты гэтыя могуць быць атрыманы розныя па якасьці ў залежнасьці ад спосабу атрыманьня. Самым высокім па якасьці зьяўляецца жывічны шпігінар, які атрымліваюць адгонкай вадзяной парай з хваёвай жывіцы; на другім месцы неабходна паставіць „паравы шпігінар“, які называюць іншы раз трэскавым альбо чурачным і які атрымліваюць адгонкай вадзяной парай з дробна-раздробленай хваёвай драўніны і нарэшце апошні гатунак шпігінару—шпігінар, які атрымліваюць пры сухой перагонцы хваёвай драўніны.

Што датычыцца другога прадукту вытвару—каліфоні, то тутака па якасьці на першым месцы стаіць таксама каліфоня, атрыманая з хваёвай жывіцы пасьля адгонкі шпігінару вадзяной парай. У апошнія часы з гэтай каліфоняй пачала канкураваць каліфоня „экстракцыйная“, якую атрымліваюць з раздробленай хваёвай драўніны (пнёў) шляхам экстрагаваньня рознымі растворнікамі, як бэнзынай. шпігінарам, бэнзолем, гавай. Тут неабходна адзначыць, што каліфоня, атрыманая такім шляхам, значна ніжэй па якасьці, чымся каліфоня, атрыманая з жывіцы. Галоўнейшым практычным крытэрыем для разважаньня аб якасьці каліфоні ў заводзкіх умовах звычайна зьяўляецца колер і тэмпэратура тапленьня каліфоні. „Колер характарызуецца звычайна па Амэрыканскай шкале, прычым шкала мае наступныя стандартныя маркі каліфоні:

| | |
|---|---|
| WW белая як вада | |
| WG ваконная шыба | вышэйшыя гатункі |
| N самая сьветлая | |
| M сьветлая | высокія гатункі |
| K сьветлая ніжэйшы гатунак | |
| I добрая № 1 | высокія гатункі |
| H „ № 1 | |
| G № 1 ніжэйшы гатунак | |
| F добрая № 2 | |
| E „ № 2 | звычайная каліфоня |
| D добрая цэджаная | |
| C цэджаная | |
| B звычайн. цэджаная | ніжэйшыя гатункі |
| A чорная | |

Як відаць з таблічкі, каліфоня па Амэрыканскай шкале мае 14 градацый ці марак. Калі мы, маючы такую стандартную шкалу параўняем

каліфоню жывічную і каліфоню, атрыманную экстрагаваньнем, дык мы ўбачым, што жывічная каліфоня атрымліваецца звычайна ня ніжэй маркі N і можа быць атрымана самых высокіх марак аж да WW.

Каліфоня-ж экстракцыйная займае сярэдняе месца ў Амэрыканскай шкале, менавіта, маркі E F, прычым экстракцыйная каліфоня мае заўсёды чырвонаватае адценьне, якога ў жывічнай не сустракаецца. Тут трэба паказаць, што ў працы *І. В. Філіповіча І. Н. В. Тухавіцкага*[1]) у сьпісе дасьледваных імі каліфоняй пад рубрыкай „экстракцыйныя" мы знаходзім маркі I, N, H, г. зн. каліфоні, якія стаяць вельмі блізка па сваёй колернасьці да жывічных. Такія высокія гатункі экстракцыйнай каліфоні зьяўляюцца выключэньнем, і яны атрымаліся, мабыць, нейкімі асобнымі спосабамі, у большасьці-ж выпадкаў экстракцыйная каліфоня, як было паказана вышэй, не паднімаецца вышэй маркі F, E і G.

Другім крытэрыем для развaжаньня аб якасьці каліфоні зьяўляецца тэмпэратура тапленьня яе.

Экстракцыйная каліфоня мае t тапленьня заўсёды ніжэй. чымся каліфоня, атрыманая з жывіцы[2]). Апошнюю акалічнасьць праф. Е. М. Любарскі[3]) тлумачыць дзьвюма прычынамі: 1) прысутнасьцю ў каліфоні цяжкіх частак шпігінару, не выдаляемых пры адгонцы растворніку; 2) нязначная колькасьць, што засталася ў каліфоні, арганічнага растворніку, якім утваралася экстракцыя каліфоні. Такія дамешкі як прыродныя (шпігінар), так і штучна ўводзімыя (арганічны растворнік), ствараюць з каліфоняй вельмі вязкі паўцьвёрды раствор, а можа быць і комплекснае значэньне, в якіх выдзяліць іх поўнасьцю вельмі цяжка. *Але разам з тым неабходна прызнаць, што лёгкатопкасьць экстракцыйнай каліфоні ня ёсьць яе спэцыфічная ўласьцівасьць, але ў моцнай ступені яна залежыць ад заводзкіх умоў выпрацоўкі экстракцыйнай каліфоні.*

На адным і тым-жа заводзе з аднэй і тэй-жа сыравіны часта атрымліваецца каліфоня, якая мае розныя пункты тапленьня. Такім чынам шляхам вывучэньня і палепшаньня заводзкіх працэсаў можна дабіцца атрыманьня каліфоні з здавальняючым пунктам плаўленьня. Ня будзем спыняцца на гісторыі зараджэньня і разьвіцьця экстракцыйнага мэтаду атрыманьня каліфоні, а толькі пакажам, што галоўнымі галінамі прамысловасьці, якія спажываюць каліфоню, зьяўляюцца: мылаварная, папяровая, лакафарбавая і цэлы шэраг іншых, больш дробных вытвараў. У Амэрыцы спажываньне рознымі вытварамі каліфоні разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | |
|---|---|
| на мылаварства | 45% |
| папяровы вытвар і картон | 25% |
| лака-фарбавы вытвар | 17% |
| смазачны алей | 6% |
| ліналеум і іншыя | 10% |

Як відаць з дадзеных лічбаў, асноўнымі спажыўцамі каліфоні зьяўляюцна мылаварны вытвар, папяровы і затым лака-фарбавы. У сувязі з надзвычайна шпаркім тэмпам разьвіцьця нашай прамысловасьці наогул і вышэйпаказаных яе галін у прыватнасьці, значна павялічыўся і пра-

[1]) Свойство подсоченных и экстракционных канифолей и наши критерии для суждения о них.
„Журнал Химической Промышленности" 1927 г., № 11.

[2]) Dr. H. Wolff. Die naturlichen Harte 1928.

[3]) Проф. Е. М. Любарский. О причинах легкоплавкости пневой канифоли и мерах ее устранения. Труды Дальне-Восточного Университета. Серия VII, вып. № 8, 1928 г.

даўжае павялічвацца попыт на каліфоню. Па падліках *І. В. Філіповіча*[1]) пры ўмове, што мылаварная прамысловасьць будзе спажываць толькі 7% усей здабываемай у нашым Саюзе каліфоні, у 1928-29 годзе для гэтай прамысловасьці патрабуецца 850.000 пудоў каліфоні; улічваючы-ж і астатнія галіны прамысловасьці, ён да канца пяцігодкі лічыць, што запатрабаванасьць у каліфоні выявіцца па меншай меры ў 1.700.000 пудоў

Прымаючы пад увагу вышэйпаказаную акалічнасьць і тое, што здабываемыя колькасьці жывічнай каліфоні далёка не пакрываюць патрэбы ў гэтакай; і калі ўлічваць таксама наяўнасьць у нашым Саюзе агромністых плошчаў хваёвых высечак,—неабходна сказаць, што пытаньне аб экстракцыйнай каліфоні зьяўляецца актуальнейшым пытаньнем сучаснай леса-хэмічнай прамысловасьці. Вырашэньнем задачы дабываньня каліфоні з хваёвых пнёў (пнёвых смалякоў) займаўся цэлы шэраг расійскіх дасьледчыкаў. Быў прапанованы цэлы шэраг спосабаў дабываньня каліфоні з пнёвых смалякоў.

Адны спосабы былі заснаваны на мэтадах выпалосквaньня (*Папоў Акчурын, Любарскі*), г. зн. апрацоўка пнёвых смалякоў лугам ($NaOH$) з наступным раскладаньнем атрыманага пры гэтым каліфоневага мыла. Іншыя прапанаваныя спосабы грунтаваліся па мэтадах мэханічнага ўзьдзейнічаньня на смалістую драўніну дзеля выдаленьня з яе жывіцы (*Рэйман, Агентаў*).

По спасабу Агентава смалякі раздрабляліся і награваліся ў паравай ваньне з халадзільнікам да 150—200°, прычым частка шпігінару адганялася, а каліфоня вытаплялася. Пасьля гэтага прапаранае смальлё паступала ў прэсаваньне. Гэтым спосабам атрымаліся наступныя выхады прадуктаў з 9,7 куб. мэтру смалякоў (1 куб. саж.):

Каліфоні да 500 кг.
Шпігінару 90—110 кг.

І нарэшце спосабы трэцяга роду грунтаваліся на экстрагаваньні каліфоні з раздробленага смаляку рознымі арганічнымі растворнікамі. Апошні спосаб зьявіўся найбольш жыцьцёвым і быў дапасован ўпяршыню 35—40 год назад у нас у Расіі праф. *Руднёвым*, прычым экстрагуючай матэрыяй быў шпігінар. Досьледы праф. *Руднёва* ў той час не далі станоўчых вынікаў з прычыны лёгкай ізо—полімэрызацыі шпігінару (як растворніку), а таксама з-за недахопаў апаратуры, якая ўжывалася пры досьледах.

У 1910-11 годзе мэтад экстракцыі нанова быў распрацован праф. *Г. І. Курсаковым* і дапасован *Л. Я. Карповым* па заводзе Храпавіцкага ў Уладзімірскай губэрні і *Н. В. Філіповічам* на Мурманскім заводзе. У абодвух выпадках экстрагуючай матэрыяй зьяўлялася бэнзына.

На гэтых заводах былі атрыманы станоўчыя вынікі, і каліфоня, хоць і адрозьнівалася па сваіх фізыка-хэмічных канстантах ад падсочнай але ўсё-ж, у некаторай ступені, магла канкураваць з ёй і магла замяніць імпартную Амэрыканскую каліфоню ў папяровай і мылаварнай прамысловасьці. У 1914 годзе на падставе вышэйутвораных досьледаў было прапанована пабудаваць 4 каліфонева-экстракцыйных заводы, але вайна не дала мажлівасьці ажыцьцявіць гэтую пабудову. У 1911-12 годзе, неўзабаве пасьля досьледаў на заводзе Храпавіцкага, былі пабудованы два заводы—Перакопскі—Молесона і Карасьсярскі—Жарэбава; на першым экстракцыя каліфоні ўтваралася лёгкаю газаю, на другім—бэнзынаю.

[1]) Инж. И. В. Филипович. К вопросу о производстве канифоли и скипидара по экстракционному методу. Журн. „Хим. промышленность". № 8, 1925 г.

Першы завод існуе і ў сучасны момант на Вятлузе, другі застаўся недабудаваным. У апошні час на Вятлузе, на рэчцы Вахтан, быў пабудован пад кіраўніцтвам інжынэра *І. В. Філіповіча* вялікі каліфонева-экстракцыйны завод, які і працуе ў гэты час Апрача гэтага мяркуецца пабудова гэткага-ж заводу на Котласе.

## II. Пнёвыя смалякі, як сыравіна для каліфонёва-экстракцыйнай і шпігінарнай прамысловасьці.

Як вядома, тканка драўніны іглястых парод пранізана як у вэртыкальным, так і ў гарызантальным напрамку асобнымі каналамі, якія напоўнены смалой і называюцца „смалянымі ходамі". Лік і велічыня гэтых каналаў зьмяняецца ў залежнасьці ад цэлага шэрагу фактараў; на паўднёвым баку ствала[1]) смаляных хадоў больш, чымся на паўночным, затым у ніжняй частцы ствала смаляных хадоў больш, чым ся ў верхняй. Унутраныя слаі драў ніны ствала бяднейшыя смалянымі хадамі за знадворныя. Майр, па ліку смаляныххадоў на першае месца ставіць Вэймутаву хвою *Pinus strobus*), затым звычайную хвою (*Pinus silvestrais*) і нарэшце елку (*Pices excelsa*). Колькасьць смалы ў дрэве з лежыць таксаме ад разьмераў смаляных хадоў. У гэтых адносінах розныя дрэвы моцна розьняцца адно ад аднаго. Майр дае наступныя суадносіны для вэртыкальных смаляных хадоў: калі прыняць у Вэймутавай хвоі ў ніжняй частцы ствала разьмер вэртыкальнага ходу за 10, то ў верхняй частцы разьмер ходу будзе 9. У хвоі звычайнай 9 і 7 і ў елцы 6 і 5.

Разьмер гарызантальных смаляных хадоў значна меншы, чымся вэртыкальных і тут суадносіны выяўляюцца так: у Вэймутавай хвоі 4, у звычайнай хвоі 3,5 і ў елкі 3.

Такім чынам звычайная хвоя па шырыні вэртыкальных і гарызантальных каналаў займае сярэдняе месца.

Што да ліку смаляных хадоў, то той-жа Майр паказвае, што вэртыкальных смаляных хадоў у 100-гадовай елкі ў разрэзе пасярэдзіне ствала выявілася 44.000, а гарызантальных у хвоі 125 гадовай на 1 кв. см. тангентальнай паверхні налічвалася 63, у 150-гадов.—59. Наогул-жа смаляных хадоў больш у самай верхняй частцы дрэва і ў ніжняй (прычым у ніжняй больш, чымся ў верхняй), чымся ў сярэдняй частцы. Ад такога разьмяшчэньня смаляных хадоў залежыць і утрыманьне смалы ў дрэве. Самая багатая смалой частка дрэва драўніна кораня, самая бедная—драўніна гладкага ствала (сярэдняй часткі). Тут мы падаем больш навейшыя дадзеныя аб разьмяшчэньні смалы ў хвоі[2]).

| Вышыня зрэзу / Высота среза | Узімку / Зимой | Улетку / Летом | У канцы лета / В конце лета |
|---|---|---|---|
| | У процантах / В процентах | | |
| Ля асновы дрэва У основания дерева | 28,3 | 23,6 | 9,3 |
| На вышыні 0,36 мэтр. На выс 0,36 м. | 10,3 | 5,68 | 5,63 |
| „ 3,02 „ | 9,05 | 11,98 | 6,22 |
| „ 5,68 „ | 8,78 | 8,75 | 2,30 |
| „ 8,34 „ | 4,45 | 2,27 | 8,60 |
| „ 11,89 „ | 4,42 | 9,8 | 8,0 |
| „ 16,15 „ | 4,02 | 7,85 | 2,28 |
| „ 18,99 „ | 7,10 | 1,96 | 2,99 |

[1]) В. Тищенко. Канифоль и скипидар.

[2]) И. В. Филипович и В. А. Высоцкая. К вопросу о распределении и свойствах смоляных веществ в различных частях ствола Pinus silvestris. Журн. „Химическая Промышленность". 1927 г. № 12.

З гэтай таблiцы вiдаць, што смала канцэнтруецца ў нiжняй частцы дрэва. Тут неабходна каротка спынiцца на пытаньнi—што-ж выяўляе з сябе матэрыя, якая напаўняе смаляныя хады дрэў iгластых парод i носiць агульную назву смалы? Смала атрыманая з iгластых дрэў непасрэдна з смаляных хадоў завецца прыроднай смалой у адзнаку ад смалы, атрыманай сухой перагонкай драўнiны iгластых парод (першая па нямецкай тэрмiналёгii называецца *Harz*, а другая *Teor*). Прыродная смала называецца часьцей за ўсё тарпатынай альбо жывiцай. Тарпатына, альбо жывiца, складаецца з дзьвёх частак—з лятучай часткi тарпатынавага алею альбо шпiгiнару i цьвёрдай нелятучай калiфонi i выяўляе сабой раствор калiфонi ў шпiгiнары. Iншыя аўтары iнакш азначаюць, што такое тарпатына.

Праф. *Фловiцкi* кажа, што тарпатына ёсьць складанае i нятрывалае хэмiчнае злучэньне, якое распадаецца пры перагонцы з вадзяной парай[1]). Па сваёй хэмiчнай прыродзе жыдкая складаная частка жывiцы—шпiгiнар зьяўляецца сумесьсю iзамерных тэрпэнаў, якiя сустракаюцца ў розных колькасных стасунках. Як вiдаць з апошняй працы *Б. Арбузава*[2]) жывiчны шпiгiнар мае наступны склад: d пiнэну 81%, d[3] карэну—14% вышэйшых фракцый—5%. Што да другой складанай часткi тарпатынын-то гэтакая належыць да катэгорыi (па Чырку) рэзiнола-кiслых смол i выяўляе сабой, згодна дасьледваньняў праф. *В. В. Шкацелава*[3]), (што зьяўляецца вынiкам шматгадовай працы праф. *В. В. Шкацелава* ў гэтай галiне), сумесь чатырох крышталiчных iзамерных кiслот i аднэй цi можа быць некалькiх аморфных. Крышталiчныя кiслоты праф. *В. В. Шкацелаў* называе сiльвiнавымi альбо пiмаравымi з формулай $C_{20}H_{30}O_2$; i замеры гэтых кiслот будуць альфа, бэта, гама i дэльта кiслоты. Не крышталiчная кiслата названа iм пiненавай.

У апошнi час зьявiлася гiпотэза францускага вучонага *Dupont'a* аб узаемнай сувязi шпiгiнару з смалянымi кiслотамi. Гэтая гiпотэза ў сучасны момант набывае ўсё больш i больш прыхiльнiкаў.

Дзюпон дапускае, што ў жывым дрэве да выцячэньня з яго тарпатыны, у смаляных хадох знаходзiцца не раствор смалы ў шпiгiнары, а першапачатковая матчынская матэрыя, якая толькi ў часе выцячэньня, пад уплывам энзiматычных працэсаў дае тарпатыну[4]). Дзюпон выходзiць з працы Клясона i Нэлера, якiя вызнайшлi ў жывiцы з *Pinus Albes* матэрыю алдэгiднага характару $C_{10}H_{16}O$. Дзюпон дапускае, што рэакцыя пры дзейнiчаньнi фэрмэнту працякае па раўнаньню: $3C_{10}H_{16}O—C_{10}H_{16} + C_{10}H_{30}O_2 + H_2O$.

Абмяжуемся гэтымi кароткiмi вытрымкамi з сучаснай лiтаратуры аб складзе i хэмiчнай прыродзе смалы i пяройдзем цяпер да разгляду смалякоў, якi зьяўляецца сыравiнным матар'ялам дзеля атрыманьня калiфонi i шпiгiнару з мёртвай драўнiны.

Тарпатына, якая знаходзiцца у адмершай драўнiне, завецца мёртвай тарпатынай[5]). Гэтай тарпатыны спосабам падсочкi (якiм тарпатына дабываецца з жывой драўнiны) з адмершай драўнiны дабыць нельга. Адмершыя часткi дрэва, прапiтаныя тарпатынай, завуцца смалякамi, альбо асмолкам. *Па паходжаньню смалякi падзяляюцца на два вiды: смалякi*

[1]) В. И. Лебедев. Терпентинный промысел на севере 1928 г.

[2]) Б. Арбузов. О химическом составе русского живичного скипидара из Pinus silvestris. Журн. Физико-Химического О-ва, том TLXI, вып. II.

[3]) Проф. В. В. Шкателов. О составе Белорусской живицы i т. д. Записки Белорусской Госуд. Академии С. и Л. Хозяйства, том IV, 1927.

[4]) Dupont. Les essences de Therebenthine. 1926.

[5]) Проф. Е.И. Любарский. Живой и мертвый терпенетин Владивосток. 1925 г.

*прыродныя і смалякі штучныя*. Штучныя смалякі выяўляюць сабой часткі дрэва, у якіх пры яго жыцьці былі штучным шляхам (падсочкай) выклікана ўзбагачэньне смалой. Такі від смалякоў праф. *Е. І. Любарскі* называе паскоранымі штучнымі смалякамі.

Прыродныя смалякі, як азначае праф. *Е. І. Любарскі*, выяўляюць сабой „хваёвыя пні і корані, якія ўзбагаціліся смалою дзейнічаньнем атмасфэрных агентаў і часу".

Далей, ён так уяўляе працэс утварэньня смалякоў: пні і корані, якія засталіся пасьля высечкі хваёвага лесу, падпадаюць двум галоўным уплывам—вільгаці і паветра. Дажджы і вільгаць, што змачылі пні, перш за ўсё спрыяюць гніцьцю абалоны. У той-жа час вада, трапіўшы ў знадворныя канцы смаляных хадоў, імкнецца з прычыны капілярнасьці пранікнуць унутр і выцесьніць тарпатыну з пэрыфэрычных слаёў у больш глыбокія. Адбываецца нібы канцэнтрацыя тарпатыны ў напрамку да цэнтру. Цераз 6—10 год уся тарпатына канцэнтруецца ў асяродку, а слаі абалоны згніваюць і адвальваюцца. З гэтага часу пень прызнаецца смалярамі годным для смалярства. Тэрмін 6—10 год не заўсёды зьяўляецца тэрмінам высьпяваньня смалякоў, бо ў працэсе высьпяваньня смалякоў мае вялізнае значэньне цэлы шэраг фактараў, як глеба, клімат і інш. Згодна іншых дадзеных, аптымальным тэрмінам высьпяваньня смалякоў трэба лічыць 16—25 год. Апрача таго, тут неабходна ўлічваць другую вельмі важную акалічнасьць. Справа у тым, што ня ўсе хваёвыя пні ператвараюцца ў смалякі, і, наглядаючы хваёвую высечку, скажам, цераз 8—10 год, мы на ёй можам знайсьці пні, якія добра захаваліся, і побач з імі зусім згніўшыя. Прафэсар *Е. І. Любарскі*, знаходзіць тлумачэньне гэтай зьявы ў большым ці меншым утрыманьні тарпатыны ў ніжніх частках дрэва ў момант яго высечкі. Калі тарпатыны мала, то яна разьмяшчаецца маленькімі асобнымі вучасткамі, драўніна не прапітваецца цалкам смалой—гніе і крышыцца. Калі-ж у момант высечкі тарпатыны было многа, то яна цалкам прапітвае асяродак, абалону з працягам часу абгнівае, і пень ператвараецца ў смаляк. Існуе думка, што чым смаляк старэйшы тым ён лепшы. Гэта правільна толькі ў выпадку звычайнага смалярства, што-ж датычыцца больш дасканалага скарыстаньня смалякоў, дык тут, па думцы праф. *Е. І. Любарскага*, ёсьць вядомы optimum, пасьля якога каліфоня і шпігінар, якія знаходзяцца ў смаляку, падпадаюць глыбокім зьменам. З працягам часу раўналежна з накапленьнем правільнай з канцэнтрацыяй тарпатыны ў пнёх апошняя падпадае фізыка-хэмічным зьменам. Вось якія рэакцыі [1]) маюць месца на працягу доўгіх год у пнёвых смаляках: 1) зьяў гідратацыі, якія абумоўліваюцца наяўнасьцю паўторных сувязей у малекулах тарпатыны і смаляных кіслот, а таксама вільготнасьцю і слаба-кіслым асяродзішчам (гумінавыя кіслоты глебы, дубільныя кіслоты кары); 2) этарыфікацыя—мажлівасьць злучэньня утварыўшыхся тарпатынавых алькогаляў з асмаленымі кіслотамі ў складаныя этары; 3) зьява атляняньня, прылучэньне кісларод, па месцу паўторных сувязай, з паветра; 4) зьява палімэрызацыі і згушчэньня, якім спрыяе наяўнасьць: неграні́чных часьцінак, гідраксыляў, альдэгідных груп і арганічных кіслот.

З вышэйвыкладзенага зусім зразумела, што сьвежыя сярэднія і старыя смалякі будуць даваць розныя па якасьці і колькасьці прадукты. У заканчэньні гэтага разьдзелу неабходна спыніцца на існуючых спосабах скарыстаньня смалякоў і іх галоўнейшых недахопах. Адзіным па-

[1]) Проф. Е. И. Любарский. Живой и мертвый терпентин.

шыраным спосабам пераапрацоўкі смалякоў зьяўляецца сухая перагонка яго і, толькі ў апошні час, ваўсёй паўнаце ставіцца пытаньне аб больш рацыянальнай утылізацыі смалякоў з мэтай атрыманьня з яго каніфолі і шпігінару экстракцыйным мэтадам.

Пры сухой перагонцы смалякоу, якая адбываецца на саматужных заводах, атрымліваюцца два прадукты—шпігінар і смала, прычым абодва гэтыя прадукты бываюць рознай якасьці. Шпігінар атрымліваюць чырвоны, жоўты (цытрынавы) і белы. Смалу—густую і жыдкую альбо „паравую". Такім чынам мы бачым, што пры сухой перагонцы зусім не атрымліваецца каліфоня, а замест яе параўнальна малакаштоўны прадукт—смала, і апрача таго, шпігінар, які атрымліваецца пры сухой перагонцы, рэзка адзначаецца па сваёй якасьці ад жывічнага. Прычыны гэтага ляжаць у тым, што аснаўныя працэсы, якія складаюць сутнасьць шпігінарна-смалярнага вытвару, ускладняюцца многімі пабочнымі зьявамі, галоўным чынам, пірагенэтычнага характару[1]).

Сухая перагонка ёсьць працэс распаду, працэс глыбокага распаду матэрыі[2]). У працэсе сухой перагонкі раскладаюцца ўсе складаныя часткі смаляку, у тым ліку і каліфоня, якая пад уплывам высокай тэмпэратуры досьць цэлы шэраг прадуктаў пірагенэтычнага распаду, якім, апрача газаў, зьяўляюцца: гранічныя вуглявадароды, негранічныя і араматычныя фэноны і фэнольныя этары смаляных кіслот і інш.

Што датычыцца другога прадукту—шпігінару, дык ён з прычыны сваёй уласьвасьці пераганяецца, без раскладу, не раскладаецца, а па выразу праф. *Е. І. Любарскага* „хэмічна дэнатуруецца". Частка шпігінару выпараецца ў пачатку працэсу сухой перагонкі, галоўная-ж маса яго, якая знаходзіцца ў тоўшчы смаляку, аслабаняецца толькі пры тэмпэратуры 200—280°, (калі значная частка драўніны ўжо раскладзецца). Пры такой высокай тэмпэратуры адбываецца частковае ператварэньне галоўнай складнай часткі шпігінару пінэну—у дыпэнтэн, асабліва энэргічна ідзе гэты працэс ізамэрызацыі пінэну пры наяўнасьці кіслот і фэнолаў, якія заўсёды маюцца ў прадукцыі сухой перагонкі. Наяўнасьць у шпігінары дыпэнтэну моцна зьніжае яго тэхнічныя вартасьці. Прафэсар *Е. І. Любарскі* ў сваёй кнізе „Живой и мертвый терпентин" падае такую расцэнку шпігінараў, якая існавала ў 1912 годзе: францускі шпігінар 8 р. 50 к.—9 руб., амэрыканскі і расійскі сярчаны 8 руб. і расійскі белы (сухаперагоначны)—8 р. 50 к. за пуд. У францускім пінэну да 90% у амэрыканскім—да 85%, у сухаперагоначным—нявызначаная (моцна вагаецца) але малая колькасьць[3]). З вышэйпададзеннага вынікае, што новыя спосабы атрыманьня каліфоні і шпігінару павінны базавацца на ўмовах мажліва поўнага адхіленьня шкоднага ўплыву высокай тэмпэратуры і кіслага асяродзьдзя.

Экстракцыя каліфоні з пнёў найбольш разьвіта ў Паўночнай Амэрыцы, дзе здабываньне жывічнай каліфоні пачынае зьмяншацца. Там, аднак, стараюцца дабываць смалу з найбольш багатых смалой падсочных пнёў (ligh wood), якія маюць у сабе ад 20 да 25% смалы; пні, якія маюць менш за 15% смалы, апрацоўцы не падпадаюць, прычым трэска пад-

---

[1]) П. А. Бобров. О составе древесной смолы. „Журнал Прикладной Химии", том II, вып. 4, 1929 г.

П. А. Бобров. Смолокурение и его продукты. Отд. издание 1926 г.

[2]) Проф. Е. И. Любарский. Живой и мертвый терпентин. 1925 г.

[3]) Беларускія сухаперагоначныя шпіганары даюць пінэнавы франц. у %—22; 9; 71 8,08; 4,81; 2,44; 4,33; 36,1 и 18,2.

Коротков и Тросько. Полесское смолокурение.

лягае папярэдняму высушваньню. Высушваньне адбываецца ў катлах з падвойнымі сьценкамі, у прамежкі якіх пускаюць пару, а з памяшканьня трэскі выкачваюць паветра вада хутка выпараецца і згушчаецца пад разражаньнем у зьмеявікох халадзільніку. Гэтым шляхам экстракцыя ідзе найбольш поўна і ў трэсцы застаецца толькі нязначная колькасьць смалы. Звычайна ў Амэрыцы (на вядомых заводах Heplules Powder Cy) атрымліваюць ня менш 12 кг. каліфоні з тоны трэскі. Атрыманая каліфоня ўладае заўсёды больш чырвоным колерам, чымся запраўдная, больш ліпучая і павінна быць апрацована, каб атрымаць належную цьвёрдасьць, доўгі час перагэтаю параю.

Шпігінар таксама атрымліваецца неаднародны і пры перагонцы падзяляецца на дзьве фракцыі, з якіх першая ($^2/_3$) пераходзіць пры 155—178°, і гэтая фракцыя досыць сходна з жывічным, другая фракцыя каля $^1/_3$ выяўляе хваёвы алей (pin oel), які пераганяецца вышэй 200° і адзначаецца ад жывічнага; гэты алей ідзе на атрыманьне розных вытворных тэрпэнаў. Трэскі, якія застаюцца, у Амэрыцы ідуць на апальваньне паравых катлоў.

Найбольш рацыянальным скарыстаньнем трэскі зьяўляецца перадача яе на сульфатна-цэлюлёзныя заводы для пісчай паперы; у такім выпадку рацыянальнасьць вытвару павялічваецца і дасьць магчымасьць працаваць і з менш багатым, чымся 15 %, смаляком. Згодна дадзеных Дзюпона [1]), для заводу ў Марсэлі, які па разьмерах вытвару блізка стаіць да нашага экстракцыйнага заводу Вахтана, выдаткі на 300 працоўных дзён с перапрацоўкай 15000 тон смалякоў будуць наступныя (у франках):

| | |
|---|---|
| Рабочы пэрсанал . . . . . . . . . . . | 250000 фр. |
| Звычайныя тэхнічныя выдаткі . . . . | 200000 „ |
| Страта растворніку 35[2]) на тону . . . | 1550000 „ |
| Смалякі (15000 тон па 90 фр.) . . . | 1250000 „ |
| Апал — 7500 тон дроў па 70 фр. . . . | 525000 „ |
| Усяго выдаткаў . . . | 3375000 фр. |
| Альбо па тону . . . . . . . . . . . | 225 фр.[3]) |

Як мы бачым, у выдатках вытвору страта растворніку займае другое месца і складае каля $^1/_3$ усяго выдатку.

Калі трэска, якая застаецца, будзе ўжывацца, як апал, як гэта робіцца ў Амэрыцы, дык яе кошт выявіцца:

$$\frac{525000 \text{ фр.}}{15000} = 35 \text{ фр.}$$

Сабекошт смалы выявіцца:

$$225 \text{ фр.} - 35 \text{ фр.} = 190 \text{ фр.}$$

Калі лічыць кошт каліфоні ў 1 фр. 35 сант. за кілё, гэтая пераапрацоўка будзе рэнтабельна, калі выхад яе будзе вышэй 145 кг. з тоны, г. зн. калі ў асмолку будзе звыш 14,5% смалы.

Для папяровага вытвару можна лічыць па 180 фр. тону абясcмаленай стружкі ў сухім стане і калі, з другога боку, дапусьціць, што першапа-

---

1) Des essenees le Terebenthine 175.

2) Тое-ж, што і на заводах Hercules Powder Cy. 8—10 галёнаў тонну.

3) Лічба трохі выпраўлена с 228.66% на 225 паводле друк. памылкі ў лічбе страт бэнзыны.

чатковыя смалякі былі з 30 % вады, то такая тона дасьць 700 кг. сухой абяссмалянай трэскі і будзе каштаваць 125 фр.

Тады сабекошт выявіцца:

$$225 - 126 = 99 \text{ франкаў},$$

г. зн. рэнтабельнасьць значна падвысіцца, што дасьць магчымасьць працаваць з сушанай да 8 % вады трэскай і пры меншых утрыманьнях смалы.

## III. Якасьць беларускіх смалякоў.

Для каліфонева-экстракцыйнага вытвару сырцовым матар'ялам могуць служыць: смальлё, падсочка, смалякі пнёвыя, калоднікавыя смалякі. На першае месца, як па ўтрыманьні каліфоні, так і па колькасьці запасаў у нашых лясох, неабходна паставіць—пнёвы смаляк. З папярэдняга раздзелу можна ўгледзіць, што атрыманьне каліфоні ў смалякох, з прычыны цэлага шэрагу фактараў, можа падпадаць значным ваганьням. Апошняя акалічнасьць паказвае на тое, што папярэдняе дасьледваньне смалякоў на ўтрыманьне ў іх каліфоні мае вялікае значэньне, бо посьпех каліфонева—экстракцыйнага вытвару ў першую чаргу залежыць ад колькасьці каліфоні ў сыравіне і затым ужо ад цэлага шэрагу іншых фактараў, як: выдатак растворніку, выдатак апалу, пары і інш.

Смалякі дзеля дасьледваньня браліся са спробных плошчаў, закладаемых на хваёвых высечках з мэтаю падліку колькасьці смалякоў. Дзеля вызначэньня якасьці шляхам лябараторнага дасьледваньня браліся ўзоры смалякоў ў выглядзе сэктараў[1]), якія высякаюцца па даўжыні з усяго выкапанага з глебы пня і разьмерам прыкладам 1/6 акружыны пня. Са спробных плошчаў браліся розныя колькасьці ўзораў у залежнасьці ад умоў і месцазнаходжаньня пня і ад аднароднасьці смалякоў данай плошчы, у большасьці выпадкаў ня менш 6 (у некаторых выпадках як выключэньне браліся 3—5 узораў). Высечаныя сэктары ачышчаліся ад абалоны і адпраўляліся для дасьледваньня ў лябараторыю. З дня выкапкі пня і да атрыманьня яго ў лябараторыі праходзіла maximum 5—6 дзён. Такім чынам з кожнай плошчы мы атрымоўвалі адзін (калі 6 узораў) альбо некалькі цэлых пнёў, якія складзены з розных пнёў. Вызначаныя колькасьці каліфоні і шпігінару ў такіх узорах (сэктарах) давала прыкладам сярэднюю колькасьць каліфоні і шпігінару ў смалякох данай спробнай плошчы. Пры ўзяцьці ўзораў улічвалася: сьпеласьць пнёў (колькі год знаходзіўся пень у глебе пасьля высечкі дрэва), дыямэтр пнёў дзе магчыма было яго вызначыць, тып дрэвастану, глеба. У лябараторыі па ўсей даўжыні кожнага сэктару выпілоўваліся пласткі цераз кожныя 2 вяршкі, таўшчынёй у 20 мм. Пласткі гэтыя раскалваліся на палачкі таўшчынёй 1,5—2 мм., уся трэска данага сэктару пільна перамешвалася, і з яе бралася наважка для вызначэньня каліфоні і раўналежна бралася наважка для вызначэньня вільготнасьці. Прымаючы пад увагу вызначэньне вільготнасьці ў драўніне наогул (у сэнсе атрыманьня сталай вагі), неабходна паказаць, што ў выпадку смалякоў гэта амаль немагчыма. Пры звычайным мэтадзе сушкі, г. зн. пры сушцы пры 105° у паветранай ваньне і пэрыядычных узважваньнях (цераз 2—3 гадзіны) мы не атрымалі сталай вагі.Пры сушцы наважкі смалякоў, апрача страчваньня вільгаці, адбываецца вытыханьне шпігінару, атлянаньне смалістых матэрый таму мы

[1]) G. Dupont. Destillation du bois. 1924, стр. 18.

прынялі ўмоўны мэтад вызначэньня вільготнасьці ў смалякох. Наважку трэскі мы сушылі ў паветранай ваньне пры 100° на працягу 12 гадзін, пры чым узважваньне адбывалася: 1-ае цераз 6 гадзін, 2-ое цераз 9 гадз. і апошняе—цераз 12 гадзін. Як паказаў досьлед, вынікі атрымаліся здавальняючыя, і пасьля такой 12 гадзіннай сушкі мы лічылі, зразумела, умоўна, што ўся вада з смалякоў выдалена.

Вызначэньне каліфоні ўтваралася мэтадам 6-ці гадзіннай акстракцыі этарам у апараце Соксьлета. Пасьля экстракцыі этар адганяўся, і каліфоня сушылася ў паветранай ваньне ў струмені вуглякіслаты на працягу 2 гадзін пры 160° С (апошняе таксама зьяўляецца ўмоўным).

Трэскі, якія засталіся пасьля экстракцыі, сушыліся ў паветранай ваньне да сталай вагі і ўзважваліся. Колькасьць шпігінару вызначалася па розьніцы.

Існуючыя ў літаратуры мэтады[1]) вызначэньня колькасьці смалы ў залежнасьці ад растворніку і тэмпэратуры яе абязвожваньня альбо сушкі. Але ў апошні час, замест сьпірытусу, усе застанаўляліся на этары, як дабываючым матэрыю. Але, аднак, звычайна ўжываемая сушка пры нізкіх тэмпэратурах (103—105°) усё-ж дае нязгодныя пераўвялічаныя вынікі і зусім не вырашае пытаньня, якое нас займае, аб колькасьці ўласна каліфоні якая можа быць дабыта з дрэва альбо смалякоў.

На самай справе ў дабываемай этарам смале маюцца матэрыі, якія разнастойна адносяцца да высокай тэмпэратуры,—этарнае масла, што лёгка, але ня зусім выпараецца пры сушцы да 103—105°, гідратная вада з атляняльнай прыроднай жывіцы і нарэшце самая смала, якая даволі прагна паглынае пры сушцы тлен паветра. Усе гэтыя фактары пры вызначэньні смалістасьці, альбо смалы вядуць да праўвялічаных вынікаў, бо гідратная альбо канстытуцыйная вада ніколі не выдаляецца пры такой нізкай тэмпэратуры.

Падставы да такога палажэньня будуць наступныя:

1) Шпігінар, хоць і выпараецца, але, будучы цесна злучаны з цьвердай часткай смалы, заўсёды павінен застацца ў некаторай колькасьці. Апрача таго, гэты астатачны шпігінар атляняецца пры звычайнай сушцы ў сушыльнай шафе.

2) Дабытая этарам смала альбо праўдзівей смаляная кіслата ў большай яе частцы ніколі не выяўляе ў сябе індывідуальную смаляную кіслату (абіэтынавую, альбо сільвінавую кіслату $C_{20}H_{30}O_2$), якая вады не зьмяшчае і награваньнем не раскладаецца, а заўсёды ў ёй дамешана ў большай ці меньшай колькасьці прадукты яе атляненьня, якія топяцца пры падвышанай тэтпэратуры, багата выдаляючы гідратную альбо канстытуцыйную ваду, і пэратвараюцца ў трывалую, бязводную матэрыю—каліфоню. Такім чынам, пры сушцы да 105° заўсёды некаторая колькасьць такой вады павінна заставацца.

3) Самая дабытая каліфоня ў растопленым выглядзе (яна топіцца каля 70°) прагна паглынае тлен і таксама павялічвае вагу астачы. Такім чынам, сухая астача не выяўляе з сябе чаго-небудзь сталага па складзе і вельмі зьменна ў залежнасьці ад уласьцівасьцяй і складу, які знаходзіцца ў драўніне смалы. Адны вынікі атрымліваюцца для больш сьвежай смалы, іншыя для старых пнёў, дзе прысутнічаюць ужо іншыя кіслоты і нелятучыя часткі шпігінару, якія атляніліся.

Але ўсе гэтыя матэрыі, у канцовай стадыі награваньня даюць значна больш вызначаную ангідрыдную матэрыю—каліфоню. Дамешаны да

[1]) Гл. Праф. В. В. Шкацелаў і асьпірант Сініцкі—Аб смалістасьці беларускай хвоі. „Працы Беларускага Навуковага Таварыства“, 1929 г. На белар. мове).

смалы шпігінар выпараецца пры 155—160°, а смала (альбо жывіца, апрацованая парай) таксама ператвараецца ў каліфоню пры тэй-жа тэмпэратуры 150—160°.і, значыцца, дзеля атрыманьня сталых і больш зьвязаных з тэхнікай вынікаў, неабходна ўтвараць асушку ў канцавой стадыі да гэтай тэмпэратуры да 160°, пры чым смалу неабходна хаваць ад атляненьня, прапускаючы ў коўбачку з астачай пасьля адгонкі этару ток інэртнага газу, прасьцей за ўсё вуглякіслату $CO_2$. Гэтым шляхам атрымліваюцца досыць сталыя і згодныя вынікі. Спосаб азначэньня смалістасьці па кіслотнасьці з дапамогай тытраваньня таксама ня можа даць вычарпальных вынікаў, бо ў драўніне часта знаходзяцца смалістыя матэрыі ня кіслотнага характару, ды апрача таго, прадукты рознай стадыі атляняньня дадуць розныя кіслотныя лікі, па якіх цяжка будзе разважаць аб сапраўдных выхадах каліфоні

Такім чынам, на падставе прыведзеных меркаваньняў і выпрацаванага мэтаду ў Тэхналёгічнай лябараторыі Беларускай С.-Г. Акадэміі і прынята канцавая тэмпэратура сушкі ў 160° С.

У дадатку № 1 даюцца вынікі аналізаў пнёвых смалякоў. Пры вывучэньні атрыманых дадзеных перш за ўсё зьвяртае ўвагу вельмі разнастайнае процантнае ўтрыманьне каліфоні ў смалякох. Нават у адносна аднолькавых умовах, у адным і тым-жа лясьніцтве, на лесасеках аднаго і таго-ж году высечкі мы маем рознае ўтрыманьне каліфоні у смалякох. Так напрыклад: у Зялёнацкім лясьніцтве ў аднэй дачы гэтага лясьніцтва маюцца 10 гадовыя смалякі, якія маюць у сярэднім 17,7% каліфоні, у другой-жа дачы гэтага ж лясьніцтва, таксама маюцца 10 - гадовыя смалякі, але маючыя 21,49% каліфоні г. зн. на 4% болей. Калі-ж параўняць смалякі іншай акругі, напрыклад Полацкай (Громаўскае Л-ва) са смалякамі Зялёнацкай дачы, прычым. смалякі аднолькавай сьпеласьці (у Громаўскім 11—гадовыя), дык мы атрымаем (21, 49—14, 18—6, 68%) розьніцу амаль у 7%. Тут, зразумела, неабходна ўлічваць уплыў цэлага шэрагу фактараў, якія вынікаюць з самага мэтаду ўзяцьця спроб, як выпадковасьць узору, малая колькасьць узораў і да т. п., але з другога боку, атрыманыя дадзеныя даюць магчымасьць сказаць што ўтварэньне смалякоў выяўляе ѕ сябе вельмі складаны працэс, у якім паміма цэлага шэрагу фактараў (як хэмічных, так і фізычных), вельмі вялікае значэньне маюць такія фактары, як глебавыя ўмовы і зьвязаныя з імі тыпы дрэвастанаў.

Апрача таго правы пэўна праф. *Е. І. Любарскі*, які паказвае, што ня кожны хваёвы пень з працягам часу ператвараецца ў смаляк і што пасьпяховае ўтварэньне смаляку залежыць ад смалістасьці дрэва (у ніжняй яго частцы) у момант яго высечкі [1])

У табліцы № 1 вынікі аналізаў згрупаваны па тыпах дрэвастанаў прычым у апошніх 2-х графах табліцы падаюцца сярэднія памылкі сярэдніх (па лясьніцтвах) утрыманьняў каліфоні. Памылкі гэтыя вылічаны па формуле:

$$m = \pm \frac{C}{\sqrt{n}}$$

дзе сыгма ёсьць квадратычнае адхіленьне. У апошняй графе вылічаны сярэднія памылкі сярэдніх памылак па дадзенаму тыпу дрэвастанаў па формуле:

$$m_0 = \pm \frac{\sqrt{m_1^2 + m_2^2 + m_3^2}}{n}$$

[1]) Гл. папярэдні разьдзел.

Табліца № 1
Таблица

| Тып дрэвастану<br>Тип насаждения | Глеба<br>Почва | Сьпеласьць смалякоў<br>Спелость осмола | Сярэдн. d<br>Среднее | % утрыманьня ў адносінех абсалютнай сух. смалякоў<br>% содержания по отнош. абсолютн. сух. осмола | | Лік аналіз.<br>Число анализ. | $m_1 = \pm \frac{\delta}{\sqrt{n}}$ | $m_0 = \sqrt{m_1^2 + m_2^2 \ldots}$ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Каліфоня<br>Канифоль | Шпігінар<br>Скипидар | | | |
| Бор зялёнаімшарнік<br>Бор зелено-мошник | Пяшчан.<br>Песчаная | 8 | 37 | 17,03 | 3,26 | 5 | 3,34 | |
| | " | 10 | 40 | 13,74 | 3,60 | 5 | 2,28 | |
| | " | 12 | 36 | 16,14 | 2,39 | 12 | 2,0 | 1,18 |
| | " | 17 | — | 19,70 | 2,0 | 6 | 3,72 | |
| | " | 18 | 38 | 20,88 | 3,36 | 10 | 1,16 | |
| | Сярэдн.<br>Среднее | — | — | 17,49 | 2,92 | 38 | — | |
| Бор верасовы<br>Бор вересковый | Пяшчан.<br>Песчаная | 10 | 32 | 21,49 | 2,61 | 12 | 2,02 | |
| | " | — | — | 17,71 | 2,26 | 11 | 1,44 | |
| | " | 15 | — | 27,96 | 2,18 | 3 | 3,56 | |
| | " | 16 | — | 19,08 | 2,74 | 8 | 1,13 | 0,82 |
| | " | 16 | — | 25,85 | 1,43 | 6 | 3,01 | |
| | " | 16 | — | 19,52 | 2,60 | 6 | 3,26 | |
| | " | 16 | 28—40 | 15,91 | 2,44 | 12 | 1,15 | |
| | " | 18 | 26 | 19,90 | 1,87 | 14 | 1,76 | |
| | Сярэдн.<br>Среднее | — | — | 20,92 | 2,26 | 72 | — | |
| Бор ягаднікавы<br>Бор ягодников. | Пяшчан.<br>Песчаная | 10 | 40 | 12,83 | 3,10 | 3 | 0,57 | |
| | " | 10 | 40 | 15,95 | 1,75 | 7 | 1,46 | |
| | " | 14 | 30 | 21,58 | 3,15 | 6 | 3,00 | |
| | " | 14 | 38 | 16,39 | 1,79 | 6 | 2,98 | |
| | " | 15 | 50 | 22,35 | 2,68 | 14 | 1,97 | 0,74 |
| | " | — | — | 19,05 | 2,19 | 11 | 1,56 | |
| | " | 16 | — | 20,08 | 3,51 | 3 | 3,31 | |
| | " | 17 | 35 | 18,13 | 3,14 | 8 | 1,17 | |
| | " | 17 | — | 18,84 | 1'62 | 6 | 2,44 | |
| | Сярэдн.<br>Среднее | — | — | 18,35 | 2,56 | 64 | — | |
| Перах. тып ад зялёнаімшарн. да сублоти.<br>Перех. тип от зеленомошника к суболоти. | Пяшчан. мясцамі забалоч.<br>Песчанная местами заболоч. | — | 20—40 | 12,78 | 1,25 | 23 | 1,11 | 1,22 |
| | | 20—25 | 32—45 | 20,08 | 3,80 | 10 | 2,25 | |
| | Сярэдн.<br>Среднее | — | — | 16,43 | 2,52 | 33 | — | |
| Субар<br>Суборь | Супясок<br>Супесь | 7 | — | 17,07 | 1,15 | 5 | 3,23 | |
| | " | 7 | 40 | 14,91 | 1,38 | 12 | 1,42 | |
| | " | 11 | 40 | 14,81 | 1,55 | 12 | 1,45 | 0,91 |
| | " | 15 | 35 | 14,38 | 2,44 | 11 | 1,22 | |
| | " | 21 | 32 | 16,62 | 1,81 | 10 | 2,20 | |
| | Сярэдн.<br>Среднее | — | — | 15,55 | 1,66 | 50 | — | |

Табліца
Таблица № 2



| Акруга<br>Округ | Лясьніцтва<br>Лесничество | Сьпеласьць асмалякоў<br>Спелость осмола | Сярэдняе ўтрыманьне ў % у адносінах абсалют. сух. смаляк.<br>Среднее содержание в % по отнош. абсолютн. сух. осмола<br>Каліфоня<br>Канифоль | Шпігінар<br>Скипидар | Лік аналіз.<br>Число анализ. | $m_1 = \pm \frac{\sigma}{\sqrt{n}}$ | $m_0 = \frac{\sqrt{m_1^2 + m_2^2}}{n}$ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Менская<br>Минский | Нманіцкае . . Неманицкое | 7 | 14,91 | 1,38 | 12 | 1,42 | |
| | Вілейскае . . . Вилейское | 18 | 19,90 | 1,87 | 14 | 1,76 | |
| | Зэмбінскае . . Зембинское | 19 | 12,78 | 1,25 | 23 | 1,11 | |
| | Барысаўскае . . Борисовское | 16 | 19,08 | 2,74 | 8 | 1,13 | |
| | Красналуцкае . Краснолукское | 17 | 19,70 | 2,0 | 6 | 3,72 | 8,83 |
| | Пруд-Баранскае . Пруд-Баранское | 17 | 18,84 | 1,62 | 6 | 2,44 | |
| | Бярэзінскае . . Березинское | 16 | 25,85 | 1,43 | 6 | 3,01 | |
| | Арэшкавіцкае . Орешковичское | 16 | 19,52 | 2,60 | 6 | 3,26 | |
| | Іваноўскае . . Ивановское | 14 | 21,58 | 3,15 | 6 | 3,00 | |
| | Сярэдняе . . . Среднее | — | 19,12 | 2,00 | 87 | — | |
| Мазырская<br>Мозырский | Калінкавіцкае . Калинковичское | 17 | 18,13 | 3,14 | 8 | 1,17 | |
| | Камаровіцкае . Камаровичское | 14 | 16,39 | 1,79 | 6 | 2,98 | |
| | Прыпяцкае . . Припятское | 20—25 | 20,08 | 3,80 | 10 | 2,25 | |
| | Азарыцкае . . Азарическое | 16 | 15,91 | 2,44 | 12 | 1,15 | 0,83 |
| | Зялёнацкае . . Зеленочское | 10 | 21,49 | 2,61 | 22 | 2,02 | |
| | " | — | 17,71 | 2,26 | 11 | 1.44 | |
| | Тураўскае . . Туровское | 16 | 20,08 | 3,51 | 3 | 3,31 | |
| | Данілевіцкае . Данилевичское | 7 | 17,07 | 1,15 | 5 | 3,23 | |
| | Танежскае . . Танежское | 15 | 27,96 | 2,18 | 3 | 3,56 | |
| | Сярэдняе . . Среднее | — | 19,42 | 2,54 | 70 | — | |
| Гомельская<br>Гомельский | Вялікаборскае . Великоборское | 10 | 12,83 | 3,10 | 3 | 0,57 | |
| | Хойніцкае . . Хойническое | 10 | 13,74 | 3,62 | 5 | 2,28 | |
| | Дэлістоўскае . . Делистовское | 10 | 15,95 | 1,75 | 7 | 1,46 | 0,64 |
| | Рэчыцкае . . . Речицкое | 18 | 20,88 | 3,36 | 10 | 1,16 | |
| | Ленінскае . . . Ленинское | 15 | 19,05 | 2,19 | 11 | 1,56 | |
| | " | — | 22,35 | 2,68 | 14 | 1,97 | |
| | Сярэдняе . . . Среднее | — | 17,46 | 2,78 | 50 | — | |
| Полацкая<br>Полоцкий | Громаўскае . . Громовское | 11 | 14,81 | 1,55 | 12 | 1,45 | |
| | Юховіцкае . . Юховицкое | 8 | 17,03 | 3,26 | 5 | 3,34 | 0,95 |
| | Клясьціцкае . . Клясцицкое | 19 | 14,38 | 2,44 | 11 | 1,22 | |
| | " | 21 | 16,62 | 1,81 | 10 | 2,20 | |
| | Расонскае . . Росонское | 12 | 16,14 | 2,39 | 12 | 2,0 | |
| | Сярэдняе . . . Среднее | — | 15,78 | 2,28 | 50 | — | |

Такім чынам, маючы вылічаныя сярэднія памылкі мы можам параўняць нашыя сярэднія дадзеныя аб тыпах дрэвастанаў, і калі розьніца паміж апошнімі раўняецца альбо больш патроенага квадратнага кораню з сумы квадратаў сярэдніх памылак $(-3\sqrt{m_{01}^2 + m_{02}^2})$, дык мы можам рабіць вывады адносна залежнасьці паміж смалістасьцю пнёвых смалякоў і тыпам дрэвастанаў. Дапасаваньне такога мэтаду дае нам упэўненасьць у тым, што розьніца нашых раўнальных велічын перавышае граніцы мажлівых памылак досьледу, калі-ж нашая розьніца меней паказанай велічыні, дык відавочна яна ляжыць ў межах памылкі досьледу, і ніякіх вывадаў рабіць нельга. Табліца № 1.

Калі параўняць розьніцу паміж сярэднімі дадзенымі аб усіх тыпах дрэвастанаў (17,49; 20,29; 18,35; 16,33 і 15,55) і вылічыць па вышэйпаказанаму спосабу сярэднія памылкі гэтых рознасьцяй, мы ўбачым што рознасьці сярэдніх утрыманьняў каліфоні ў смалякох у 4 першых тыпах ляжыць у межах памылкі досьледу, гэта значыць, што яскрава выяўленай розьніцы ўтрыманьня каліфоні ў смалякох з розных тыпаў бароў (бор зялёнаімшарнік, бор верасовы, бор ягадніковы) не назіраецца. Што-ж датычыцца апошняга тыпу, тыпу субароў, дык тут мы маем рэзка выяўленую розьніцу ў утрыманьні каліфоні адносна верасавага бору.

Апошняе дае магчымасьць сказаць, што субары даюць смалякі больш нізкай якасьці, чымся смалякі розных тыпаў бароў.

Што-ж датычыцца ўтрыманьня шпігінару ў смалякох, то тут мы маем таксама надзвычайна стракаты малюнак. Гэта тлумачыцца тым, што шпігінар зьяўляецца матэрыяй, значна менш устойлівай, чымся каліфоня, у адносінах ўзьдзейнічаньня атмасфэрных агентаў вільготнасьці і кіслароду паветра.

У табліцы № 2 падаюцца сярэднія ўтрыманьні каліфоні ў смалякох па акругах. Для гэтых дадзеных таксама вылічаны квадратычныя адхіленьні і сярэднія памылкі сярэдніх дадзеных. Як відаць з табліцы, Менская і Мазырская акругі даюць смалякі аднолькавай якасьці, што-ж датычыцца Гомельскай акругі, дык яна хоць і дае зьмяншэньне на 1,96%, але гэтае зьмяншэньне ляжыць у межах сярэдняй памылкі, і таму і смалякі Гомельскай акругі можна лічыць, што яны па якасьці мала адрозьніваюцца ад смалякоў Менскай і Мазырскай акруг. Смалякі Палацкай акругі даюць больш рэзкае зьмяншэньне ўтрыманьня каліфоні, прычым гэтае зьмяншэньне, прыблізна, раўняецца сярэдняй памылцы, г. зн. можна лічыць, што Полацкая акруга дасьць смалякі больш нізкай якасьці, чымся смалякі вышэйпаказаных акруг.

Дзеля разважаньня аб якасьці Беларускіх смалякоў у сэнсе прыгоднасьці іх дзеля экстракцыйна каліфоневага вытвару, мы тут даем таблічку з вынікамі аналізаў пнёвых смалякоў, якім і карыстаецца Вахтанскі завод. Вынікі гэтыя атрыманы намі з заводзкай лябараторыі.

| Час аналізу<br>Время анализа | % вільгаці<br>влажности | % каліфоні<br>калифони | % шпігінару<br>скипидара | Увага<br>Примечание |
|---|---|---|---|---|
| 1929 г. Красавік 4 Апрель | 28,61 | 21,11 | 3,8 | % каліфоні і шпігінару вылічан у адносінах да абсалютна сухіх смалякоў |
| „ 11 . . . | 27,40 | 21,0 | 4,58 | |
| Май 3 . . . | 35,42 | 18,0 | 3,7 | |
| „ 9 . . . | 25,0 | 19,0 | 5,0 | % канифоли и скипидара вычислен по отношению к абсолютно сухому осмолу |
| „ 15 . . . | 26,6 | 15,83 | 7,8 | |
| Чэрвень Июнь . | 23,68 | 17,41 | 8,25 | |
| Сярэдняе .<br>Среднее . . | — | 18,7 | — | |

Колькасьць каліфоні вызначалася ў трэсках, якія ішлі непасрэдна на экстракцыю. Калі мы возьмем сярэдні з прыведзеных аналізаў (а яны ў сваю чаргу выяўляюць таксама сярэдніе, бо дзеля аналізу складаецца сярэдняя спроба), г. зн. 18,7% і параўняем з вынікамі нашых аналізаў смалякоў, то мы бачым, што смалякі Менскай, Мазырскай і Гомельскай акруг прыкладам такой-жа якасьці, як і Вахтанскі, і толькі Полацкая акруга дае смалякі больш нізкай якасьці.

## IV. Запасы пнёвых смалякоў.

Праграмай нашага дасьледваньня намячалася вырашэньне наступных пытаньняў:

1) Вызначэньне маючыхся запасаў смалякоў розных сьпеласьцяй у лясох БССР. 2) Якасьць пнёвых смалякоў, г. зн. вызначэньне колькасьці каліфоні і шпігінару, якія маюцца ў смалякох, 3) Сабекошт загатоўкі і дастаўкі на месца спажываньня адзінкі аб'ёму смалякоў, 4) Азначэньне колькасьці пнёвых смалякоў, якія спажываюцца існуючымі смалакурнямі. 5) Азначэньне гадовага прыросту пнёвых смалякоў (ад гадовых лесасек) у лясох БССР.

Вырашэньне ўсіх паказаных пытаньняў дало-б магчымасьць паказаць месца праэктуемага да пабудовы каліфонева-экстракцыйнага заводу ў сэнсе забесьпячэньня яго адпаведнай колькасьцю сыравіны. Такім чынам цэнтральным пытаньнем запраўднага дасьледваньня зьяўляецца пытаньне вызначэньня запасаў пнёвых смалякоў, якія маюцца ў сучасны момант (ад высечак хваёвых дрэвастанаў ў розны час), і запасаў пнёвых смалякоў, якія будуць накапляцца ад штогодна высякаемых хваёвых лесасек у бліжэйшыя дзесяць год.

Вырашэньне гэтых пытаньняў было зьвязана з цэлым шэрагам перашкод мэтодалёгічнага характару, бо як у літаратуры, так і ў практыцы нам не ўдалося знайсьці якіх-небудзь паказаньняў аб мэтадах уліку пнёвых смалякоў[1]). Толькі ў верасьні месяцы (калі праца набліжалася да канца), нам удалося атрымаць праграму і інструкцыю аналёгічнай працы, распачатай Лесахэмічнай сэкцыяй Хэмбуду. Згодна памечанага намі пляну, уся работа ўтворана наступным спосабам:

Дасьледваньне адбывалася не ў раскіданых асобнымі астраўкамі дачах, а ў больш ці менш сканцэнтраваных лясных масывах. Да гэтакіх мы аднесьлі:

1) Палескі лясны масыў (Гомельская і Мазырская акругі).

2) Менска-Барысаўскі, 3) Палацкі[2]).

II. Дзеля ўліку існуючых запасаў пнёвых смалякоў ў кожным лясьніцтве закладаліся спробныя плошчы розных разьмераў ад 0,25 да 1 га; на гэтых спробных плошчах, адбываецца пералік пнёў і вызначаецца запас іх у складачных мерах пры карыстаньні дадзенымі, якія атрымаліся пры закладаньні спробных плошчаў з выкапкай пнёў. Колькасьць спробных плошчаў была ад 3 да 6, у большасьці выпадкаў пяць (усяго закладзена 467 плошчаў).

III. Дзеля ўліку пнёвых смалякоў былі ўстаноўлены дзьве ступені сьпеласьці пнёў: пні, якія прабылі ў глебе да 10 год, і звыш 10 год. Выходзячы з меркаваньняў, якія пададзены ў I частцы нашай працы,

[1]) Такім чынам гэтае дасьледваньне зьяўляецца першай спробай у галіне ўліку пнёвай сыравіны ў БССР.

[2]) Быў намечаны яшчэ Бабруйскі лясны масыў, але за недахватам часу ён ня быў дасьледваны.





мы лічылі больш дробную градацыю сьпеласьцяй залішняй, якая ня можа адбіць запраўднасьць.

Пні, што прастаялі ў глебе больш за 10 год пасьля высечкі дрэвастану, у большасьці выпадкаў, выяўлялі сабой сьпелыя смалякі; што-ж датычыцца пнёў, якія прабылі ў глебе розны час, але ня больш 10 год то тут мы маем самы стракаты малюнак. Так напрыклад, у некаторых лясьніцтвах (Вялікаборскае) большасьць пнёў высечкі 1918 г.—20 году вельмі добра захаваліся, у іншых-жа лясьніцтвах мы знаходзім пні высечкі 1925 году з зусім абгніўшай абалонай (Хойнікскае л-ва).

Прычым, гэта мела месца для не адзінакавых пнёў, а іншы раз такія пні складалі 30—40% дадзенай дзялянкі. Што-ж тычыцца пнёў выбарачнай высечкі, то тут у большасьці выпадкаў было немажліва ўстанавіць сьпеласьць пнёў, і такі асмол улічваецца асобна пад назвай—асмол выбарачнай высечкі.

IV. Як вышэй паказвалася, запас пнёвых смалякоў улічваўся пры карыстаньні дадзенымі, якія атрыманы на спробных плошчах з выкапкай пнёў. Апошнія закладаліся ў розных лясьніцтвах з рознастайным характарам дрэвастанаў, прычым, для закладкі гэтых плошчаў выбіраліся месцы больш ці менш характэрныя па тыпу, глебе і іншых умоў вырастаньня дрэвастанаў данага лясьніцтва.

Велічыня гэтых плошчаў вагалася ад 0,15 да 0,25 га. На гэтых плошчах ўтваралася выкарчоўка пнёў. Выкапаныя пні раскалываліся ў адну лапу на 4 часткі (каб у кожным кавалку было ня болей, чымся па адным караню).

Расколатыя смалякі пільна ўкладаліся ў штабелі і вымяраліся. Пры абгніўшых пнёх, абалона пры выкарчоўцы і раскалцы часткова абсыпалася сама, а тая, што засталася, абчышчалася перад укладкай.

Дадзеныя, атрыманыя на гэтых плошчах, давалі магчымасьць вызначыць запасы смалякоў на спробных плошчах бяз выкапкі (уводзячы, зразумела, папраўкі на паўнату і на дыямэтр пнёў). Дадзеныя, атрыманыя на спробных плошчах мы распаўсюдзілі на ўсе хваёвыя высечкі данага лясьніцтва. Спробныя плошчы з выкапкай пнёў служылі нам і дзеля вырашэньня другой задачы—менавіта: дзеля вызначэньня гадовай прадукцыі ў дачыненьні пнёвых смалякоў будучых гадовых хваёвых лесасек. Дзеля гэтага, ці ў прылягаючай да спробнай плошчы сьцяны лесу, ці трошкі ў баку (але ў больш ці менш аднолькавых умовах іх вырастаньня). Тып, банітэт, паўната (выбіралася спробная плошча аднолькавага разьмеру з дрэвастанам такой-жа, прыкладам, паўнаты і ўзросту і на гэтай плошчы утвараўся пералік і вылічваўся па табліцах запас драўніны уводзячы папраўку на паўнату). Такім чынам, маючы запас пнёвых смалякоў у складачных кубічных мэтрах і запас драўніны (на гэткай-жа плошчы) у кубічных мэтрах шчытнай масы, мы вылічалі ўмоўны процант (у складач. мэтрах) запас пнёвых смалякоў ад запасу драўніны (тонкамеры ня ўлічваліся, улічваліся пні, пачынаючы з дыямэтру—4 вяршкі). У выпадку-ж наяўнасьці пералікава-ацэначнай ведамасьці для дадзенай лесасекі, пытаньне вырашалася яшчэ прасьцей. Мы маем запас пнёвых смалякоў з аднаго боку, і з другога запас драўніны які быў атрыманы пры высечцы лесасекі, і на якой мы заклалі спробную плошчу.

Апошняе давала нам магчымасьць вылічаць умоўны процант запасаў пнёвых смалякоў ад запасаў драўніны (са скідкай на тонкамеры).

З дапамогай гэтага ўмоўнага проценту лёгка вызначыць штогадовую прадукцыю данага лясьніцтва ў адносінах да пнёвых смалякоў.

Дзеля гэтага неабходна толькі ведаць гадовы водпуск хвоі з уводам папраўкі на тонкамеры (па таблiцах Тарашкевіча).

Далей, у працэсе працы выявілася вельмі важная акалічнасьць, менавіта—тое, што як ужо паказвалася, стан смалякоў выяўляў самы разнастайны малюнак. Якой-небудзь законамернасьці між лікам гадоў прабываньня ў глебе і ступеньню абгніваньня абалоны (для смалякоў да 10 год) устанавіць было зусім не мажліва. Улік-жа пнёў з абалонай і без абалоны дае вялікае перавялічэньне альбо перамяншэньне ў вызначэньні агульнага запасу смалякоў (у залежнасьці ад стану пня).

Апрача гэтага і дзеля таго што эксплёатацыя пнёвых смалякоў будзе адбывацца на працягу цэлага шэрагу гадоў, то і тут улічваць пень у яго цяперашнім выглядзе нельга, бязумоўна, цераз 4—5 год, у залежнасьці ад цэлага шэрагу фактараў, аб'ём яго паводле паступовага абгніваньня абалоны зьменшыцца. Усе гэтыя акалічнасьці прымусілі нас зьвярнуцца да адзінага мэтаду ўліку запасу смалякоў,—мы ўсюды ўлічвалі запас пнёвых смалякоў (г. зн. аб'ём пнёў в абгніўшай абалонай), мы ў большасьці выпадкаў утваралі выкопку менавіта абгніўшых пнёў і па іх запасу вылічвалі запас пнёвых смалякоў ў даным лясьніцтве. Дзе-ж гэтага зрабіць было немажліва, з прычыны адсутнасьці плошчы, характэрнай для данага лясьніцтва з абгніўшымі пнямі, там закладалася спробная плошча з неабгніўшымі пнямі. Такім чынам, у канчатковым выніку ў нас атрымаўся цэлы шэраг плошчаў з улікам абгніўшых пнёў і цэлы шэраг плошчаў з улікам пнёвага матар'ялу. На падставе гэтых дадзеных была складзена табліца сярэдняй колькасьці пнёў (без абалонкі) на 1 гэктары і запасу іх па гадох сьпеласьці, а таксама быў вылічан сярэдні запас аднаго пня (дадатак № 2).

Карыстаючыся гэтай табліцай, мы змаглі з вядомым набліжэньнем вылічыць для кожнага выпадку ўліку неабгніўшых пнёў запас гэтых-жа пнёў без абалоны, г. зн. запраўдны запас пнёвых смалякоў.

Улік спажываньня пнёвых смалякоў існуючымі смалакурнямі адбываўся шляхам дасьледваньня заводаў, якія працуюць на тэрыторыі данага лясьніцтва, а таксама былі скарыстаны весткі, якія маюцца ў лясьніцтвах.

У дадатку № 3 падаюцца дадзеныя аб спробных плошчах з выкопкай пнёвых смалякоў і дадзеныя па вызначэньню працанту пнёвых смалякоў ад запасу дрэвастанаў. Як відаць з табліцы, запасы пнёвых смалякоў і пнёвага матар'ялу вагаюцца ў значных граніцах, для смалякоў ад 7,7 куб. мэтра да 53,96 на адным гэктары і пнёвага матар'ялу ад 20 куб. мэтраў да 55.36 (тут, вядома, трэба прымаць пад увагу паўнату).

Калі мы вылічым сярэдні аб'ём пня, то для смалякоў мы атрымаем 0,115 куб. мэтр., што вельмі мала адрозьніваецца ад сярэдняга аб'ёму пня, які вылічан згодна дадзеных спробных плошчаў бяз выкопкі пнёў, дзе гэты аб'ём раўняецца 0,117 куб. мэтр. Што-ж тычыцца працанту, які складаюць смалякі ад запасу дрэвастанаў, дык для смалякоў мы атрымалі ў сярэднім 13,35%, а для пнёвага матар'ялу—20,96%. Гэты працант, як паказвалася вышэй, выяўляецца ўмоўна ў складачных куб. мэтрах, г. зн., што кожныя 100 куб. мэтраў шчытнай масы драўніны запасу данага дрэвастану могуць даць 13,35 куб. склад. мэтраў смалякоў.

Дадатак № 4 дае поўны малюнак разьмеркаваньня аб дасьледаваньні акругамі лясьніцтва запасаў пнёвых смалякоў сьпеласьці да 10 год, вышэй за 10 год і смалякоў ад выбарачнай высечкі, якія ў боль-

шасьці выпадкаў выяўляюць смалякі сьпеласьці таксама вышэй за 10 год. Затым ідзе гадовая прадукцыя хвоі дасьледваных лясьніцтваў (са скідкай на тонкамеры). Вылічыўшы процант (13,35%), які складаюць ад дадзенай масы хвоі пнёвыя смалякі і пнёвы матар'ял, мы атрымалі штогодны прырост пнёвых смалякоў і пнёвага матар'ялу ў даным лясьніцтве. Гэтая прадукцыя выяўлена ў выглядзе дробу, лічыльнік якой дае запас пнёвых смалякоў, а назоўнік запас сьвежых неабгніўшых пнёў. Наступная графа дае запас смалякоў і пнёў, якія накопіцца на лесасеках лясьніцтва цераз 10 год, г. зн. у 1938 годзе (уключна).

Далей падаюцца дадзеныя аб наяўнасьці ў лясьніцтвах смалакурань і штогодняга спажываньня імі смалякоў. У канцы гэтай зводнай ведамасьці даюцца агульныя вынікі запасаў пнёвых смалякоў па акругах.

Як відаць з гэтай зводкі, усе дасьледваныя акругі досыць бедны сьмалякамі сьпеласьці вышэй 10 год. Гомельская акруга дае 5000 куб. мэтраў, у Полацкай акрузе такі зусім адсутнічае. У Мазырскай і Менскай акругах маюцца прыкладам аднолькавыя колькасьці смалякоў паказанай сьпеласьці. (Мазырская—26.000, Менская—22.000 куб. м.).

Разам з тым мы маем у Мазырскай акрузе значныя запасы смалякоў ад выбарачнай высечкі параўнаўча невялікі запас такога ў Менскай акрузе. Існуючыя на тэрыторыях лясьніцтваў смалярні ў большасьці выпадкау спажываюць смалякі ад выбарачных высечак і ў апошні час у Менскай акрузе, дзе маецца вялікая колькасьць смалярань, ужо наглядаецца недахоп у сьпелых смалякох. Тут неабходна адмеціць, што смалярням дастаўляюцца самыя лепшыя, у сэнсе сьпеласьці, смалякі. Справа ў тым, што мясцовыя жыхары, забясьпечваючыя смалярні смалякамі не выкапваюць пні падрад на лесасеках, а стараюцца знайсьці на лесасецы ці пад полагам лесу (пні ад выбарачнай высечкі) зусім абгніўшыя пні, якія прастаялі ў глебе 15—20 год, бо гэтыя пні вельмі лёгка дастаюцца з глебы.

Значныя запасы пнёвых смалякоў сьпеласьці да 10 год маюцца ў Мазырскай і Менскай акругах. Тут можа ўзьнікнуць пытаньне—ці зьяўляюцца смалякі паказанай сьпеласьці (да 10 год) прыгодным сырцовым матар'ялам дзеля каліфонева-экстракцыйнага вытвару; мы дапускаем, што ў значнай частцы гэтыя запасы смалякоў выяўляюць матар'ял ужо прыгодны для вытвару[1]).

Тут яшчэ неабходна прыняць пад увагу і тую акалічнасьць, што існуючыя запасы асмолку будуць паступаць у вытвар на працягу цэлага шэрагу гадоў (10 і болей), на працягу якіх колькасьць смалякоў, напэўна, будзе паляпшацца.

Калі прыняць пад увагу наяўнасьць смалакурань і штогадовую колькасьць смалякоў, якія імі пераапрацоўваюцца, то пры ўмове забесьпячэньня гэтых заводаў смалякамі на бліжэйшыя 10 год, мы па ўсіх дасьледваных акругах будзем мець нязначныя астаткі смалякоў, якія ні ў якім выпадку ня могуць стварыць сырцовай базы дзеля каліфоневаэкстракцыйнай прамысловасьці. У Менскай акрузе, у некаторых раёнах ужо ў сучасны момант нават смалакурні адчуваюць недахват сьпелых смалякоў[2]).

З другога боку, у некаторых акругах мы маем досыць значны штогадовы прырост пнёвых смалякоў (у Менскай 26,334, у Мазырскай—15,254).

---

[1]) Прафэсар Е. І. Любарскі паказвае, што пасьля 6—10 год, смалякі прызнаюцца годнымі дзеля смалярства.

[2]) 12—15 гадовых смалякоў.

Паказаная акалічнасьць прымушае нас зрабіць вывад, што ў раёне пабудовы будучага экстракцыйнага заводу ў бліжэйшы-жа час неабходна ліквідацыя хоць бы часткі саматужных заводаў. Гэта будзе мэтазгодна і з пункту погляду больш рацыянальнага скарыстаньня сыравіны. Саматужныя смалярні могуць быць перанесены ў іншыя раёны, як напрыклад: Танежска—Данілевічскі лясны масыў, дзе маецца значны запас смалякоў і які знаходзіцца ў 45 клм. ад чыгункі. Пабудова ў гэтым масыве экстракцыйнага заводу з прычыны як вышэйпаказанай, так і з цэлага шэрагу іншых нямэтазгодна, выкарыстаньне-ж запасаў смалякоў дробнымі смалярнымі калектывамі зусім мажліва.

У канцы гэтага разьдзелу мы даем табліцу плошчаў, дасьледваных хваёвых высечак па акругах, колькасьць гэктараў закладзеных спробных плошчаў бяз выкапкі і з выкапкай, а таксама процантныя суадносіны паміж усімі дасьледванымі плошчамі і спробамі бяз выкапкі пнёў і з выкапкай. Як відаць з гэтай табліцы, спробных плошчаў бяз выкапкі закладзена 0,24% ад усей дасьледванай плошчы (бяз выбарачнай высечкі).

| Акругі<br>Округ | Плошча дасьледв. хваёвых высечак<br>Площадь обслед. сосновых вырубок | Спроб. плошчы бяз выкапкі пнёў з га<br>Проб. площ. без выкопкі пней в га | Спроб. плошчы з выкапкай пнёў з га<br>Проб. площ. с выкоп. пней в га | Проц. спроб. плошчы бяз выкапкі ад у сей дасьл. плошч.<br>Проц. проб. площ. без выкоп. от всей обслед. площади | Проц. спроб. плошч. з выкап. ад проц. плошч. без выкап.<br>Проц. проб. площ. с выкоп. от проц. площ. без выкоп. |
|---|---|---|---|---|---|
| Гомельская . . . .<br>Гомельский | 6378 | 23,64 | 1,67 | 0,35 | 7,5 |
| Мазырская . . . .<br>Мозырская | 15065 | 40,71 | 2,42 | 0,26 | 5,9 |
| Полацкая . . . . .<br>Полоцкий | 5132 | 15,70 | 1,40 | 0,31 | 8,8 |
| Менская . . . . . .<br>Минский | 32637 | 65,21 | 3,89 | 0,20 | 5,9 |
| Разам .<br>Итого | 59202 | 144,26 | 9,38 | сред. 0,24 | 6,5 |

Што-ж тычыцца спробных плошчаў з выкапкай пнёў, то гэтакіх закладзена ў сярэднім 6,5% ад усіх спробных плошчаў бяз выкапкі пнёў.

Згодна інструкцыі дасьледваньня запасаў пнёвых смалякоў, якое ўтвараецца Лесахэмічнай сэкцыяй Хэмбуду, усяго спробных плошчаў павінна быць закладзена ад 0,1 да 0,25% ад агульнай плошчы хваёвых высечак да раёну, які дасьледуецца.

Спробных-жа плошчаў з падрыхтоўкай смалякоў (з выкапкай) павінна быць ня менш, чымся $^{1}/_{20}$ частка закладзеных спробных плошчаў (бяз выкапкі).

### V. Месца пабудовы праэктуемых каліфонева-экстракцыйных заводаў і сабекошт адзінкі сыравіны.

Пры дэталёвым вывучэньні гэтага пытаньня, прыходзіцца лічыцца з цэлым шэрагам перашкод, зьвязаных з геаграфічным разьмеркаваньнем запасаў смалякоў.

Справа ў тым, што запасы пнёвых смалякоў, а таксама і гадавыя прыросты іх на лесасеках, не сканцэнтраваны ў адным месцы[1]), а разьмяшчаюцца асобнымі гнёздамі, якія знаходзяцца на досыць значнай адлегласьці адно ад аднаго.

Гэтакімі асобнымі, больш ці менш сканцэнтраванымі месцазнаходжаньнямі пнёвых смалякоў і зьяўляюцца дасьледваныя нашы лясныя масывы:

1) Палескі (Мазырская і Гомельская акругі) в агульным запасам 633.000 куб. мэтра смалякоў з штогадовым прыростам смалякоў у 20.000 куб. мэтраў.

2) Полацкі з запасам у 139.000 куб. мэтраў і з прырастам у 5700 куб. мэтраў смалякоў і

3) Менскі з запасам 567.000 куб. мэтр. і штогадовым прыростам у 28.000 куб. мэтраў смалякоў. Але і ў гэтых асобных раёнах запасы пнёвых смалякоў ў сваю чаргу, таксама распылены на значных прасторах. Агульная колькасьць запасаў пнёвых смалякоў ў вышэйпаказаных лясных масывах дасягае досыць значнай велічыні ў 1.300.000 куб. мэтраў, з другога-ж боку на дасьледванай намі тэрыторыі маецца 126 саматужных смалакурань (з 160 катламі) в штогаднай патрэбай ў пнёвых смалякох ў 142.000 куб. мэтраў.

Апрача вышэйпаказаных запасаў смалякоў па ўсіх дасьледваных раёнах мы маем штогодны прырост пнёвых смалякоў ў 55.000 куб. мэтраў, якая колькасьць іх (ня больш) цераз 6—7 год можа быць пушчана ў вытвар.

Падазныя меркаваньні прымушаюць нас вельмі асьцярожна падыходзіць да выбару месца для пабудовы заводу, прычым частковая ліквідацыя саматужных смалакурань у раёне будучага заводу, зьяўляецца асноўнай прадпасылкай да праэктаваньня гэтакага.

У першую чаргу, па нашай думцы, каліфонева-экстракцыйны завод вытворчасьцы ў 10000[2]) куб. мэтраў смалякоў ў год, павінен быць пабудован у Палескім лясным масыве, менавіта ля ст. Калінкавічы, якая знаходзіцца ў перасячэньні дзьвёх ліній чыгунак: Гомель—Жыткавічы і Мазыр—Жлобін. Апрача гэтага, у 40 клм. знаходзіцца ст. Василевічы, ад якой ідзе ветка Васілевічы—Хойнікі. Такім чынам будучы завод будзе забяспечвацца сыравінай мяшаным спосабам (як гэта робіцца ў апошні час і на заводзе Вахтон). Да лініі чыгункі смалякі будуць падвозіцца гужам на адлегласьці прыкладам да 10 км., а далей па чыгунцы будуць дастаўляцца на завод.

Пры знаходжаньні заводу ля ст. Калінкавічы, ён будзе забясьпечвацца сыравінай з лясьніцтваў, паказаных ў ніжэй паданай табліцы (таб. 3).

Як відаць з табліцы, у гэты раён уваходзяць 17 лясьніцтваў з агульным запасам у 341.000 куб. мэтраў пнёвых смалякоў, у тым ліку смалякоў зусім сьпелых (звыш 10 год) 14.000 і смалякоў выбарачнай высечкі 122.000 куб. мэтраў; апошнія ў большасьці выпадкаў зьяўляюцца таксама зусім сьпелымі. Апрача гэтага, маецца запас смалякоў сьпеласьці да 10 год, частка якіх можа быць цяпер ужо пушчана на пераапрацоўку. Штогодны прырост смалякоў на гадовых лесасеках гэтага раёну, дасягае 9000 куб. мэтраў. Якасьць смалякоў ў гэтым раёне ў сярэднім

[1]) Як гэта мае месца, напрыклад у Забайкальлі, дзе маюцца хваёвыя высечкі ў адным месцы 48.000 дзес.

Проф. Е. И. Любарский. Перспективы использования мертвого терпентина в Забайкальи. 1928 г.

[2]) Мы тут улічваем наяўнасьць Гомельскага экстракцыйнага заводу.

Таб. № 3.

| Лясьніцтвы<br>Лесничества | Запасы смалякоў сьпеласьці<br>Запасы осмола спелости | | | Агульная колькасьць смалякоў<br>Общее количество осмол | Штогадовы прырост астатк. смаляк. на лесасек<br>Ежег. прирост ост. осмол на лесосеках | Кольк. смаляк. штогод спажыв. смалакурнямі<br>Колич. осмол ежег. потреб. смолокурзав. | Колькасьць катлоў на заводзе<br>Число котлов на заводе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Да 10 год<br>До 10 лет | Звыш 10 год<br>Свыше 10 лет | Выбар.<br>Выбор. | | | | |
| Хойніцкае . . .<br>Хойникское | 13591 | — | 4500 | 18091 | 473 | 1803 | 2 |
| Вялікаборскае . .<br>Великоборское | 5920 | 1817 | — | 7737 | 688 | 1380 | 2 |
| Загальскае . . . .<br>Загальское | 5921 | — | 18696 | 24617 | 478 | 1696 | 2 |
| Дэлістоўскае . . .<br>Делистовскае | 5935 | 3286 | 13755 | 22976 | 270 | 1760 | 2 |
| Аўцюцевіцкае . .<br>Автючевичское | 28545 | — | — | 28545 | 507 | 4905 | 5 |
| Дземехаўскае . .<br>Демеховское | 10657 | — | — | 10657 | 399 | 2116 | 3 |
| Васільевіцкае . .<br>Васильевичское | 13485 | — | — | 13485 | 211 | . | — |
| Рэчыцкае . . . .<br>Речицкое | 5179 | — | — | 5179 | 632 | 1194 | 2 |
| Калінкавіцкае . .<br>Калинковичское | 18702 | — | — | 18702 | 462 | 6984 | 6 |
| Зялёнацкае . . .<br>Зеленочское | 13663 | — | — | 13663 | 585 | 7700 | 5 |
| Капцэвіцкае . . .<br>Капцевичское | 2794 | — | 2925 | 5719 | 415 | 1000 | 1 |
| Мазырскае . . .<br>Мозырское | 10143 | — | — | 10143 | 172 | — | — |
| Азарыцкае . . . .<br>Азаричское | 13333 | 7562 | 2138 | 23033 | 985 | 2800 | 4 |
| Ветчынскае . . .<br>Ветчинское | 10455 | — | 4450 | 14905 | 420 | 1700 | 2 |
| Жыткавіцкае . . .<br>Житковичское | 12296 | — | 17500 | 29796 | 501 | 1900 | 4 |
| Дарашэвіцкае . .<br>Дорошевичское | 17212 | 1501 | 34740 | 53553. | 1065 | 3000 | 2 |
| Нараўлянскае . .<br>Наровлянское | 16402 | — | 24060 | 40462 | 995 | 1300 | 2 |
| | 204233 | 14166 | 122864 | 341263 | 9258 | 41238 | 44 кат. |

здавальняючая, прычым Мазырская акруга (якая дасьць большую частку сыравіны для заводу) у асобных выпадках дае смалякі больш высокай якасьці, чымся Гомельская[1]).

Забесьпячэньне заводу смалякамі, як паказвалася вышэй, будзе адбывацца мяшаным спосабам. Нарыхтаваныя на лесасеках смалякі будуць падвозіцца да лініі чыгункі гужам і далей па чыгунцы будуць дастаўляцца на завод. Знаходжаньне заводу пры ст. Калінкавічы, пры мяшаным мэтадзе дастаўкі смалякоў на завод, дасьць магчымасьць зусім абхапіць паказаныя 17 лясьніцтваў. З лясьніцтв Хойніцкага, Вялікаборскага, Загальскага, Дэлістоўскага, Аўцючэцкага, Дземяхоўскага, Васільевіцкага і Рэчыцкага нарыхтованыя смалякі будуць падвозіцца гужам да лініі чыгункі—Хойнікі—Васільевічы і далей па чыгунцы на завод,

З лясьніцтваў Жыткавіцкага, Ветчынскага, Дарашэвіцкага, Капцэвіцкага смалякі такім-жа чынам будуць дастаўляцца да лініі чыгункі Гомель—Жыткавічы, і з лясьніцтваў Зялёнацкага, Азарыцкага, Нараўлянскага і Мазырскага смалякі будуць падвозіцца да лініі чыгункі Мазыр—Жлобін.

Адлегласьць падвозкі смалякоў да лініі чыгункі, мы лічым ня больш 8—10 клм. (у некаторых выпадках 2—5 км.), што-ж датычыцца адлегласьці дастаўкі смалякоў па чыгунцы, дык мы тут лічым мажлівам дастаўку смалякоў з адлегласьці да 100 км. Справа ў тым, што, як відаць з атрыманай намі на чыгунцы даведкі, розьніца ў аплаце чыгун. тарыфу пры адлегласьці 50 і 100 км. параўнальна не вялікая. Так, напрыклад: аплата тарыфу за правоз вагону смалякоў (прыкладам 2,7 куб. саж.) на адлегласьці 50 км. складае 7 р. 80 к. і на 100 км.—11 р. 10 к. розьніца раўняецца 3 р. 30 к., што дасьць на 1 куб. м. 12,2 к. (калі мы будзем лічыць, што вагон зьмяшчае 2,7 куб. саж. смалякоў).

Такім чынам мы лічым, што станцыя Калінкавічы зьяўляецца найбольш падыходзячым пунктам для пабудовы ў першую чаргу экстракцыйнага заводу. Гэты пункт зьяўляецца ў той-жа час адносна буйным заселеным пунктам, а значыцца, забясьпечыць завод і рабочай сілай.

Далей мы павінны прыняць пад увагу наяўнасьць у паказаным раёне 44-х смалакурань якія патрабуюць штогодна 41 000 куб. мэтр смалякоў, і калі забясьпечыць усе гэтыя смалакурні сыравінай на бліжэйшыя 10 год, то патрабуецца 410.000 куб. мэтраў, г. зн. колькасьць, якая значна перавышае наяўнасьць запасаў смалякоў, ў даным раёне ў сучасны момант.

Штогодна прырост смалякоў равен 9000 куб. мэтраў, але гэтыя смалякі могуць пастуліць у вытвар не раней як цераз 6-7 год і ня ўвесь запас, што накапіўся за гэтыя 6-7 год, а толькі запас апошняга (6-га альбо 7-га) году. Калі прыняць, што ў будучым мы будзем карыстацца 6-ці гадовымі смалякамі, то на працягу 6-ці год для экстракцыйнага заводу трэба 60.000 куб. мэтраў і для смалакурань 246.000, а ўсяго 306.000 куб. мэтраў смалякоў, г. зн. усе запасы смалякоў будуць вычарпаны, і застанецца толькі прыраст-смалякоў за 1 год (за шосты) у 9000 куб. мэтраў, а астатняя маса смалякоў на лесасеках за 5 год будзе яшчэ не гатова.

Такім чынам звычайныя разьлікі гавораць за тое, што пабудова заводу магчыма толькі пры ўмове частковай ліквідацыі саматужных смалакурань. Апрача гэтага, неабходна адзначыць, што смалакурні даюць прадукты нізкай якасьці, якія патрабуюць далейшай ачысткі (напр. чыр-

[1]) Гл. сводную табліцу № 2.

воны шпігінар), у той час, як экстракцыйны завод будзе даваць белы шпігінар, які расцэньваецца, прыкладам у 2 разы даражэй. Другі прадукт смалярства—смалакурань—таксама ня мае вялікага попыту і расьцэньваецца досыць нізка. Экстракцыйны завод можа даваць вельмі каштоўны пабочны прадукт—абяссмоленую трэску, якая выяўляе вельмі добры матар'ял для папярова—цэлюлёзнага вытвару і выкарыстаньне трэскі такім чынам дасьць значнае зьніжэньне сабекошту прадукцыі (гл. II разьдзел).

У другую чаргу мы лічым мажлівасьць пабудовы экстракцыйнага заводу такой-жа вытворчасьці (10.000 куб. мэтр.) у Менскай акрузе у гор. Барысаве і таксама блізу станцыі чыгункі.

У ніжэйпаданай табліцы спамінаюцца тыя-ж лясьніцтвы, якія могуць забясьпечыць завод сыравінай.

| Лясьніцтвы<br>Лесничества | Запасы смалякоў сьпеласьці<br>Запасы осмола спелости | | | Агульная колькасьць смалякоў<br>Общее количество осмола | Штогод. прых. смалякоў на лесасеках<br>Ежегод. приход. осмол на лесасек. | Колькі смалякоў спажыв., заводамі штогодна<br>Колич. осмола потреб заводами ежегодно | Лік катлоў<br>Число котлов |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Да 10 год<br>До 10 лет | Звыш 10 год<br>Свыше 10 лет | Выбар<br>Выбор | | | | |
| Нёманіцкае . . .<br>Неманицкое | 3094 | 8125 | — | 11219 | 1083 | 2690 | 3 |
| Веляціцкае . . .<br>Велятичское | 19069 | 1366 | — | 20435 | 1982 | 2954 | 3 |
| Зэмбінскае . . .<br>Зембинское | 13435 | — | 4320 | 17755 | 1362 | 4419 | 5 |
| Глівенскае . . .<br>Гливенское | 25918 | — | — | 25918 | 991 | 3473 | 4 |
| Смалявіцкае . .<br>Смолевичское | 45400 | — | — | 45400 | 588 | 3554 | 4 |
| Стара-Барысаўск.<br>Старо-Борисов. | 25108 | — | — | 25108 | 1905 | 3360 | 4 |
| Барысаўскае . .<br>Борисовское | 9708 | 3023 | — | 12731 | 820 | 3000 | 3 |
| Койданаўскае . .<br>Койдановское | 25177 | — | 17775 | 42952 | 428 | 900 | 1 |
| | 166909 | 12514 | 22095 | 201518 | 9159 | 24314 | 27 |

Як відаць з табліцы, мы тут маем агульны запас у 201.518 куб. м. смалякоў, прычым смалякоў сьпеласьці вышэй 10 год мы маем 12.514 куб. мэтр., смалякоў ад выбарачнай высечкі 22.095 куб. мэтраў. Гадавы прырост смалякоў на лесасеках гэтага раёну раўняецца 9159 куб. мэтраў.

Забясьпячэньне заводу сыравінай у першую чаргу будзе адбывацца гужавым спосабам з сумежных лясьніцтваў: Барысаўскага, Нёманіцкага Стара-Барысаўскага, Глівенскага і Зэмбінскага. Па чыгунцы смалякі могуць падвозіцца з Веляціцкага, Смалявіцкага і Койданаўскага. Гэты завод можа быць пабудован менавіта ў другую чаргу згодна наступных меркаваньняў: у лясьніцтвах Менскай акругі паводле наяўнасьці вялікай колькасьці смалакурань вельмі спустошаны запасы сьпелых смалякоў

але разам з тым маюцца значныя колькасьці прысьпяваючых смалякоў, якія ў бліжэйшыя 2—3 гады будуць ўжо выяўляць сабой смалякі добрай якасьці. Тут таксама абавязковай умовай пры пабудове заводу зьяўляецца ліквідацыя смалакурань.

Што да Полацкай акругі, то тут мы маем агульны запас смалякоў у 139.716 куб. мэтраў, з якіх сьпеласьці да 10 год—129.711 куб. мэтраў, і смалякоў ад выбарачнай высечкі 10.105 куб. мэтраў, смалякоў сьпеласьці вышэй за 10 год у гэтай акрузе няма.

Штогодны прырост смалякоў на лесасеках 5874 куб. мэтраў.

Такім чынам, выходзячы з наяўнасьці запасаў смалякоў, яго якасьці (яна значна ніжэй смалякоў Менскага і Палескага, гл. аналізы) і прымаючы пад увагу досыць значную закультываваную плошчу хваёвых высечак (па якіх у бліжэйшы час наўрад-ці мажліва выкарчоўка смалякоў) 1200—1500 га і запасы смалякоў прыкладам да 50.000 куб. мэтраў, а таксама раскіданасьць запасаў смалякоў па ўсей акрузе мы лічым пабудову экстракцыйнага заводу, ў Палацкай акрузе ў сучасны момант не рацыянальнай.

Пераходзячы цяпер да пытаньня аб сабекошту загатоўкі і дастаўкі адзінкі смалякоў, мы перш за ўсё прыводзім дадзеныя, атрыманыя намі пры вывучэньні гэтага пытаньня на мясцох, прычым пакідаем у баку кошт загатоўкі смалякоў для экспэдыцыі.

Апошнія далі-б пераўвялічаны кошт загатоўкі смалякоў, бо гэтую загатоўку прыходзілася ўтвараць у рабочую пору пры адсутнасьці рабсілы. Апрача гэтага, мясцовыя жыхары, якія рабілі выкопку пнёў для экспэдыцыі, улічвалі асаблівасьць гэтай працы, што рабіла ўплыў на яе кошт. Ніжэйпаказаныя дадзеныя выяўляюць сярэдні кошт загатоўкі і вывазкі 1 куб. мэтру смалякоў для смалакурань (па цэнах лета 1929 г.):

| Акруга<br>Округ | Кошт загатоўкі і дастаўкі на адлегласьць да 3 км.<br>Стоимость заготовки и доставки на расстояние до 3 км. | Тое-ж да 5 клм<br>Тоже до 5 килом. |
|---|---|---|
| Гомельская . . . . . . . . . . . .<br>Гомельский | — | 2 р. 58 к. |
| Мазырская . . . . . . . . . . . . .<br>Мозырский | 2 р. 66 к. | 2 „ 80 „ |
| Менская . . . . . . . . . . . . . .<br>Минский | 2 „ 42 „ | 2 „ 91 „ |
| Полацкая . . . . . . . . . . . . .<br>Полоцкий | 2 „ 50 „ | 3 „ 00 „ |

Дзеля таго, что звычайна адлегласьці дастаўкі смалякоў на смалакурні рэдка перавышаюць 5—7 км., а ў нашым выпадку маюцца адлегласьці дастаўкі смалякоў да 18 кілёмэтраў, то пры складанымі калькуляцыі дзеля вызначэньня кошту смалякоў з розных адлегласьцяй, мы карысталіся цьвёрдымі цэнамі, якія ўстаноўлены для вывазкі дроў на розныя адлегласьці для кожнай акругі, прычым для смалякоў мы павялічылі гэтую цану на 10%. У прыкладаемай табліцы № 4 вылічан кошт загатоўкі і адпраўкі мяшаным спосабам (гужом і па чыгунцы) 1 куб. мэтру смалякоў на склад заводу з розных пунктаў раёну, які будзе забясьпечваць будучы экстракцыйны завод сыравінай.

Таб. № 4.

| НАЗВА АКРУГІ<br>НАЗВАНИЕ ОКРУГА | Агульны запас смалякоў<br>Общий запас осмола | Станцыя чыгункі, куды будуць падвозіцца смалякі гужам<br>Станц. ж. дороги, куда будет подвозиться осмол гужем | Сярэдняя адлегласьць гужовай падвозкі смалякоў<br>Среднее расстояние гужевой подвозки осмола | Адлегласьць падвозкі смалякоў па чыгунцы да заводу<br>Расстоян. подвов. осмола по жел. дороги до завода | Кошт загатоўкі і гужавай / Стоимость заготовки и гужевой: Кошт загатоўкі 1 к. мэтру смалякоў<br>Стоимость заготовок 1 к. метр. осмола | | Кошт вывазкі гужам да ст. чыгункі<br>Стоим. вывозки (гужем) до ст. жел. дороги | | Налічэньне на зарплату 1,75%<br>Начисление на зарплату 1,75% | Налічэньне на кошт вывазкі в 1/3 часткі 1,25%<br>Начисление на стоимость вывоз. с 1/3 части 1,25% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | р. | к. | р. | к. | | |
| **Мазырская і Гомельск.<br>Мозырский и Гомельск.** | | | | | | | | | | |
| Хойніцкае<br>Хойникское | 18091 | Хойнікі<br>Хойники | 9 | 84 | 2 | 30 | 1 | 20 | 3,9 | 0,5 |
| Вялікаборскае<br>Великоборское | 7737 | Абрамава<br>Абрамово | 12 | 68 | 2 | — | 1 | 40 | 3,5 | 0,57 |
| Загальскае<br>Загальское | 24617 | Абрамава<br>Абрамова | 8 | 68 | 2 | — | 1 | — | 3,5 | 0,41 |
| Дзлістоўскае<br>Делистовское | 22976 | Хойнікі<br>Хойники | 8 | 84 | 2 | — | 1 | — | 3,5 | 0,41 |
| Аўцюцевіцкае<br>Автютьевичское | 28545 | Васільевічы<br>Васильевичи | 5 | 39 | 2 | — | — | 85 | 3,5 | 0,35 |
| Дземехаўскае<br>Демеховское | 10657 | Раз. Бабічы<br>Раз. Бобичы | 10 | 52 | 2 | — | 1 | 20 | 3,5 | 0,5 |
| Васільевіцкае<br>Васильевичское | 13485 | Васілевічы<br>Василевичи | 8 | 39 | 2 | — | 1 | — | 3,5 | 0,41 |
| Рэчыцкае<br>Речицкое | 5179 | Рэчыца<br>Речица | 10 | 81 | 2 | 10 | 1 | 20 | 3,67 | 0,5 |
| Калінкавіцкае<br>Калинковичское | 18702 | Галевіцы<br>Галевицы | 8 | 12 | 2 | 20 | 1 | — | 3,85 | 0,41 |
| Зялёнацкае<br>Зеленочское | 13663 | Гарочычы<br>Гарочичи | 10 | 17 | 2 | 10 | 1 | 20 | 3,67 | 0,5 |
| Капцэвіцкае<br>Капцевичское | 5719 | Птыч<br>Птичь | 18 | 35 | 2 | — | 2 | 20 | 3,5 | 0,91 |
| Мазырскае<br>Мозырское | 10143 | Мазыр<br>Мозырь | 12 | 12 | 2 | — | 1 | 40 | 3,5 | 0,57 |
| Аварыцкае<br>Аварическое | 23033 | Асташкавіч.<br>Асташкавичи | 4 | 40 | 2 | 10 | — | 60 | 3,67 | 0,25 |
| Ветчынскае<br>Ветчинское | 14905 | Пастал. ветка<br>Пасталов. ветка | 6 | 89 | 2 | 30 | — | 85 | 3,9 | 0,35 |
| Жыткавіцкае<br>Житковичское | 29796 | Жыткавічы<br>Житкович | 8 | 104 | 2 | 30 | 1 | — | 3,9 | 0,41 |
| Дарашэвіцкае<br>Дорошевичское | 53553 | Канцэвічы<br>Канцевичи | 6 | 70 | 2 | — | — | 85 | 3,5 | 0,35 |
| Нараўлянскае<br>Нарвянское | 40462 | Ельск<br>Ельск | 10 | 48 | 2 | — | 1 | 20 | 3,5 | 0,5 |
| **Менская—Минский** | | | | | | | | | | |
| Нёманіцкае<br>Нёманицкое | 11219 | Прыяміна<br>Приямино | 11 | 22 | 2 | — | 1 | 25 | 3,5 | 0,51 |
| Веляціцкае<br>Велятичское | 20435 | Прыяміна<br>Приямино | 12 | 22 | 2 | — | 1 | 25 | 3,5 | 0,51 |
| Зембінскае<br>Зембинское | 17755 | Барысаў<br>Борисов | 25 | — | 2 | 12 | 2 | 50 | 3,71 | 0,03 |
| Глівенскае<br>Гливенское | 25918 | Барысаў<br>Борысов | 9 | — | 2 | — | 1 | — | 3,5 | 0,41 |
| Стара-Барысаўскае<br>Старо-Борисовское | 25108 | Барысаў<br>Борисов | 10 | — | 2 | — | — | 90 | 3,5 | 0,37 |
| Смалявіцкае<br>Смолевичское | 45400 | Жодзіна<br>Жодино | 5 | 20 | 2 | 10 | — | 60 | 3,67 | 0,25 |
| Барысаўскае<br>Борисовское | 12731 | Барысаў<br>Борисов | 10 | — | 2 | 80 | 1 | 10 | 4,9 | 0,46 |
| Койданаўскае<br>Койдановское | 42952 | Койданаў<br>Койданово | 9 | 118 | 2 | 10 | 1 | — | 3,67 | 0,41 |

| вывазкі 1 к. м. смалякоў / вывозки 1 к. м. осмола | | | | | Кошт дастаўкі 1 к. м. смал. па чыг. / Стоим. доставки 1 к. м. осмола по ж. дор. | | | | | | Агульны кошт дастаўкі смалякоў (1 куб. мэтр.) / Общая стоимость доставки осмола (1 куб. метра). | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Папенная плата за 1 к.м. / Попенная плата за 1 куб. м. | Мясцовы і гэрбавы збор / Мест. і герб. сбор 5½% | Арганізацыйн. выдаткі / Организационные расходы | Разам / Итого р. | к. | Падача вагонаў да месца нагрузкі да 10 клм. / Подача вагонов к месту погрузки до 10 килом. | Чыгуначны тарыф / Железно-дорожн. тариф | Станцыённыя і іншыя выдаткі / Станционные и другие расходы | Нагрузка і выгрузка / Нагрузка и выгрузка р. к. | Разам / Итого р. | к. | р. | к. |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 58 | — | 38,6 | 31,5 | 45 | 1 | 15 | 5 | 73 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 47 | — | 33,4 | 31,5 | 45 | 1 | 10 | 5 | 57 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 7 | — | 33,4 | 31,5 | 45 | 1 | 10 | 5 | 17 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 7 | — | 38,6 | 31,5 | 45 | 1 | 15 | 5 | 22 |
| 41 | 2,25 | 60 | 3 | 92 | — | 25,5 | 31,5 | 45 | 1 | 2 | 4 | 94 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 27 | 13 | 29,7 | 31,5 | 45 | 1 | 10 | 5 | 46 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 7 | — | 25,4 | 31,5 | 45 | 1 | 2 | 5 | 9 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 37 | — | 37,1 | 31,5 | 45 | 1 | 14 | 5 | 51 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 28 | 13 | 8,6 | 31,5 | 45 | — | 98 | 5 | 26 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 37 | — | 12,1 | 31,5 | 45 | — | 89 | 5 | 26 |
| 41 | 2,25 | 60 | 5 | 28 | — | 23,3 | 31,5 | 45 | 1 | — | 6 | 28 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 47 | — | 8,6 | 31,5 | 45 | — | 98 | 5 | 45 |
| 41 | 2,25 | 60 | 3 | 77 | — | 25,5 | 31,5 | 45 | 1 | 2 | 4 | 79 |
| 36 | 1,98 | 60 | 4 | 17 | 13 | 38,6 | 31,5 | 45 | 1 | 28 | 5 | 45 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 38 | — | 42,6 | 31,5 | 45 | 1 | 19 | 5 | 57 |
| 41 | 2,25 | 60 | 3 | 92 | — | 33,4 | 31,5 | 45 | 1 | 10 | 5 | 2 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 23 | — | 29,0 | 31,5 | 45 | 1 | 6 | 5 | 29 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 32 | — | 17,5 | 31,5 | 45 | — | 94 | 5 | 26 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 32 | — | 17,5 | 31,5 | 45 | — | 94 | 5 | 26 |
| 36 | 1,98 | 60 | 5 | 65 | — | — | — | — | — | — | 5 | 65 |
| 41 | 2,25 | 60 | 4 | 7 | — | — | — | — | — | — | 4 | 7 |
| 36 | 1,98 | 60 | 3 | 92 | — | — | — | — | — | — | 3 | 92 |
| 46 | 2,53 | 60 | 3 | 83 | — | 14,1 | 31,5 | 45 | — | 91 | 4 | 74 |
| 46 | 2,53 | 60 | 5 | 4 | — | — | — | — | — | — | 5 | 4 |
| 41 | 2,25 | 60 | 3 | 18 | — | 45,9 | 31,5 | 45 | 1 | 23 | 5 | 41 |

## УВАГА
## ПРИМЕЧАНИЕ

У графу **станцыённыя і іншыя выдаткі** ўвайшло:

В графу станционные и другие расходы вошло:

1) **узважваньне пры нагрузцы** 7,4 к.

1) взвешивание при погрузке 7,4 к.

2) **Станцыённыя выдаткі** 6.6 к.

2) Станцион. расход. 6,6 к

3) Арганізац. выдаткі па станц. 4,5 к.

3) Организац. расходы по станции 4,5 к.

4) Гербав. збор 2 к.

4) Гербовы сбор 2 к.

5) **Арэнда вучасткаў на станцыі пад склад смалякоў** 7 к.

5) Аренда участков на станции под склад осмола 7 кап.

6) **Ахова смалякоў** 4 кап.

6) Охрана осмолл 4 к.

Разам: 31,5 к.

Всего: 31,5 к.

У графе—арганізацыйныя выдаткі—мы лічым: зарплата служачым па загатоўцы смалякоў, пабудовы і рамонт дарог, аплата кватэр служачым на вучастках загатоўкі смалякоў, разьезды служачых і іншыя дробныя і непрадбачаныя выдаткі па арганізацыі забесьпячэньня заводу сыравінай.

Адлегласьці гужовай вывазкі смалякоў да лініі чыгункі мы бралі як сярэднія адлегласьці, прынятыя пры вывазе з лясьніцтваў розных лесаматар'ялаў.

Калі вылічыць сярэдня-ўзважаны кошт 1 куб. мэтру смалякоў, то мы атрымаем—для заводаў у Калінкавічах 1 куб. мэтру смалякоў з дастаўкай на завод будзе каштаваць 5 руб. 25 кап.; для заводу ў Барысаве—4 р. 90 кап. Ваўсіх разьліках ёмістасьць аднаго вагону мы лічым у 27 куб. мэтраў смалякоў.

У выніку можна намеціць на бліжэйшыя пяць год прыкладам такі парадак забесьпячэньня заводаў смалякамі: для Палескага заводу: 1-й год смалякі дастаўляюцца з Азарыцкага і Дэлістаўскага лясьніцтваў; 2-і год—Жыткавіцкага і Дарашэвіцкага; 3-і год — Аўцюцевіцкага; 4-ы год—Нараўлянскага і Мазырскага і 5-ы год—з Вялікаборскага і Загальскага.

Для Барысаўскага заводу: 1-ы год—Нёманіцкае і Барысаўскае; 2-і год—Веляціцкае, 3-і год—Смалявіцкае, 4-ы год—Стара—Барысаўскае і 5-ы год—з Койданаўскага лясьніцтва.

У правядзеньні гэтай працы прыймалі удзел вучоныя лесаводы: Н. І. Дарашэвіч, Я. К. Троська, асьпірант В. С. Бобраўніцкі і студэнт Е. М. Байдзін. Добрасумленныя і ўважлівыя адносіны да працы памянёных асоб, садзейнічала пасьпяховаму правядзеньню і выкананьню ў тэрмін працы.

*Праф. КАРАТКОЎ.*

---

Дадатак № 1
Приложение № 1

**Ведамасьць аналізау пнёвых смалякоу**
**Ведомость анализов пневого осмола**

| №№ па чарзе / №№ по порядку | Лясьніцтва / Лесничество | Тып дрэвастану / Тип насажден. | Глеба / Почва | Сьпеласьць пнёвых смалякоў / Спелость пнев. осмол. | Дыямэтр у см. / Диаметр пней в см. | % вільготнасьці / % влажности | % утрыманьни каліфоні і шпігінару ў адносінах да абс. сухіх смалякоў / % содержан. каниф. и скипид. по отнош. к абсол. сух. осмолу | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Каліфоня / Канифоль | Шпігінар / Скипидар |
| 1 | Калінкавіцкае / Калинковичское | Ягадны бор / Ягодный бор | Пяшч. / Песч. | 17 год / 17 лет | 28 | 14,88 | 16,02 | 2,25 |
| 1 | | | | | 28 | 19,55 | 18,10 | 2,81 |
| 3 | | | | | 32 | 20,65 | 18,60 | 1,21 |
| 4 | | | | | 32 | 23,93 | 13,36 | 1,97 |
| 5 | | | | | 36 | 22,64 | 20,12 | 3,78 |
| 6 | | | | | 40 | 20,62 | 17,99 | 6,16 |
| 7 | | | | | 44 | 21,29 | 23,61 | 3,98 |
| 8 | | | | | 44 | 19,81 | 19,23 | 2,89 |
| | | | | Сярэдняе / Среднее | — | — | 18,13 | 3,14 |
| 9 | Камаровіцкае / Комаровичское | Бор ягаднік. / Бор ягодников. | „ | 14 год / 14 лет | 23 | 29,03 | 5,00 | 1,40 |
| 10 | | | | | 34 | 19,64 | 10,12 | 1,21 |
| 11 | | | | | 36 | 21,68 | 13,94 | 1,07 |
| 12 | | | | | 40 | 24,05 | 14.59 | 1,79 |
| 13 | | | | | 40 | 25,42 | 26,09 | 1,66 |
| 14 | | | | | 54 | 17,85 | 22,61 | 3,61 |
| | | | | Сярэдняе / Среднее | — | — | 16,39 | 1,79 |
| 15 | Прыпяцкае / Припятское | Пераходны тып ад зялёна-імшари. да субалотн. / Переходный тип от зеленомош. к суболоти. | „ | 20-25 год / 20-25 лет | от 32 до 45 | 26,95 | 13,85 | 5,07 |
| 16 | | | | | | 25,22 | 24,21 | 4,44 |
| 17 | | | | | | 20,99 | 20,00 | 3,86 |
| 18 | | | | | | 19,76 | 15,58 | 2,33 |
| 19 | | | | | | 20,08 | 13,36 | 1,46 |
| 20 | | | | | | 27,26 | 32,13 | 8,81 |
| 21 | | | | | | 18,97 | 32,09 | 4,09 |
| 22 | | | | | | 27,71 | 13,35 | 2,34 |
| 23 | | | | | | 35,14 | 17,61 | 2,96 |
| 24 | | | | | | 32,77 | 18,67 | 1,65 |
| | | | | Сярэдняе / Среднее | — | — | 20,08 | 3,80 |
| 25 | Азарыцкае / Азаричское | Бор верасковы / Бор вересковый | „ | 16 год / 16 лет | от 28 до 40 | 23,01 | 15,60 | 3,55 |
| 26 | | | | | | 21,47 | 21,21 | 4,92 |
| 27 | | | | | | 19,12 | 16,22 | 1,75 |
| 28 | | | | | | 14,71 | 18,80 | 3,57 |
| 29 | | | | | | 16,42 | 22,31 | 6,20 |
| 30 | | | | | | 19,32 | 11,58 | 1,78 |
| 31 | | | | | | 18,77 | 14,94 | 1,16 |
| 32 | | | | | | 22,95 | 19,45 | 2,38 |
| 33 | | | | | | 19,75 | 15,36 | 1,50 |
| 34 | | | | | | 19,07 | 14,40 | 0,57 |
| 35 | | | | | | 22,84 | 12,22 | 2,28 |
| 36 | | | | | | 18,13 | 8,87 | 0,63 |
| | | | | Сярэдняе / Среднее | — | — | 15,91 | 2,44 |

| №№ па чарзе<br>№№ по порядку | Лясьніцтва<br>Лесничество | Тып дрэвастану<br>Тип насаждён. | Глеба<br>Почва | Сьпеласьць пнёвых смалякоў<br>Спелость пнев. осмол | Дыямэтр пн. у см.<br>Диаметр пней в см. | % вільготнасьці<br>% влажности | Каліфоня<br>Канифоль | Шпігінар<br>Скипидар |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | % утрыманьня каліфоні і шпігінару ў адносінах да абс. сухіх смалякоў<br>% содержан. каниф. и скипид. по отнош. к абсол. сух. осмолу | |
| 37 | Зялёнацкае | Бор | Пяшч. | 10 год | 20 | 17,88 | 32,18 | 4,48 |
| 38 | (Зялёнацкая | верасковы | Песч. | 10 лет | 24 | 15,49 | 21,65 | 2,41 |
| 39 | дача) | Бор вересковый | | | 32 | 27,10 | 26,07 | 3,80 |
| 40 | Зеленочское | | | | 36 | 16,74 | 16,97 | 1,20 |
| 41 | (Зеленочская дача) | | | | 32 | 30,22 | 15,18 | 3,33 |
| 42 | | | | | 36 | 15,19 | 13,56 | 2,61 |
| 43 | | | | | 40 | 19,59 | 16,18 | 0,80 |
| 44 | | | | | 40 | 23,35 | 9,21 | 1,45 |
| 45 | | | | | 44 | 29,86 | 10,17 | 0,59 |
| 46 | | | | | 36 | 17,88 | 17,07 | 2,45 |
| 47 | | | | | — | 22,43 | 16,58 | 2,74 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 17,71 | 2,26 |
| 48 | Зялёнацкае | " | " | 10 год | 20 | 17,96 | 18,01 | 1,51 |
| 46 | (Ліпаўская дача) | | | 10 лет | 20 | 19,52 | 20,46 | 1,60 |
| 50 | Зеленочское | | | | 20 | 13,08 | 17,46 | 3,18 |
| 51 | (Ліповская дача) | | | | 28 | 17,50 | 13,99 | 1,91 |
| 52 | | | | | 28 | 22,55 | 23,81 | 2,79 |
| 53 | | | | | 28 | 19,12 | 29,87 | 2,92 |
| 54 | | | | | 32 | 17,42 | 20,99 | 4,86 |
| 55 | | | | | 36 | 17,65 | 19,04 | 1,38 |
| 56 | | | | | 32 | 25,72 | 31,53 | 5,58 |
| 57 | | | | | 36 | 23,69 | 24,52 | 1,33 |
| 58 | | | | | 48 | 22,59 | 14,51 | 1,10 |
| 59 | | | | | 48 | 16,99 | 23,70 | 3,21 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 21,49 | 2,61 |
| 60 | Тураўскае | Бор ягадн. | " | 16 год | — | 23,42 | 13,48 | 2,50 |
| 61 | Туровское | Бор ягодн. | | 16 лет | — | 27,73 | 23,64 | 5,46 |
| 62 | | | | | — | 25,89 | 23,12 | 2,59 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 20,08 | 3,51 |
| 63 | Даниловіцкае | Субор | Супесь | 7 гадоў | — | 17,41 | 18,32 | 0,55 |
| 64 | Даниловичское | Суборь | Супесь | 7 лет | — | 13,91 | 24,94 | 1,64 |
| 65 | | | | | — | 26,28 | 6,21 | 0,30 |
| 66 | | | | | — | 33,59 | 21,57 | 1,76 |
| 67 | | | | | — | 21,94 | 14,33 | 1,50 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 17,07 | 1,15 |
| 68 | Тачежскае | Бор | Пяшч. | 15 год | — | 19,83 | 22,75 | 1,71 |
| 69 | Танежское | верасковы | Песч. | 15 лет | — | 20,92 | 34,69 | 2,97 |
| 70 | | Бор вересковый | | | — | 18,61 | 26,25 | 1,86 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 27,96 | 2,18 |

| №№ па чарзе<br>№№ по порядку | Лясьніцтва<br>Лесничество | Тып дрэвастану<br>Тип насажден. | Глеба<br>Почва | Сьпеласьць пнёвых смалякоў<br>Спелость пнев. осмол. | Дыямэтр пн. у см.<br>Диаметр пней в см. | % вільготнасьці<br>% влажности | % утрыманьня каліфоні і шпігінару ў адносінах да абс. сухіх смалякоў<br>% содержан. каниф. и скипид. по отнош. к абсол. сух. осмолу | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Каліфоня<br>Канифоль | Шпігінар<br>Скипидар |
| 71 | Вялікаборскае | Бор ягадн. | Пяшч. | 10 год | 30 | 28,16 | 12,23 | 2,71 |
| 72 | Великоборское | Бор ягодн. | Песч. | 10 лет | 40 | 21,77 | 12,26 | 4,48 |
| 73 | | | | | 55 | 31,81 | 14,00 | 2,11 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 12,83 | 3,1 |
| 74 | Хойніцкае | Бор зялёна- | „ | 10 год | 22 | 19,81 | 9,61 | 3,93 |
| 75 | Хойничское | імшарнік | | 10 лет | 36 | 19,63 | 7,12 | 2,02 |
| 76 | | Бор зелено- | | | 36 | 19.80 | 15,42 | 3,75 |
| 77 | | мошник | | | 50 | 17,74 | 17,57 | 3.52 |
| 78 | | | | | 60 | 19,55 | 18,99 | 4,92 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 13.74 | 3,62 |
| 79 | Далістоўскае | Бор ягадн. | „ | 10 год | 36 | 18,78 | 17,28 | 2,55 |
| 80 | Делистовское | Бор ягодн. | | 10 лет | 40 | 18,82 | 13,04 | 1,84 |
| 81 | | | | | 40 | 21,59 | 17,90 | 1,28 |
| 82 | | | | | 40 | 22,94 | 23,29 | 1,90 |
| 83 | | | | | 40 | 17,12 | 13,69 | 0,35 |
| 84 | | | | | 44 | 20,44 | 12,68 | 0,49 |
| 85 | | | | | 44 | 26,01 | 13,32 | 3,35 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 15.95 | 1,75 |
| 86 | Рэчыцкае | Бор зялёна- | „ | 18 год | 32 | 20,17 | 23,27 | 4,19 |
| 87 | Речицкое | імшарнік | | 18 лет | 32 | 21,37 | 21,97 | 2,19 |
| 88 | | Бор зелено- | | | 36 | 20,00 | 21,08 | 0,65 |
| 89 | | мошник | | | 36 | 20,53 | 29,07 | 3,24 |
| 90 | | | | | 36 | 20,11 | 26,26 | 4,68 |
| 91 | | | | | 40 | 33,17 | 10,67 | 3,26 |
| 92 | | | | | 40 | 16,82 | 19,95 | 4,13 |
| 93 | | | | | 40 | 27,43 | 17,26 | 2,75 |
| 90 | | | | | 41 | 20,53 | 17,79 | 4,45 |
| 95 | | | | | 44 | 26,06 | 21,53 | 4,08 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 20,88 | 3,36 |
| 96 | Ленінскае | Бор ягадн. | „ | 15 год | 32 | 34,73 | 16,60 | 3,75 |
| 97 | спроб. пл. № 1 | Бор ягодн. | | 15 лет | 32 | 17,26 | 19,34 | 1,76 |
| 98 | Ленинское | | | | 36 | 19,11 | 18,51 | 1,02 |
| 99 | пробн. пл. № 1 | | | | 36 | 25,41 | 25,81 | 1,68 |
| 100 | | | | | 40 | 29,60 | 18,73 | 2,42 |
| 101 | | | | | 44 | 20,71 | 22,15 | 2,45 |
| 102 | | | | | 40 | 22,30 | 11,79 | 1,61 |
| 103 | | | | | 52 | 22,73 | 29,63 | 2,63 |
| 104 | | | | | 52 | 26,02 | 13,47 | 0,69 |
| 105 | | | | | 56 | 34,80 | 15,99 | 3,90 |
| 106 | | | | | 57 | 20,92 | 17,53 | 2,77 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 19,05 | 2,19 |

| №№ па чарзе<br>№№ по порядку | Лясьніцтва<br>Лесничество | Тып дрэвастану<br>Тип насаждeн. | Глеба<br>Почва | Сьпеласьць пнёвых смалякоў<br>Спелость пнев. осмол. | Дыямэтр пн. у см.<br>Диаметр пней в см. | % вільготнасьці<br>% влажности | % утрыманьне каліфоні і шпігінару ў адносінах да абс. сухіх смалякоў<br>% содержан. каниф. и скипид. по отнош. к абсол. сух. осмолу<br>Каліфоня<br>Канифоль | <br><br>Шпігінар<br>Скипидар |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 107 | Ленінскае спроб. пл. № 2<br>Ленинское пробн. пл. № 2 | Бор ягадн.<br>Бор ягодн. | Пяшч.<br>Песч. | 16 год<br>16 лет | 20 | 35,87 | 12,61 | 0,72 |
| 108 | | | | | 28 | 29,54 | 20,18 | 2,18 |
| 109 | | | | | 36 | 30,61 | 26,88 | 1,54 |
| 110 | | | | | 36 | 29,37 | 21,80 | 1,12 |
| 111 | | | | | 36 | 21,67 | 18,98 | 1,43 |
| 112 | | | | | 40 | 29,86 | 20,53 | 3,50 |
| 113 | | | | | 40 | 34,51 | 19,57 | 4,20 |
| 114 | | | | | 40 | 28.39 | 27,98 | 1,97 |
| 115 | | | | | 48 | 30,32 | 13,23 | 2,31 |
| 116 | | | | | 56 | 24,89 | 21,09 | 3,53 |
| 117 | | | | | 52 | 25,08 | 31,32 | 2,65 |
| 118 | | | | | 60 | 29,09 | 41,11 | 3,62 |
| 119 | | | | | 60 | 23.31 | 20,09 | 5,08 |
| 120 | | | | | 50 | 23,53 | 17,58 | 3,73 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 22,35 | 2,68 |
| 121 | Громаўскае<br>Громовское | Субор<br>Суборь | Супесь<br>Супесь | 11 гадоў<br>11 лет | 24 | 37,92 | 10,76 | 1,27 |
| 122 | | | | | 32 | 26,0 | 12,03 | 1,81 |
| 123 | | | | | 32 | 25,26 | 14,18 | 0,78 |
| 124 | | | | | 32 | 29,01 | 5,90 | 0,56 |
| 125 | | | | | 36 | 27,54 | 16,87 | 1,75 |
| 126 | | | | | 38 | 23,81 | 23,47 | 2,83 |
| 127 | | | | | 40 | 20,33 | 13,04 | 1,97 |
| 128 | | | | | 40 | 24,86 | 12,25 | 1,53 |
| 129 | | | | | 40 | 23,38 | 21,43 | 2,68 |
| 130 | | | | | 48 | 27,13 | 19,08 | 1,55 |
| 131 | | | | | 52 | 33,44 | 12,01 | 1,37 |
| 132 | | | | | 52 | 27,89 | 15,82 | 0,51 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 14,81 | 1,55 |
| 133 | Юховіцкае<br>Юховицкое | Бор зялёнаімшарнік<br>Бор зеленомошник | Пяшч.<br>Песч. | 8 год<br>8 лет | 28 | 30,37 | 8,53 | 0,65 |
| 134 | | | | | 36 | 24,86 | 14,01 | 2,59 |
| 135 | | | | | 40 | 22,34 | 20,31 | 1,20 |
| 136 | | | | | 40 | 23,70 | 22,04 | 2,92 |
| 137 | | | | | 40 | 14,95 | 20,27 | 7,97 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 17,03 | 3,26 |
| 138 | Клясьціцкае<br>Клястицкое | Субор<br>Суборь | Супесь<br>Супесь | 19 год<br>19 лет | 24 | 31,08 | 12.26 | 2,34 |
| 139 | | | | | 27 | 27,00 | 18,30 | 0,91 |
| 140 | | | | | 28 | 31,59 | 11,30 | 3,50 |
| 141 | | | | | 28 | 29,21 | 14,28 | 4,40 |
| 142 | | | | | 28 | 28,70 | 18,75 | 3,85 |
| 143 | | | | | 32 | 29,43 | 12.53 | 0,98 |
| 144 | | | | | 32 | 27,73 | 11,38 | 2,18 |
| 145 | | | | | 32 | 33,80 | 16.39 | 2,62 |
| 146 | | | | | 32 | 33,21 | 16,34 | 1,10 |
| 147 | | | | | 36 | 28,45 | 17,32 | 4,24 |
| 148 | | | | | 45 | 39,94 | 6,36 | 0,58 |
| | | | | Сярэдняе<br>Среднее | — | — | 14,38 | 2,44 |

Таблица № 8. Табліца № 8.

Разьмеркаваньне будоўнай і вырабной драўніны па сартымэнтах у Беларусі.

Распределение строевой и поделочной древесины по сортиментам в Белоруссии.

| Парода лесу<br>Порода леса | Даўжыня бярвен., каржакоў, чурбакоў і да т. п. у мэтрах<br>Длина бревен, кряжей, чурбанов и т. п. в метрах | Дыямэтр верхняга адрэзу ў сантымэтрах / Диаметр верхнего отруба в сантиметрах — Сартымэнты / Сортименты: Вялікі<br>Крупный | Сярэдні<br>Средний | Дробны<br>Мелкий |
|---|---|---|---|---|
| 1. Дуб і ясень<br>Дуб и ясень | Да $4^1/_2$<br>До | 36 і вышэй<br>и выше | 18—35 | 4—17 |
| | $5—8^1/_2$ | 31 " | 13—30 | 4—13 |
| | 9—13 | 27 " | 13—26 | 4—12 |
| | $13^1/_2—17$ | 22 " | 4—21 | — |
| | $17^1/_2—21$ | 18 " | 4—17 | — |
| | 21 і вышэй<br>и выше | 13 " | 4—12 | — |
| 2. Хвоя і елка<br>Сосна и ель | Да $2^1/_2$ | — | 18 і вышэй<br>и выше | 4—17 |
| | $3—6^1/_2$ | 36 " | 18—35 | 4—17 |
| | $7—10^1/_2$ | 31 " | 13—30 | 4—12 |
| | 11—12 | 27 " | 9—26 | 4—8 |
| | 13—16 | 22 " | 5—21 | — |
| | 17—20 | 18 " | 4—17 | — |
| | 21—25 | 13 " | 4—12 | — |
| | $25^1/_2$ і вышэй<br>и выше | 9 " | 4- 88 | — |
| 3. Вольха, асіна, ліпа, клён, лём і інш. ліст. пароды<br>Ольха, осина, липа, клен, ильм и проч. лист. породы | Да $4^1/_2$ | — | 22 і вышэй<br>и выше | 4—21 |
| | $5—8^1/_2$ | — | 18 " | 4—17 |
| | $9—10^1/_2$ | — | 14 " | 4—13 |
| | 11 і болей<br>и выше | — | 11 " | 4—10 |

З табліцы № 8 відаць, што амаль роўным плошчам гадовых лесасек двух гадоў, якія параўноўваюцца, адпавядаюць і блізкія запасы, розьніца між апошнімі каля 3-х процантаў. Значна павялічыўся ў 1928—29 годзе ў параўнаньні з 1926—27 годам процантны ўдзел у агульным запасе дрывянай драўніны замест 58,8% у 1926—27 годзе—64,4% у 1928—29 годзе. Апошняя акалічнасьць тлумачыцца галоўным чынам тым, што лесасекі 1926—1927 г. адводзіліся ў той час, калі колькасьць лясоў БССР была яшчэ не ўпарадкавана, а лесасекі ў 1928—29 годзе адводзіліся ўжо пры наяўнасьці значнай часткі лясоў, ахопленых лесаўпарадкаваньнем, якое прызначала для высечкі ў першае дзесяцігодзьдзе у пераважнасьці кепскія па стану вучасткі. Тым жа самым, мабыць, тлумачыцца і агульнае падзеньне запасу гадовай лесасекі на тры проценты. Як ужо паміналася раней згодна новага каштарысу, плошча гадовай лесасекі прызначана значна больш фактычна адведзенай у 1926—27 і 1928—29 гадох, вынікам чаго трэба чакаць і павялічэньня масы кары-

станьня, прыкладам прапарцыянальна павялічэньню плошчы; такім чынам у бліжэйшыя гады трэба меркаваць, што разьмер карыстаньня па масе будзе раўняцца $\frac{3515 \times 27820}{22408} = 4363$ тысяч куб. мэтр. Гэтая лічба троху менш намеченай на 1929—30 г. пэрспэктыўным плянам, якім на пяцігодку з чарговай гадовай лесасекі мяркуецца наступны водпуск у тысячах куб. мэтр.

Таблица № 9. Табліца № 9.

| 1929/30 год. | | | 1930/31 год. | | | 1931/32 год. | | | 1932/33 год. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тавар. Дел. | Дрыв. Дров. | Усяго Всего | Тавар. Дел. | Дрыв. Дров. | Усяго Всего | Тавар. Дел. | Дрыв. Дров. | Усяго Всего | Тавар. Дел. | Дрыв. Дров. | Усяго Всего |
| 1984 | 2525 | 4509 | 2104 | 2572 | 4677 | 2199 | 2560 | 4759 | 2317 | 2613 | 4930 |

Што тычыцца чакаемай масы дасьледуемых намі дрэўных парод з гадовай лесасекі згодна новага каштарысу, то яна павялічыцца галоўным чынам у сувязі са зьменнасьцю плошчы лесасек у іглястай гаспадарцы. Запас бярозавай драўніны, якая атрымліваецца з іглястай лесасекі, такім чынам будзе раўняцца $\frac{183 \times 16933}{11487} = 270$ тысяч куб. мэтраў, з лесасекі іншых ліставых парод $\frac{287 \times 8462}{7727} = 314$ тысяч куб. мэтраў, з альховай лесасекі $\frac{28,7 \times 1685}{1869} = 26$ тысяч куб. мэтраў, з дубова-ясянёвай лесасекі $\frac{10,2 \times 739,6}{706} = 10,7$ тысяч куб. мэтраў. Бярозавая драўніна з лесасекі хваёвай гаспадаркі па балоце намі ня прымаецца пад увагу, як няпрыгодная для фанернага вытвару. Такім чынам, усяго згодна новай каштарыснай лесасекі бярозавай драўніны атрымаецца 621 тыс. куб. мэтраў, замест 509 тыс. куб. мэтраў 1928—1929 г. і 506 куб. мэтр. сярэдняй масы 1926—28 і 1928—29 г. (ня лічучы бярозы з хваёвай гаспадаркі па балоце) г. зн. на 22% болей. Аналёгічны разьлік для асінавай драўніны паказвае, што з новай каштарыснай лесасекі яе атрымаецца з іглястай гаспадаркі $\frac{134 \times 16933}{11487} = 197$ тыс. куб. мэтр., з гаспадаркі іншых ліставых парод $\frac{270 \times 8462}{7727}$ 295 тыс. куб. мэтр., з альховай гаспадаркі $\frac{16,3 \times 1685}{1869} = 14,7$ тыс. куб. мэтр. і з дубовай гаспадаркі $\frac{10,7 \times 739,6}{706} = 11,2$, а ўсяго 518 тыс. куб. мэтр. замест 431 тыс. куб. мэтр. 1928—29 г. і 425 куб. мэтр. сярэдняй масы 1926—27 і 1928—29 году, г. зн. на 21% больш.

Пададзены ў табліцы № 7 лічбавы матар'ял, асновыны на вылічэньні па часовых масавых табліцах, дае досыць зноснае (дакладней кажучы—з аднэй і тэй-жа сталай памылкай у бок перамяншэньня на 10—15%, дзякуючы нявернасьці часовых масавых табліц), ўяўленьне аб агуль-

ным запасе гадовай лесасекі і аб разьмеркаваньні яго па пародах; некаторае ўяўленьне можна таксама атрымаць з яго аб сартымэнтацыі іглястага запасу і бадай запасу цьвёрдых ліставых парод. Што датычыцца сартымэнтнага складу мякка ліставых парод, то дадзеныя гэтыя зусім не здавальняючыя. Тлумачыцца гэта і цяжкасьцю кваліфікацыі пры пераліку зачастую фаутных ліставых дрэў, і нерацыянальнай распрацоўкай іх на лесасеках, і нарэшце, звычаем у некаторых раёнах адносіць пры пераліку ўсю бярозу і асіну ў дровы.

Прамежныя карыстаньні ў лясох Беларусі да гэтага часу ня мелі шырокага распаўсюджаньня Аднак, у 1928—29 гадзе на разьвіцьцё іх была зьвернута ўвага вышэйшых дзяржаўных органаў БССР. Маюцца адпаведныя пастановы Дзяржпляну Эканомнарады і СНК, прычым, згодна пастановы ад 20 III 1929 году, ў бліжэйшы час прамежнымі высечкамі павінна быць ахоплена ўся лясная плошча Беларусі. Згодна пяцігадовага пляну намечана разьвіцьцё мер дагляду за лесам у тысячах куб. мэтр.

Таблица № 10. Табліца № 10.

| | 1928/29 г. | 1929/30 г. | 1930/31 г. | 1931/32 г. | 1932/33 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Прачыстка . . . . Прочистка | 25 | 30 | 40 | 50 | 65 |
| Зрэджваньне . . . Прореживание | 54 | 250 | 300 | 400 | 500 |
| Праход. высечка . Проход. рубка | 124 | 455 | 600 | 750 | 850 |
| Разам . . . . Итого | 203 | 735 | 940 | 1200 | 1415 |
| У %% ад галоўн. карыстаньня . В %% от главн. пользования | 5,2 | 16,3 | 20,0 | 25,2 | 28,6 |

Такім чынам у 1930—31 апэрацыйным годзе пры даглядзе за лесам будзе атрымлівацца 20% драўніны ад галоўнага карыстаньня, а да канца пяцігодкі прамежныя высечкі дасягнуць да 28,6% галоўнага карыстаньня

Якая колькасьць з гэтай агульнай масы драўніны, што атрымліваецца пры высечках дагляду, прыгодна дзеля вырабкі фанернай сыравіны? Мы думаем, што фанерная драўніна можа атрымацца толькі пры праходных высечках у іглястай і дубова-ясянёвай гаспадарках у мяшаных дрэвастанах, пачынаючы з 50 год, г. зн. з другой паловы III-яй клясы ўзросту, бо пры праходных высечках у іншых гаспадарках, калі яны ў іх нават і будуць практыкавацца, будзе атрымлівацца амаль выключна дробная драўніна; тое-ж трэба сказаць і аб драўніне, якая атрымліваецца пры зрэджваньнях у іглястай і дубова-ясянёвай гаспадарцы, як такой, з якой атрымліваецца значная колькасьць бярозавай і асінавай драўніны (36—31%).

З дадзеных табліцы № 2 відаць, што дрэвастанамі старэй за 50 год, пачынаючы з другой паловы III-яй клясы ўзросту, занята 691775 гэктараў. Але ў гэтую плошчу ўваходзіць таксама і будучая дзесяцігадовая каштарысная лесасека, на якой пэўна ня будуць утварацца праходныя высечкі. Калі выключыць гэтую плошчу, то застанецца тая плошча гас-

падаркі, на якой у бліжэйшае 10-годзьзе могуць мецъ месца прамежныя карыстаньні. Плошча гэта складае 691.775—15.026,7. 10=541,508 гэктараў. Такім чынам праходныя высечкі ў іглястэй гаспадарцы на працягу дзесяцігодзьдзя будуць утварацца ў дрэвастанах ва ўзросьце ад 50 да 60 год на плошчы 165,599 гэктараў, ва ўзросьце ад 60 да 80 год на плошчы 245,617 га і ва ўзросьце ад 80 год і звыш на плошчы 130292 га.

З поўных дрэвастанаў пры мерных праходных высечках у такім выпадку даставалася-бы ў сярэднім каля 30 куб. мэтр., альбо 10% запасу з гэктару стваловай драўніны.

Пры ўстанаўленьні колькасьці бярозавай і асінавай драўніны, якую мажліва атрымаць пры праходных высечках у іглястай гаспадарцы ў БССР, мы будзем кіравацца наступнымі меркаваньнямі.

Згодна пастановы Эканомнарады РСФСР, у інтарэсах разьвіцьця фанернай прамысловасьці дапускаецца выбарка ліставых парод з іглястых дрэвастанаў у колькасьці да 0,3 складу. Мы мяркуем, што калі дапусьціць выбарку бярозы і асіны пры праходных высечках у разьмеры паловы аднэй дзесятай, г. зн. 5% ад агульнага запасу, то стан іглястых дрэвастанаў ад гэтага ва ўсякім выпадку не пацерпіць. Дзеля таго, што сярэдні запас у іглястых дрэвастанах БССР ва ўзросьце ад 50 да 90 год ніяк ня менш 100 куб. мэтр., з гэктару мажліва будзе атрымаць у сярэднім каля 5 куб. мэтр ліставых парод. У сярэднім у складзе іглястай гаспадаркі ў БССР маецца 10,8% бярозы і 7,9% асіны, значыцца, пры выбарцы 5% запасу будзе ўзята усяго трохі больш чацьвертай часткі ўсёй дамешкі. Апрача таго, выбарка ў такой нязначнай колькасьці другарадных парод дасьць магчымасьць адначасова высечы і ўцiснутыя і фаўтныя экзэмпляры галоўнай пароды прыкладам у такой жа колькасьці і такім чынам давесьці праходную высечку наогул да разьмеру ў 10% ад запасу.

Прынятая намі норма выбаркі пры праходных высечках у 10 куб. мэт. на гэктары нэкалькі менш устаноўленай у якасьці арыэнтыровачнай лясным тэхнічным камітэтам БССР. Апошні на пасяджэньні 27-I 1930 году прыняў арыентыровачную норму ў 12 куб. мэтр. з аднаго гэктару.

Пэўна, ў чыстых іглястых дрэвастанах будуць пры даглядзе за лесам высякацца толькі іглястыя пароды, але затое пры наяўнасьці значнай дамешкі бярозы і асіны галоўная маса пры выбарцы будзе падаць на іх. З памянёных 541 тыс. гэктараў, значыцца, будзе ўзята за 10-годзьдзе 2700 тыс. куб. мэтр., альбо ў год 270 тыс. куб. мэтр. Калі гэтую колькасьць разьмеркаваць між бярозай і асінай прапарцыянальна іх удзелу ў запасе, г. зн 10,8% і 7,9%, то бярозы пры праходных высечках у іглястых гаспадарках будзе высякацца каля 156 тыс. куб. мэтр., а асіны— 114 тыс. куб. мэтр. У той час, як пры рэжыме слабых праходных высечак у іглястай гаспадарцы будуць высякацца іглястыя дрэвы пераважна прыгнечаныя і фаўтныя, ліставыя дрэвы будуць высякацца ўсіх разьмераў і якасьцяй у залежнасьці ад іх прыгнятаючага ўплыву на прыраст дрэў галоўных парод, значыцца, можна лічыць, што якасьць высякаемых дрэў гэтых парод ня будзе ў сярэднім ніжэй якасьці ўсяго іх запасу.

## III.

З прычыны таго, што на падставе пералікава-ацэначных дадзеных няма ніякай мажлівасьці выявіць колькасьць маючайся фанернай драўніны цікавячых нас дрэўных парод, то неабходна знайсьці пераходныя каэфіцыэнты, пры дапамозе якіх было-б мажліва з агульнай масы вы-

дзеліць уключаную ў яе фанерную сыравіну. Пры гэтым, паводле адсутнасьці аднастайнасьці ў кваліфікацыі драўніны ліставых парод на таварную і дрывяную і грубасьці гэтага падпадзелу, лепш за ўсё такія пераходныя каэфіцыэнты ўстанавіць не па стасунку да якога-небудзь сартымэнту, а па стасунку да агульнай масы.

З гэтай мэтай ў розных раёнах Беларусі ў дрэвастанах розных банітэтаў былі закладзены пераважна на гадовай лесасецы 1929—30 году спробныя плошчы. Усяго закладзена 103 спробных плошчы: 90 для характарыстыкі галоўнага карыстаньня і 13 для характарыстыкі прамежнага карыстаньня. На кожнай з іх высякаліся мадэльныя дрэвы з такім разьлікам, каб яны ўяўлялі галоўнейшыя разьмеры дрэў, якія сустракаюцца на спробнай плошчы, і розную іх якасьць (таварныя, паўтаварныя, дрывяныя). Усяго высечана 756 мадэляй. Усе мадэльныя дрэвы падпалі звычайнаму таксацыйнаму абмеру і раскаржаваны дзеля выяўленьня ў кожным аб'ёму фанернай драўніны. Даўжыні каржакоў (чурбакоў) былі прыняты згодна разьмераў машын на фабрыках Лесбелу: ў 1,63 мэтра для верхняга шпону, у 1,35 мэтра для сярэдняга і 0,80 для дробных фанерных лістоў. Фанерная драўніна, якая атрымліваецца пры распрацоўцы мадэлі, падпадзялялася на наступныя чатыры гатункі:

Гатунак I—Драўніна здаровая, бяз чырвані, сіні і сучкоў; крывізна дапускаецца да $1^1/_2$ см на 1 мэтр; гніль да 6 см па найбольшаму дыямэтру; даўжыня каржака 1,63 мэтра; таўшчыня ад 20 см і вышэй без кары па найменшаму дыямэтру.

Гатунак II—Тое-ж, што і гатунак першы, з дапушчэньнем аднаго здаровага сучка да 10 мм у дыямэтры.

Гатунак III—Драўніна здаровая з дапушчэньнем пачырваненьня і сіні, здаровых сучкоў у колькасьці 3—4, разьмерам да 20 мм; крывізна да 2 см на 1 мэтр; даўжыня каржака 1,35 і 1,63 мэтры; таўшчыня ад 20 см без кары па найменшаму дыямэтру.

Гатунак IV—Драўніна здаровая з дапушчэньнем пачырваненьня, сіні і сучкоў здаровых, дыямэтрам у асобных выпадках да 60 мм і дробных (да 20 мм), цёмных усяго ў колькасьці да 4-х штук на 1 мэтр; даўжыня каржакоў 0,8 мэтра і 1,35 мэтра; таўшчыня ад 18 см і вышэй без кары па найменшаму дыямэтру.

На падставе суадносін плошчаў сячэньня мадэльных дрэў да плошчаў сячэньня выяўляемых імі груп дрэў, вызначаўся агульны запас спробных плошчаў і колькасьць маючайся на іх фанернай драўніны з падпадзелам яе на памянёныя сорты. Апрача таго, вызначаўся запас спробных плошчаў адпаведна разраду, складзеных на падставе часовых масавых табліц—сартымэнтных Беларускіх табліц, па якім да гэтага часу вызначаўся запас і ўтваралася сартымэнтацыя лесасечнага фонду на Беларусі.

Для кожнай спробнай плошчы вылічаўся процантны стасунак усёй фанернай драўніны тэй ці іншай дрэўнай пароды, да агульнага запасу тэй-жа дрэўнай пароды, вызначанаму па памянёных табліцах; пры чым процантны стасунак устанаўляўся для кожнага гатунку фанернай сыравіны ў асобнасьці, затым усіх гатункаў разам і нарэшце першых трох гатункаў без чацьвертага; апрача таго, вызначаўся сярэдні гатунак усёй сыравіны. Разьмеркаваньне ўзятых спробных плошчаў і распрацаваных мадэляй згодна парод для характарыстыкі галоўнага і прамежнага карыстаньня ў лясох Беларусі відаць з табліцы № 11.

Таблица № 11. Табліца № 11.

**Галоўнае карыстаньне**

Главное пользование

| Усяго скарыстана спроб плошч. для: Всего использовано проб площ. для: | | |
|---|---|---|
| Дубу . . . . . . . . Дуба | 10 спроб пл. проб. площ. | 63 мадэлі модели |
| Ясеню . . . . . . . . Ясеня | 8 „ | 51 „ |
| Ліпы . . . . . . . . Липы | 6 „ | 43 „ |
| Хвоі . . . . . . . . . Сосны | 9 „ | 59 „ |
| Асіны . . . . . . . . Осины | 33 „ | 198 „ |
| Бярозы . . . . . . . Березы | 36 „ | 232 „ |
| Разам . . . . . . . Итого | 102 | 646 |

**Прамежнае карыстаньне**

Промежуточное пользование

| | | |
|---|---|---|
| Бярозы . . . . . . . Березы | 9 спроб пл. проб. площ. | 48 мадэляй моделей |
| Асіны . . . . . . . . Осины | 7 „ | 34 „ |
| Разам . . . . . . . Итого | 16 | 82 |

Другая частка дасьледваньня зьмяшчалася ў тым, каб на падставе пастаноўленых досьледаў на фанерных фабрыках Лесбелу (у Барысаве, Бабруйску і Капцэвічах) выявіць процант выхаду фанеры ад масы сыравіны і гатунак яе ў залежнасьці ад разьмеру і гатунку сыравіны і ўстанавіць час, патрэбны на лушчэньне каржакоў розных разьмераў. З гэтай мэтай прапушчана было цераз шэль-машыну 317 каржакоў агульнай масай 41,7 куб. мэтр. розных размераў і розных гатункаў дзеля атрыманьня верхняга мілімэтравага шпону. Даўжыня каржачкоў у залежнасьці ад разьмеру шэль-машыны вагалася на розных фабрыках ад 1,58 да 1,67 мэтра. Да падачы ў станок у кожнага каржака здымалася кара і абмяраліся дыямэтры—верхні і сярэдні. Першы—дзеля ўстанаўленьня сувязі з процантам выхаду, а другі—дзеля вызначэньня запраўднага аб'ёму каржачка. Каржакі падавалі к шэль-машыне, дзе па хранометру ўлічваўся час наступных працэсаў: установкі каржакоў, пуску машыны, лушчэньня і выкіданьня каржачка. Адначасова з гэтым утвараўся колькасны ўлік выхаду фанеры і якасны з падпадзелам на наступныя шэсьць гатункаў:

I гатунак—Драўніна здаровая, бяз сіні, чырваны, плесьні і плям, сучкоў і трэшчын, гладкае няшурпатае лушчэньне.

II гатунак—Драўніна здаровая; гладкае няшурпатае лушчэньне, дапускаюцца трэшчыны ў колькасьці да трох, даўжынёю да пяці см, сучкі

лікам да трох—здаровыя, сьветлыя, якія шчыльна зрасьліся з драўнінай, дыямэтрам да 1 см зародкавыя почкі—„вочкі“ у колькасьці да 8.

III-а гатунак—Трэці гатунак экспартны: драўніна здаровая, гладкая, няшурпатае лушчэньне, дапускаецца частковае адколерваньне і сінь плошчай да 1/4 ліста, да 5 здаровых сучкоў дыямэтрам да 2-х см і да 4-х неразашоўшыхся трэшчын даўжынёю да 12 см.

III-b гатунак—Для ўнутранага рынку: драўніна здаровая; дапускаецца сінь да аднэй трэці ліста і абясколерваньне, але ня гніль, нязначная шурпатасьць ад лушчэньня, нязначная колькасьць нявыпаўшых сучкоў дыямэтрам да 2,5 см часткова цёмных, да 4 неразашоўшыхся трэшчын даўжынёй да 25 см.

IV гатунак—Драўніна здаровая, дапускаецца сінь да паловы плошчы ліста, абясколерваньне, але ня гніль, шурпатасьць ад лушчэньня, неабмежаваная колькасьць сучкоў здаровых, часткова цёмных і жоўтых, да 6 штук выпаўшых сучкоў дыямэтрам да 3-х см; да 10-ці неразашоўшыхся трэшчын даўжынёй да 30 см.

V гатунак—Драўніна ня гнілая; дапускаецца сінь, чырвань, абясколерваньне, неабмяжованая колькасьць сучкоў, часткова выпаўшых, у дыямэтры ня больш 4-х см, няшчыльна самкнутыя трэшчыны.

У гатунках I, II і III ліст з аднаго цэлага шпону, гатунак III і IV можа складацца з 2-х частак, а V-ы гатунак з дзьвёх і больш частак.

У далейшым спынімся на падрабязным аналізе атрыманых пры дапамозе спробных плошчаў і фабрычнай пераапрацоўкі дадзеных для кожнай дасьледуемай дрэўнай пароды ў асобнасьці.

## IV.

**Бяроза.** Галоўнейшыя дадзеныя, якія атрымаліся на спробных плошчах, узятых для характарыстыкі галоўнага карыстаньня па бярозе, зьведзены ў табліцы № 12.

Адносна ўзятых 36 спробных плошчаў трэба зьвярнуць увагу на наступнае: сярэдні ўзрост іх: 76 год, блізкі да сярэдняга ўзросту дрэвастанаў ліставой гаспадаркі, якія павінны высякацца ў першае дзесяцігодзьдзе (гл. табл. № 2); сярэдняя паўната 0,73 супадае з сярэдняй паўнатой гаспадаркі іншых ліставых парод; сярэдні банітэт іх 1,78 блізкі да сярэдняга банітэту ўсёй бярозы II,29 (гл. табл. № 7). Процант выхаду фанернай сыравіны з запасу, які вылічан па часовых масавых таблiцах усіх чатырох гатункаў раўняецца 27,8 ± 2,09%, а першых 3-х гатункаў 20,8 ± 2,03%. Проценты выхаду фанернай драўніны ад запасу, які вылічан па мадэльным дрэвам меншы, чымся проценты ад запасу па часовых масавых табліцах: для ўсіх гатункаў ён раўняецца 24,1%, а для першых 3-х 18,3%, што тлумачыцца перамяншэньнем запасу бярозы пры вылічэньні па часовых масавых табліцах. У далейшым, аднак, мы ўсюды будзем карыстацца процантамі выхаду ад запасу па часовых масавых табліцах, бо нам у лесагаспадарчай практыцы ўсюды прыдзецца сустракацца толькі з апошнімі. Сярэдні гатунак усей фанернай сыравіны—II,6 ± 0,11. Такім чынам дакладнасьць дасьледваньня для проценту выхаду ўсіх гатункаў фанеры раўняецца 7,5%, для першых 3-х гатункаў 9,75% і для сярэдняга гатунку 4,10%.

Аб тыповасьці ўзятых намі спробных плошчаў для вызначэньня проценту выхаду, можна разважаць па ўстойлівасьці радоў процантаў. Калі вызначыць устойлівасьць раду процантаў па формуле Барткевіча: $Q = \frac{2n\,\Sigma\delta 2}{\pi(\Sigma\delta)2}$, то для раду процантаў выхаду ўсіх гатункаў $Q = 0{,}944$,

а для раду процантаў першых трох гатункаў Q = 1,084. У абодвух выпадках атрымаліся велічыні, блізкія да адзінкі, што сьведчыць аб тыповасьці радоў. Здавальняючыя вынікі атрымліваюцца і пры праверцы раду $P_1$, па лічбам Вэстэргорда: тэорэтычным лікам 8,6; 18,7; 25,9; 36,0 адпавядаюць сапраўдныя: 5; 19; 28; 36.

З табліцы № 12 відаць, што сярэднія процанты выхаду сыравіны і сярэднія гатункі не аднолькавы для ўсіх банітэтаў, і што з пагоршаньнем банітэту процант выхаду падае, а гатунак пагаршаецца. Цесната сувязі проценту для ўсіх гатункаў ад агульнага запасу з банітэтам характарызуецца каэфіцыэнтам корэляцыі—0,479 ± 0,128, процанту выхаду першых трох гатункаў з банітэтам каэфіцыэнтам корэляцыі—0,595 ± 0,108 і сярэдняга гатунку з банітэтам каэфіцыэнтам корэляцыі + 0,671 ± 0,092.

Адзначыўшы процант выхаду ўсіх гатункаў цераз $P_1$, процант выхаду першых трох гатункау цераз $P_2$, сярэдні гатунак фанернай сыравіны S і № банітэту цераз B, (№ 1-а бонітэту палічан роўным 0), складаем раўнаньне рэгрэсіі для вызначэньня першых трох велічынь у залежнасьці ад зьменнасьці апошняй, г. зн. банітэту:

$$P_1 = 38{,}48 - 5{,}97\ b$$
$$P_2 = 33{,}65 - 7{,}23\ b$$
$$S = 1{,}84 + 0{,}427\ b$$

Вылічаныя пры дапамозе гэтых раўнаньняў велічыні, якія нас цікавяць, для ўсіх банітэтаў, якія сустракаюцца, падаюцца ў наступнай табліцы.

Таблица № 13. Табліца № 13.

| Банітэт B.<br>Бонитет B. | Працант выхаду фанернай сыравіны<br>Процент выхода фанерного сырья | | Сярэдні гатунак S.<br>Средний сорт S. |
|---|---|---|---|
| | Усіх гатункаў $P_1$<br>Всех сортов $P_1$ | Першых 3 гатункаў $P_2$<br>Первых 3-х сортов $P_2$ | |
| Ia . . . . . . . | 38,5 | 33,6 | I,84 |
| I . . . . . . . . | 32,5 | 26,4 | II,27 |
| II . . . . . . . | 26,5 | 19,2 | II,69 |
| III . . . . . . | 20,6 | 12,0 | III,12 |
| IV . . . . . . . | 14,6 | 4,7 | III,55 |
| У сярэднім . .<br>В среднем | 27,8 | 20,8 | II,7 |

Сярэдняя памылка вылічэньня з раўнаньняў рэгрэсіі для дасьледуемых 36 спробных плошчаў велічыні $P_1$ раўняецца 1,83, велічыні $P_2$—1,64% і велічыні S—0,079, г. зн. дакладнасьць дасьледваньня ў адносінах да сярэдняй ўсіх банітэтаў раўняецца ў першым выпадку 6,6%, ў другім 7,9% і ў трэцім 2,9%. Такім чынам разважаньне аб велічыні процанту выхаду і гатунку пры прыняцьці ў разьлік банітэту ускладняецца, і можа лічыць, што дапасаваньне нашых сярэдніх дадзеных для вылічэньня запасу і колькасьці бярозавай фанернай драўніны на гадовай лесасецы пры меркаваньні з разьмяшчэньнем дрэвастанаў па банітэтах, дасьць здавальняючыя па дакладнасьці вынікі.

Калі параўняць разьмеркаваньне бярозы па банітэтах, пададзенае ў табліцы № 6 з разьмяшчэньнем яе на ўзятых намі спробных плошчах, то выйдзе, (гл. табл. № 14), што ня гледзячы на блізкасьць сярэдніх велічынь, разьмеркаваньне спробных плошчаў па банітэтах ня зусім дакладна адбівае такое-ж у беларускіх лясох. Апрача таго, фанерную сыравіну, дзякуючы нізкаму процанту выхаду і гатунку, наўрад-ці варта загатаўляць наважку нават у IV банітэце, не кажучы ўжо аб V. Таму дзеля таго, каб мець уяўленьне аб сярэднім процанце выхаду і гатунку фанернай драўніны з гадовай лесасекі Беларусі ў дрэвастанах I-а, I, II, III банітэтаў, трэба вызначыць процант выхаду і гатунак фанернай сыравіны ўзгоднена з дадзенымі табліцы № 13 і маючымся ў БССР разьмеркаваньнем дрэвастанаў па банітэтах.

Таблица № 14. Табліца № 14.

| | Ia | I | II | III | IV | V | Сярэдні банітэт Средний бонитет |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У працантах / В процентах | | | | | | |
| Згодна дадзеных таб. № 6 По данным таб. № 6 | 0,8 | 23,7 | 35,4 | 27,5 | 10,6 | 2,0 | II,29 |
| Згодна дадзеных спроб. пл. . . . . . . . . По данным проб. пл. | 8,3 | 33,3 | 36,1 | 16,7 | 5,6 | — | II,0 |

Для першых чатырох банітэтаў сярэдні процант выхаду ўсіх гатункаў фанернай сыравіны будзе раўняцца 26,4%, для першых трох гатункаў фанернай сыравіны —18,9%, а сярэдні гатунак сыравіны—II,7 пры сярэднім банітэце II,02.

Пры дасьледваньні ўзяты спробныя плошчы ва ўсіх акругах Беларусі, таму неабходна высьветліць, ці ня робіць уплыву на процант выхаду і гатунак фанернай драўніны, паміма банітэту таксама і месца росту.

З гэтай мэтай уся БССР намі была падзелена на тры часткі: паўночную, у склад якой ўвайшлі акругі: Полацкая і Віцебская, сярэднюю—у складзе акруг: Менскай, Магілеўскай і Аршанскай—і паўднёвую, куды належаць акругі: Бабруйская, Гомельская і Мазырская. Для кожных з гэтых частак былі вылічаны згодна дадзеных спробных плошчаў сярэднія банітэты, сярэднія процанты выхаду фанернай сыравіны і сярэднія гатункі. Атрыманыя такім чынам велічыні прыроўнены да вылічаных для адпаведнага банітэту велічынь, па раўнаньням рэгрэсіі, складзеным на падставе ўсіх спробных плошчаў.

Як відаць з табліцы № 15, усе дасьледуемыя велічыні, якія атрыманы непасрэднім вылічэньнем для таго ці іншага раёну, адрозьніваюцца ад вызначаных па раўнаньням рэгрэсіі для адпаведнага банітэту ў межах дакладнасьці мэтаду. Адсюль можна зрабіць вывад, што геаграфічнае знаходжаньне ў межах БССР пры адным і тым-жа банітэце ня робіць уплыву ні на процант выхаду, ні на гатунак фанернай сыравіны, а таму атрыманыя намі каэфіцыэнты можна ўжываць з аднолькавым правам для ўсёй БССР, узгадняючыся толькі з сярэднім банітэтам раёну.

Таблица № 15. Табліца № 15.

| Раёны<br>Районы | Лік спробн. плошчаў<br>Число проб. площ. | Сярэдні баніт. спроб. плошчаў<br>Средний бон. проб. площ. | Процанты выхаду ўсіх гатункаў<br>Процент выхода всех сортов | | Сярэдні гатунак<br>Средний сорт | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Па спроб. пл. раёну<br>По проб. площ. района | Па ўсім матар'яле<br>По всему матер. | Па спроб. пл. раёну<br>По проб. площ. района | Па ўсім матар'яле<br>По всему матер. |
| Паўночны . Северный | 7 | I,43 | 29,3% | 29,96% | II,41 | II,45 |
| Сярэдні . . Средний | 13 | I,15 | 31,8% | 31,62% | II,31 | II,33 |
| Паўднёвы . Южный | 16 | II,44 | 24,0% | 23,91% | III,11 | II,88 |

Усе нашы вылічэньні процанту выхаду з запасу фанернай сыравіны і сярэдняга гатунку адпавядаюць сярэдняму ўзросту ўзятых намі са спробных плошчаў у 76 год, як ужо паміналася, блізкаму да сярэдняга ўзросту, у якім будуць высякацца у першае дзесяцігодзьдзе дрэвастаны ў гаспадарцы іншых ліставых парод. На самай справе ў гэта дзесяцігодзьдзе паступіць у высечку апошняя кляса ўзросту гэтай гаспадаркі, а ў ёй маюцца дрэвастаны і старэй за 80 год. У другім дзесяцігодзьдзі, пасьля высечкі каштарыснай лесасекі першага дзесяцігодзьдзя ў 84625 гэктараў, прыдзецца ўжо высякаць больш маладыя дрэвастаны з сярэднім узростам, прыкладам у 60 год. Дзеля гэтага неабходна ўстанавіць, як пераменіцца процант выхаду фанернай сыравіны са зьменнасьцю ў будучыне ўзросту дрэвастанаў, якія паступаюць у высечку. Агульны каэфіцыэнт корэляцыі між процантам выхаду сыравіны ўсіх гатункаў і ўзростам вельмі малы, раўняецца 0,0266, але гэта тлумачыцца тым, што сувязь між дасьледуемымі велічынямі зацямняецца ў нашым матар'яле зваротным уплывам банітэту. Каб выявіць сувязь між узростам і процантам выхаду фанернай сыравіны, неабходна знайсьці частковы каэфіцыэнт корэляцыі між гэтымі велічынямі, выключыўшы ўплыў банітэту. Каэфіцыэнт гэты аднак нязначны, усяго 0,320, што тлумачыцца, пэўна, тым, што адначасова з павялічэньнем дыямэтру з узростам, павялічваецца таксама і процант фаўтнасьці. Таму вывады ў даным выпадку будуць толькі праўдападобнымі, а не верагоднымі. Частковы каэфіцыэнт корэляцыі між банітэтам і процантам выхаду, пры выключэньні ўплыву ўзросту, раўняецца —0,555. Раўнаньне рэгрэсіі дзеля вызначэньня процанту выхаду ($P_1$) у залежнасьці ад банітэту (B) і ўзросту (A) мае наступны від: $P_1 = 23{,}87 - 7{,}72B + 0{,}232A$.

Множны каэфіцыэнт корэляцыі, які характарызуе залежнасьць $P_1$ ад B і A разам, раўняецца 0,555. Дакладнасьць дасьледваньня па гэтаму раўнаньню вызначыцца для ўсіх спробных плошчаў у адносінах да сярэдняй у 6,2%, г. зн. мала адрозьніваецца ад гэтакай пры вызначэньні $P_1$ толькі у залежнасьці ад банітэту.

Залежнасьць сярэдняга гатунку сыравіны ад узросту дрэвастану характарызуецца каэфіцыэнтам корэляцыі $+ 0{,}493 \pm 0{,}126$, г. зн. досыць значная. Аднак гэта тлумачыцца тэй выпадковай акалічнасьцю, што ўзросты спробных плошчаў павялічваюцца з пагоршаньнем банітэтаў, частковы-жа каэфіцыэнт корэляцыі між гатункам фанернай сыравіны і уз-

ростам пры нязьменным банітэце раўняецца ўсяго + 0,277. Уплыў банітэту на гатунак сыравіны пры нязьменным узросте характарызуецца частковым каэфіцыэнтам корэляцыі + 0,573. Раўнаньне рэгрэсіі для вызначэньня гатунку фанернай драўніны (S) ў залежнасьці ад банітэту (B) і ўзросту (A) мае наступны выгляд:

$$S = 1{,}29 + 0{,}358\ B + 0{,}00876A.$$

Множны каэфіцыэнт корэляцыі, які характарызуе сумесны уплыў B і A на S, раўняецца 0,702. Дакладнасьць дасьледваньня па гэтаму раўнаньню раўняецца 2,8%, г. зн. мала адр[illegible]д дакладнасьці вызначэньня S па аднаму толькі B.

Напэўна, што сярэдні дыямэтр дрэваст[illegible]ызначае разьмеркаваньне ўсіх дрэў дрэвастану па ступенях таўшчыні, а значыцца і процант дрэў, якія могуць па сваіх разьмерах даваць фанерную драўніну, знаходзіцца ў сувязі з процантам выхаду апошняй з агульнага запасу; каэфіцыэнт корэляцыі між сярэднім дыямэтрам дрэвастану і процантам выхаду $P_1$ раўняецца + 0,425 ± 0,136. Але з другога боку, сярэдні дыямэтр дрэвастану зьяўляюцца функцыяй банітэту і ўзросту дрэвастану і сувязь яго з банітэтамі ўзростам вызначаецца каэфіцыэнтам корэляцыі—0,534 ± 0,119 і + 0,198 ± 0,160, так што дзеля вырашэньня пытаньна, ці трэба у лік зьменных, якія вызначаюць процант выхаду фанернай драўніны, апрача банітэту і ўзросту, уводзіць таксама і сярэдні дыямэтр, неабходна вызначыць ролю яго пры нязьменнасьці банітэту і ўзросту, г. зн. вылічыць частковы каэфіцыэнт корэляцыі між $P_1$ і D, пры нязьменных B і A. Каэфіцыэнт гэты раўняецца + 0,052, г. зн. велічыні мізэрна малай, і таму ўвядзеньне чацьвертай зьменнай зусім не падвысіць дакладнасьці дасьледваньня, а значыцца бескарысна.

Калі з раўнаньня рэгрэсіі з трымя зьменнымі вылічыць процант выхаду фанеры для ўзростаў у 60—70 год для Ia, I, II і III банітэтаў, а затым знайсьці сярэдня-ўзважаныя проценты згодна з разьмеркаваньнем бярозы па банітэтах, то сярэдні процант выхаду пры 60-гадовым узросьце вызначыцца ў 22,2%, а пры 70-гадовым—24,5%. Такім чынам пры высечцы ў 60 год процант выхаду фанернай драўніны зьніжаецца, і гэтае зьніжэньне не кампэнсуецца павялічэньнем плошчы карыстаньня пры гэтым звароце. На самай справе па вопытных табліцах праф. *Цюрына* сярэдні прырост для бярозы II банітэту ва ўзросьце 60 год раўняецца 4,1 куб. мэтр., а ва ўзросьце 70 год—3,9 куб. мэтр., значыцца, сярэдні прырост фанернай драўніны будзе ў 60 год $\frac{4{,}1 \times 22{,}2}{100} = 0{,}91$ куб. мэтр., а ў 70 год $\frac{3{,}9 \times 24{,}5}{100} = 0{,}96$ куб. мэтр. Гэтая акалічнасьць паказвае на тое, што ў інтарэсах фанернага вытвару зварот высечкі ў бярозавых дрэвастанах, якія даюць фанерную драўніну банітэтаў, пажаданы ня менш 70 год.

Калі выходзіць з карыстаньня з гадовай лесасекі 1928-29 году, то штогодна можна разьлічваць на атрыманьне 509 тыс, куб. мэтр. бярозавай драўніны, у якую масу ўваходзіць драўніна ўсіх банітэтаў. Прыгоднай-жа для фанернага вытвару мы прызналі толькі драўніну Ia, I, II, і III банітэтаў, а таму яе неабходна выдзеліць з агульнай масы. Гэта можна зрабіць, калі ведаць разьмеркаваньне бярозы па банітэтах (табл. № 6), і параўнальную вытворчасьць бярозавых дрэвастанаў розных банітэтаў. Апошнюю мы запазычваем з усеагульных узорных табліц праф. *Цюрына* для бярозы 70 год і, прыняўшы вытворчасьць першага банітэту за

адзін (адзінку), атрымаем наступную шкалу вытворчасьці для Ia—1,15, для I—1, для II—0,82, для III—0,64, для IV—0,48 і для V—0,35. Тады колькасьць драўніны чатырох банітэтаў у агульнай масе вызначыцца з наступнага разьліку:

$$509 \times (1{,}15 \times 0{,}8 + 1 \times 23{,}7 + 0{,}82 \times 35{,}4 + 0{,}64 \times 27{,}5):$$
$$:1{,}15 \times 0{,}8 + 1 \times 23{,}7 + 0{,}82 \times 35{,}4 + 0{,}64 \times 27{,}5 + 0{,}48 \times 10{,}6 + 0{,}35 \times 2 =$$
$= 509 \times 0{,}925 = 471$ тысяча куб. мэтр. (у тым ліку з іглястай гаспадаркі 169,6 тысяч куб. мэтр, з гаспадаркі іншых ліставых 265,4 тысяч куб. мэтр., з альховай 26,5 тысяч куб. мэтр. і дубова-ясянёвай 9,5 тысяч куб. мэтр.). У гэтай колькасьці фанернай сыравіны згодна вышэйпаданага $\frac{471 \times 26{,}4}{100} = 124{,}3$ тысяч куб. мэтр. (у тым ліку з іглястай гаспадаркі 44,8 тысяч куб. мэтраў, з гаспадаркі іншых ліставых 70,0 тысяч куб. мэтр., з альховай 7,0 тысяч куб. мэтр., і дубовай 2,5 тысяч куб. мэтр.), якія будуць разьмяркоўвацца па прынятых намі гатунках наступным чынам: I гатунку 33,9 тыс. куб. мэтр., II гатунку—26,9 тысяч куб. мэтр., III гатунку—33,9 тысяч куб. мэтр. і IV гатунку 29,6 тысяч куб. мэтраў.

Пры гэтым разьмеры карыстаньня прыблізна такая колькасьць сыравіны і такой-жа якасьці будзе атрымлівацца на працягу ўсяго звароту высечкі.

Павялічэньне разьмеру галоўнага карыстаньня згодна новага каштарысу ў іглястай і дубовай гаспадарках, напэўна, пацягне за сабою і павялічэньне колькасьці бярозавай драўніны, якая ў іх атрымліваецца, пры тым няма ніякіх падстаў дапускаць, што калі-небудзь, дзякуючы гэтаму зьнізіцца якасьць апошняй, наадварот, пры скарачэньні фактычных зваротаў высечкі у гэтых гаспадарках бяроза будзе высякацца ў іх больш своечасова, а значыцца, ўладаць меншай фаўтнасьцю. Зьменнасьць карыстаньня ў альховай гаспадарцы таксама бясспрэчна пацягне за сабой зьменнасьць бярозавай драўніны, якая з яе атрымліваецца. Значыцца, ў бліжэйшы час мы можам разьлічваць на атрыманьне фанернай драўніны з гэтых гаспадарак у наступных размерах: в іглястай $\frac{270 \times 0{,}925 \times 26{,}4}{100} = 65{,}9$ тысяч куб. мэтр. з альховай $\frac{26 \times 0{,}925 \times 26{,}4}{100} = 6{,}3$ тысяч куб. мэтр., з дубовай $\frac{10{,}7 \times 0{,}925 \times 26{,}4}{100} = 2{,}6$ тысяч. куб. мэтр.

Пры карыстаньні ў разьмеры каштарыснай лесасекі ў гаспадарцы іншых ліставых парод, колькасьць фанернай бярозавай драўніны павялічыцца і будзе раўняцца $\frac{314 \times 0{,}925 \times 26{,}4}{100} = 76{,}6$ тысяч куб. мэтр., пры тых-жа суадносінах гатункаў. Значыцца, калі ва ўсіх гаспадарках будзе ўтварацца карыстаньне ў разьмеры каштарыснай лесасекі, то колькасьць фанернай бярозавай сыравіны на ёй будзе раўняцца $65{,}9 + 6{,}3 + 2{,}6 + 76{,}6 = 151{,}4$ тысяч куб. мэтр., г. зн. на 22% болей, чымся ў 1928-29 годзе і сярэдняга карыстаньня за 1926-27 і 1928-29 гады. Аднак, гэтую колькасьць магчыма будзе атрымліваць толькі каля 15-ці год, затым у высечку будуць паступаць больш маладыя дрэвастаны, пры гэтым паменшыцца і колькасьць атрымліваемай з адзінкі плошчы драўніны і процант выхаду фанернай драўніны ад агульнага запасу. Прыкладнае ўяўленьне аб колькасьці фанернай драўніны, якая будзе атрымлівацца з

другой паловы другога дзесяцігодзьдзя, калі будуць высякацца дрэвастаны каля 60 год, можна скласьці, калі зьменшыць сучасны запас бяровавай драўніны на каштарыснай лесасецы прапарцыянальна стасунку запасу ў 60—70 год у II банітэце з агульных табліц праф. *Цюрына*, і ўзяць ад яго процант выхаду фанернай сыравіны ў шэсьцьдзесят год:

$$\frac{314 \times 0{,}925 \times 246 \times 22{,}2}{274 \times 100} = 57{,}8$$ тысяч куб. мэтр., г. зн. на 18,8 куб. мэтр. меней, чымся ў першым дзесяцігодзьдзі. Дзеля таго, што закладзеныя намі спробныя плошчы досыць удала адбіваюць склад Беларускіх лясоў, на падставе іх можна меркаваць таксама і аб разьмерах фанернай сыравіны, якая паступіць на пераапрацоўку на фабрыкі.

Дзеля выяўленьня разьмеркаваньня фанерных каржачкоў па дыямэтрах, лік каржачкоў аднаго і таго-ж дыямэтру кожнага з трох прынятых намі разьмераў даўжыні, якія атрымаліся з мадэльнага дрэва, памнажаўся на суадносіны плошчы сячэньня клясы да плошчы сячэньня мадэлі, якая яе выяўляе. Атрыманы такім чынам лік каржакоў на спробных плошчаў быў разгрупован па банітэтах, у межах кожнага банітэту, па даўжыням, у выніку чаго для кожнага банітэту, а ў межах банітэту для кожнай даўжыні, атрымалася разьмеркаваньне каржакоў па дыямэтрах. Сярэднія дыямэтры, якія вылічаны для асобных банітэтаў, мала адрозьніваюцца адзін ад аднаго, як гэта відаць з табліцы № 16.

Табліца № 16. Таблица № 16.

| Банітэт / Бонитет<br>Даўжыня карж. / Длина кряж | Ia | I | II | III | У сярэднім / В среднем |
|---|---|---|---|---|---|
| 1,63 | 23,9 | 24,6 | 25,2 | 23,5 | 24,7 |
| 1,35 | 22,6 | 22,6 | 22,4 | 21,5 | 22,4 |
| 0,80 | 23,1 | 20,8 | 20,3 | 20,0 | 20,6 |

Таму мы аб'яднаем усе банітэты і дамо дадзеныя аб разьмеркаваньні па таўшчыням для кожнай даўжыні колькасьці штук і аб'ёмаў (па табліцах Крудэнэра—Турскага (гл. табл. № 17).

Два апошніх слупкі табліцы № 17 сьведчаць аб тым, што кубічная маса сыравіны для верхняга шпону перавышае больш чымся ў два разы масу сыравіны для сярэдняга шпону, і што маламернай фанеры маецца параўнальна нязначны процант 7,4% ад агульнай масы, значыцца, ў абодвых гэтых выпадках маюцца зусім спрыяючыя суадносіны.

Дадзеныя са спробных плошчаў, узятых для характарыстыкі бярозавай драўніны, якая атрымліваецца пры прамежных карыстаньнях, падаюцца ў табліцы № 18.

З табліцы відаць, што сярэдні ўзрост спробных плошчаў каля 70 год блізкі да сярэдняга ўзросту тых дрэвастанаў, у якіх мяркуецца атрымліваць фанерную драўніну пры праходных высечаках, а менавіта: 50—90 годніх. Згодна банітэтаў, процант выхаду фанернай драўніны досыць рэзка зьмяняецца, як для ўсіх гатункаў, так і для першых трох.

Табліца № 17. Таблица № 17.

| Даўжыня карж. Длина кряж. | | Дыямэтры ў верхнім адрэзе Диаметры в верхнем отрубе | | | | | | | | | | Сярэдні дыям. Средн. диам. | Аб'ём ўсіх карж. Об'ем всех кряж. | Аб'ём ступен. даўжыні ў $^0/_0$ ад агульн. аб'ёму Об'ем ступен. длины в $^0/_0$ от общ. об'ема |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | | | |
| | | У процентах В процентах | | | | | | | | | | | | |
| 1,63 | Па ліку шт. По числ. шт. | 5,0 | 18,9 | 23,7 | 20,9 | 15,2 | 9,0 | 3,9 | 1,6 | 1,2 | 0,6 | 24,7 | — | — |
| | Па аб'ёму . По об'ему | 2,8 | 13,1 | 20,0 | 21,0 | 17,9 | 12,4 | 6,2 | 2,9 | 2,5 | 1,2 | 24,9 | 352,03 | 68,6 |
| 1,35 | Па ліку шт. По числ. шт. | 16,9 | 36,2 | 22,7 | 11,0 | 10,0 | 2,2 | 0,4 | 0,3 | 0,3 | — | 22,4 | — | — |
| | Па аб'ёму . По об'ему | 12,0 | 30,7 | 23,8 | 13,1 | 14,4 | 3,8 | 0,7 | 0,7 | 0,8 | — | 22,5 | 123,14 | 24,0 |
| 0,80 | Па ліку шт. По числ. шт. | 51,0 | 31,3 | 12,0 | 2,3 | 2,6 | 0,2 | 0,4 | — | 0,2 | — | 20,6 | — | — |
| | Па аб'ёму . По об'ему | 42,6 | 31,6 | 15,2 | 3,7 | 4,9 | 0,3 | 1,0 | — | 0,7 | — | 21,0 | 37,97 | 7,4 |
| Для ўсіх разам Для всех вместе | Па ліку шт. По числ. шт. | 16,5 | 26,1 | 21,3 | 14,9 | 11,4 | 5,5 | 2,3 | 0,9 | 0,8 | 0,3 | 23,3 | — | — |
| | Па аб'ёму . По об'ему | 8,0 | 18,7 | 20,4 | 17,8 | 16,2 | 9,5 | 4,5 | 2,1 | 1,9 | 0,9 | 23,9 | 513,14 | 100% |

Для першага банітэту процант выхаду ўсіх гатункаў разам блізкі да такога-ж пры галоўным карыстаньні, для другога ніжэй, а для трэцяга зусім мізэрны. Процант выхаду першых троў гатункаў і сярэдні гатунак сыравіны наогул атрымліваецца значна ніжэй, чым пры галоўным карыстаньні. Хоць спробную плошчу для III банітэту нельга лічыць зусім тыповай, ўсё-ж, калі развважаць па падзеньню процанту выхаду ў астатніх банітэтах, можна думаць, што ён будзе невялікі, а таму пры прамежных карыстаньнях, праўдападобна, прыдзецца абмяжоўвацца толькі выкарыстаньнем фанернай драўніны толькі трох вышэйшых банітэтаў, г. зн. Ia, I, II. Дзеля таго, што стасунак ліку спробных плошчаў I і II банітэтаў 3 : 5, блізка падыходзіць да стасунку міжпроцантным удзелам гэтых банітэтаў у лясох БССР (гл. табл. № 6) 23,7 : 35,4, то сярэднія дадзеныя спробных плошчаў гэтых банітэтаў можна дапасаваць да вылічэньня колькасьці фанернай драўніны, якая атрымліваецца пры прамежных карыстаньнях у гэтых банітэтах. Сярэдні процант выхаду фанернай драўніны ўсіх гатункаў ад запасу трох вышэйшых банітэтаў, які вылічан па часавых масавых табліцах, раўняецца $24{,}2 \pm 3{,}86^0/_0$, сярэдні процант выхаду фанернай драўніны першых трох гатункаў—$13{,}9 \pm 2{,}28^0/_0$ і сярэдні гатунак фанернай сыравіны $III \pm 0{,}099$. Процанты выхаду фанернай драўніны ад запасу, які вылічан па мадэльных дрэвах, зразумела ніжэй, і раўняюцца для ўсіх гатункаў $19{,}8^0/_0$ і для першых трох гатункаў $12{,}2^0/_0$.

Згодна зробленых намі раней вылічэньняў, агульная колькасьць бярозавай драўніны, якая атрымліваецца пры праходных высечках іглястай гаспадарцы ва ўзросьце ад 50 да 90 год была прынята ў 156 тысяч куб. мэтр. Сюды ўваходзіць драўніна, якая атрымліваецца з бярозы ўсіх банітэтаў. Дзеля таго, што мы ўмовіліся загатаўляць фанерную

драўніну пры праходных высечках толькі ў банітэтах Ia, I, II, то з агульнага запасу трэба вылучыць драўніну, якая атрымліваецца з гэтых банітэтаў. Вылічэньне гэтае можна зрабіць на тых-жа падставах, як і для агульнага карыстаньня, выключыўшы пры разьліку III, IV і V банітэты. Такім чына. на долю лепшых банітэтаў з агульнага запасу прыдзецца:

$$156\ (1{,}15 \times 0{,}8 + 1 \times 23{,}7 + 0{,}82 \times 35{,}4) : (1{,}15 \times 0{,}8 + 1 \times 23{,}7 + 0{,}82 \times 35{,}4 + 0{,}64 \times 27{,}5 + 0{,}48 \times 10{,}6 + 0{,}35 \times 2) = 156 \times 0{,}697 =$$

109 тысяч куб. мэтр.

З гэтай колькасьці атрымаецца фанернай драўніны $\frac{109 \times 24{,}2}{100} = 26{,}4$ тысяч куб. мэтр.

Па гатунках гэтая колькасьць разьмяркуецца наступным чынам: I гатунку будзе 1,9 тысяч куб. мэтр., II гатунку—5,2 тысяч куб. мэтр., III гатунку—8,1 тысяч куб. мэтр і IV гатунку—11,2 тысяч куб. мэтр. Па разьмерах фанерная сыравіна, якая атрымліваецца пры праходных высечках, будзе разьмяркоўвацца наступным чынам:

Таблица № 19. Табліца № 19.

| Даўжыня карж. / Длина кряж. | | Дыямэтр у верхнім адрэзе / Диаметр в верхнем отрубе: 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 | Сярэдні дыямэтр / Средний диаметр | Аб'ём ўсіх карж. / Об'ем всех кряж. | Аб'ём ступен. даўжыні ў 0/0 ад агульнага аб'ёму / Аб'ем ступеней длины в 0/0 от общего об'ема |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У процантах / В процентах | | | | | | | | | | | | | |
| 1,63 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 21,2 | 26,5 | 17,0 | 13,6 | 9,7 | 3,9 | 1,7 | | 3,2 | 1,6 | 1,6 | 23,5 | — | — |
| | Па аб'ёму . / По об'ему | 12,9 | 20,0 | 15,6 | 15,0 | 12,5 | 6,0 | 2,9 | — | 6,9 | 3,9 | 4,3 | 23,9 | 35,35 | 72,5% |
| 1,35 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 19,9 | 29,1 | 13,6 | 10,2 | 18,3 | 5,1 | 3,8 | — | — | — | — | 23,2 | — | — |
| | Па аб'ёму . / По об'сму | 13,0 | 22,4 | 13,0 | 11,7 | 25,0 | 8,0 | 6,9 | — | — | — | — | 23,4 | 9,16 | 18,8% |
| 0,80 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 53,0 | 31,1 | 6,7 | 5,3 | 3,9 | — | — | — | — | — | — | 20,7 | — | — |
| | Па аб'ёму . / По об'ему | 44,8 | 31,4 | 8,7 | 6,0 | 7,1 | — | — | — | — | — | — | 21,0 | 4,26 | 8,7% |
| Для ўсіх даўжынь разам / Для всех длин вместе | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 27,7 | 28,2 | 14,3 | 10.6 | 10,3 | 3,4 | 1,8 | — | 1,9 | 0,9 | 0,9 | 22,8 | — | — |
| | Па аб'ёму . / По об'ему | 15,7 | 21,4 | 14,5 | 13,8 | 14,4 | 5,8 | 3,4 | — | 5,1 | 2,8 | 3,1 | 23,5 | 48,77 | 100% |

З табліцы № 19 відаць, што суадносіны верхняга шпону да сярэдняга зусім спрыяючыя, і што ўдзел маламерных па даўжыні экзэмпляраў нязначны, усяго 8,8%.

Агульная колькасьць фанернай бярозавай драўніны, якая можа даць галоўнае і прамежнае карыстаньне, відаць з наступнай табліцы № 20.

Таблица № 18.

| Найменьне лясьніцтва<br>Наименование лесничеств | Найменьне акругі<br>Наименование округов | Склад дрэвастану<br>Состав насаждения | Сярэдні ўзрост<br>Средний возраст | Сярэдняя вышыня<br>Средная высота | Сярэдні дыямэтр<br>Средний диаметр | Паўната<br>Полнота | Банітэт<br>Бонитет | Плошча спробы ў гэктар.<br>Площадь пробы в гектар. | Запас бярозы на спробе, выліч. па рас. мас. табл.<br>Запас березы на пробе, вычис лен. по рус. вр. мас. таблицам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лапіцкае<br>Лапичекое | Бабруйская<br>Бобруйский | 4Е.30с.2Б.1Гр. | 76 | 27,8 | 31,8 | 0,7 | I | 0,50 | 25,73 |
| Стара-Барысаў.<br>Старо-Борисов. | Менская<br>Минский | 8С.2Б. | 57 | 25,2 | 24,2 | 0,9 | I | 0,50 | 17,26 |
| Дняпроўскае<br>Днепровское | Магілеўская<br>Могилевский | 5С.3Б.2Е. | 70 | 25,1 | 24,9 | 0,9 | I | 0,50 | 18,53 |
| | | Сяр. арытмэтыч.<br>Ср. арифметич. | 68 | 26,0 | 27,0 | 0,8 | | | 61,52 |
| Аршанскае<br>Оршанское | Аршанская<br>Оршанский | 5С.2Б.20с,1Е. | 69 | 22,0 | 22,2 | 0,9 | II | 0,25 | 12,05 |
| Аршанскае<br>Оршанское | Аршанская<br>Оршанский | 6С.3Б.10с. | 81 | 22,9 | 23,7 | 0,8 | II | 0,50 | 32,59 |
| Стара-Барысаў.<br>Старо-Борисов. | Менская<br>Минский | 8С.2Б. | 80 | 22,3 | 17,8 | 0,5 | II | 1,38 | 36,76 |
| Стара-Барысаў.<br>Старо-Борисов. | Менская<br>Минский | 7С.2Б.10с. | 77 | 25,1 | 23,0 | 0,6 | II | 0,25 | 10,84 |
| Дняпроўскае<br>Днепровское | Магілеўская<br>Могилевский | 7С.2Б.1Е. | 76 | 25,0 | 22,3 | 0,8 | II | 0,25 | 13,16 |
| | | Сяр. арытмэтыч.<br>Ср. арифметич. | 77 | 23,5 | 21,8 | 0,7 | | | 105,40 |
| Астроўскае<br>Островское | Гомельская<br>Гомельский | 4Б.3С.20с.10л. | 54 | 17,1 | 17,9 | 0,9 | III | 0,44 | 27,96 |
| | | Сяр. арытмэтыч.<br>Ср. арифметич. | 54 | 17,1 | 17,9 | 0,9 | III | 0,44 | 27,96 |
| | Сяр. арытмэтычн. для ўсіх банітэтаў I, II, III<br>Ср. арифметич. для всех бонитетов I, II, III | | 71 | 23,6 | 23,1 | 0,8 | 1,8 | | |
| | Для першых двух банітэтаў I, II<br>Для первых двух бонитет. I, II | | 73 | | | 0,76 | 1,63 | | 194,88 |

Табліца № 18.

| Выхад фанернай сыравіны па гатунках у куб. мэтр. і %% па адносінах да запасу, вылічан. па рас. час. табл. Выход фанерного сырья по сортам в куб. метр. и %% по отношению к запасу, исчислен. по рус. вр. мас. таб. | | | | | | | | | | | | Сярэдні гатунак Средний сорт | Гаспадарка Хозяйство | Запас спробнай плошчы па мадэльных дрэвах Запас пробной площад. по модельным дерев. | % выхаду ад сапраўднага запасу % выхода от истин. запаса | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| a I | | b II | | c III | | d IV | | Усяго Всего | | Першых 3 гатункаў Первых 3-х сортов | | | | | Усіх гатункаў Всех сортов | Першых трох гатункаў Первых трех сортов |
| мт³ | % | мг³ | % | мт³ | % | мт³ | % | мт³ | % | мт³ | % | | | | | |
| 0,660 | 2,6 | 0,651 | 2,5 | 1,543 | 6,0 | 3,615 | 14,1 | 6,469 | 25,2 | 2,854 | 11,1 | III,3 | ігляст. хвойн. | 36,031 | 21,0 | 15,4 |
| — | — | 0,762 | 4,4 | 2,265 | 13,1 | 2,572 | 14,9 | 5,599 | 32,4 | 3,027 | 17,5 | III,3 | „ | 23,252 | 24,0 | 13,0 |
| — | — | 1,315 | 7,1 | 3,277 | 17,7 | 2,423 | 13,1 | 7,015 | 37,9 | 4,592 | 24,8 | III,2 | „ | 23,192 | 30,2 | 19,8 |
| | **0,9** | | **4,6** | | **12,3** | | **14,0** | | **31,8** | | **17,8** | III,3 | | **82,475** | **25,1** | **16,1** |
| 0,273 | 2,2 | 0,426 | 3,5 | 1,201 | 10,0 | 1,179 | 9,8 | 3,079 | 25,5 | 1,900 | 15,7 | III,1 | „ | 14,064 | 21,9 | 13,5 |
| — | — | 2,662 | 8,2 | 1,614 | 4,9 | 2,959 | 9,1 | 7,235 | 22,2 | 4,276 | 13,1 | III,0 | „ | 32,183 | 22,5 | 13,3 |
| 0,262 | 0,7 | 0,222 | 0,6 | 0,461 | 1,3 | 0,196 | 0,5 | 1,141 | 3,1 | 0,945 | 2,6 | II,5 | „ | 43,274 | 2,6 | 2,2 |
| 0,174 | 1,6 | 0,408 | 3,8 | 0,514 | 4,7 | 0,585 | 5,5 | 1,681 | 15,6 | 1,096 | 10,1 | II,8 | „ | 12,204 | 13,8 | 9,0 |
| 0,835 | 6,3 | 1,038 | 7,9 | 0,255 | 1,9 | 2,060 | 15,6 | 4,188 | 31,7 | 2,128 | 16,1 | II,8 | „ | 18,611 | 22,6 | 11,5 |
| | **2,2** | | **4,8** | | **4,5** | | **8,1** | | **19,6** | | **11,5** | II,8 | | **120,336** | **16,7** | **9,9** |
| — | — | 0,067 | 0,2 | — | — | 0,125 | 0,4 | 0,192 | 0,7 | 0,067 | 0,2 | III,3 | ліств. | 26,162 | 0,7 | 0,25 |
| | | **0,067** | **0,2** | | | **0,125** | **0,4** | **0,192** | **0,7** | **0,067** | **0,2** | III,3 | | **26,162** | **0,7** | **0,25** |
| | **1,5** | | **4,2** | | **6,6** | | **9,2** | | **21,5** | | **12,3** | III,0 | | **228,973** | **17,9** | **10,9** |
| | **1,7** | | **4,75** | | **7,45** | | **10,3** | | **24,2** | | **13,9** | III,0 | | | **19,8** | **12,2** |

Таблица № 20. | Табліца № 20.

| Від карыстаньня<br>Вид пользования | Пры водпуску лесу ў разьмеры гадов. лесасек. 28/29 году<br>При отпуске леса в размере годич. лесос. 28/29 года | Пры водпуску лесу згодна новага каштарысу<br>При отпуске леса по новой смете |
|---|---|---|
| | У тысячах куб. мэтрах<br>В тысячах куб. метр. | |
| Галоўнае . . . . . .<br>Главное | 124,3 | 151,4 |
| Прамежнае . . . . .<br>Промежуточное | 26,4 | 26,4 |
| **Разам** . . . . .<br>**Итого** | **150,7** | **177,8** |

**Трэба, аднак, заўважыць, што з другога дсесяцігодзьдзя колькасьць бярозавай фанернай драўніны пры галоўным карыстаньні ў іглястай гаспадарцы будзе паступова скарачацца, дзякуючы меўшым месца ў гэтай гаспадарцы праходным высечкам у папярэднія дзесяцігодзьдзі, але затое,**



паводле дагляду за лесам, якасьць драўніны павінна паляпшацца, і пры раст павялічвацца.

Згодна прынятых намі гатункаў, гэтая агульная колькасьць сыравіны ў процантным стасунку прыкладам будзе разьмяркоўвацца наступным чынам:

| I гатунак | II гатунак | III гатунак | IV гатунак |
|---|---|---|---|
| 23,8% | 21,3% | 27,8% | 27,1% |

Нарэшце, па разьмерах уся бярозавая фанерная драўніна галоўнага прамежнага карыстаньня разам разьмяркуецца наступным чынам (гл. табл. № 21).

Графічныя дадзеныя гэтай табліцы маюць наступны выгляд (гл. рысунак № 1).

Пры аб'яднаньні галоўнага і прамежнага карыстаньня дадзеныя спробных плошчаў павялічаны ўдвойчы, каб такім чынам зрабіць суадносіны спробных плошчаў адпавядаючымі прапорцыі галоўнага і прамежнага карыстаньня у лясох.

Таблица № 21. Табліца № 21.

| Даўжыня каржак.<br>Длина кряж. | | Дыямэтры ў сантымэтрах у верхнім адрэзе / Диаметры в сантиметрах в верхнем отрубе: 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 | Сярэдні дыямэтр<br>Средний диаметр | Процант удзелу каржакоў розных даўжыні ў агульнай масе<br>Процент. участия кряжей различ. длины в общей массе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У процантах / В процентах | | | | | | | | | | | | |
| 1,63 | Па кольк. шт.<br>По числ. шт. | 7,9 | 20,3 | 22,5 | 19,6 | 14,2 | 8,1 | 3,5 | 1,3 | 1,6 | 0,7 | 0,3 | 24,5 | |
| | Па аб'ёму.<br>По об'ему | 4,5 | 14,3 | 19,1 | 20,2 | 17,0 | 11,3 | 5,6 | 2,4 | 3,2 | 1,7 | 0,7 | 24,75 | 69,2% |
| 1,35 | Па кольк. шт.<br>По числ. шт. | 17,3 | 35,5 | 21,8 | 10,9 | 10,6 | 2,5 | 0,8 | 0,3 | 0,3 | — | — | 22,5 | |
| | Па аб'ёму.<br>По об'ему | 12,1 | 29,6 | 22,6 | 12,9 | 15,7 | 4,3 | 1,5 | 0,6 | 0,7 | — | — | 22,7 | 23,2% |
| 0,80 | Па кольк. шт.<br>По числ. шт. | 51,1 | 31,3 | 11,0 | 2,9 | 3,0 | 0,1 | 0,4 | — | 0,2 | — | — | 20,6 | |
| | Па аб'ёму.<br>По об'ему | 42,9 | 31,9 | 13,9 | 4,4 | 5,3 | 0,3 | 0,8 | — | 0,5 | — | — | 21,0 | 7,6% |
| Для ўсіх даўжынь разам<br>Для всех длин вместе | Па кальк. шт.<br>По числ. шт. | 18,3 | 26,5 | 20,2 | 14,2 | 11,2 | 5,1 | 2,2 | 0,8 | 0,9 | 0,4 | 0,2 | 23,2 | |
| | Па аб'ёму.<br>По об'ему | 9,2 | 19,2 | 19,5 | 17,2 | 15,8 | 8,9 | 4,3 | 1,8 | 2,4 | 1,2 | 0,5 | 23,8 | 100% |

Дзеля дасьледваньня бярозавай фанернай сыравіны ў дачыненьні проценту выхаду гатовай фанеры ў залежнасьці ад разьмеру і якасьці сыравіны, дзеля ўстанаўленьня ўплыву на гатунак гатовай фанеры разьмераў сіравіны і гатунку апошняй і нарэшце дзеля высьвятленьня колькасьці часу, які патрэбен на лушчэньне сыравіны розных разьмераў, былі прапушчаны цераз шэль-машыну 101 каржак аб'ёмам 11,5 кубич. мэтраў.

Некаторыя дадзеныя гэтага дасьледваньня пададзены у табліцы № 22.

Таблица № 22. Табліца № 22.

| Гатункі сыравіны / Сорта сырья | Кольк. карж. / Число кряж. | Верхні дыямэтр каржакоў / Верхний диаметр кряжиков: Ад—да / От—до | Сярэдн. / Средн. | Сяр. арытм. % выхаду / Средн. арифм. % выхода | Гатункі фанеры ў працантах ад сыравіны / Сорта фанеры в процентах от сырья: I | II | IIIa | IIIв | IV | V | Сяр. агрэгат. % выхаду / Ср. аггрегат % выхода | Сярэдні гатунак / Средний сорт | Дадзеныя хранамэтражу ў сэкундах / Данные хронометража в секундах: Падкат. і ўстаноўка / Подкат. и установ. | Пуск машыны / Пуск машины | Лушчэньне / Лущение | Выкіданьне алоўкаў / Выбрас. карандашей | Разам / Итого |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | 24 | 19,5—38,2 | 28,5 | 45,6 | — | 8,6 | 15,7 | 10,1 | 6,6 | 5,4 | 46,4 | IIIa,67 | 16,6 | 1,0 | — | 6,3 | |
| II | 50 | 19,0—40,0 | 29,0 | 44,8 | — | 6,9 | 11,2 | 11,7 | 12,3 | 4,8 | 46,9 | IIIa,94 | 15,9 | 1,0 | — | 8,15 | |
| III | 24 | 19,8—38,0 | 26,7 | 44,0 | — | 0,8 | 9,9 | 15,7 | 12,6 | 6,8 | 45,8 | IIIв,32 | 17,7 | 1,0 | — | 6,9 | |
| IV | 3 | 22,0—24,0 | 23,2 | 36,7 | — | — | 2,4 | 14,8 | 10,4 | 9,6 | 37,2 | IIIв,73 | 13,0 | 1,0 | — | 6,0 | |
| У сяр. / В ср. | 101 | 19,0—40,0 | 28,2 | 44,6 | — | 5,9 | 11,9 | 12,2 | 10,9 | 5,5 | 46,4 | IIIa,94 | 16,56 | 1,0 | 207,62 | 7,18 | 232,36 |

Дзеля таго, каб мець мажлівасьць пашырыць дадзеныя досьледу на ўсю Беларускую сыравіну, спынімся на аналізе галоўнейшых залежнасьцяй, які можна выявіць з нашага матар'ялу.

Сярэдня-арытмэтычны процант выхаду гатовай фанеры з сыравіны раўняецца 44,6% (агрэгатны процант некалькі больш 46,4%). Велічыня проценту выхаду фанеры з сыравіны не залежыць ад гатунку сыравіны, каэфіцыэнт карэляцыі між № гатунку і працантам выхаду ($\rho$) раўняецца ўсяго —0,099 + 0,098, ды і гэта мізэрная залежнасьць абумоўліваецца тэй акалічнасьцю, што ў нашым матар'яле выпадкова падзеньне гатунку справаджалася падзеньнем дыямэтру, які, як мы ўжо ўбачым далей, робіць уплыў на процант выхаду. Між верхнім дыямэтрам ($d$) фанерных каржакоў і процантам выхаду ($\rho$), як і трэ' было чакаць, існуе сувязь, якая характарызуецца просталінейным каэфіцыэнтам карэляцыі $r = 0{,}507 \pm 0{,}074$. Раўнаньне просталінейн. рэгрэсіі мае наступны выгляд: $\rho = 15{,}86 + 0{,}997d$. Ужо тэарэтычна можна аднак дапускаць, што павялічэньне проценту выхаду ў залежнасьці ад дыямэтру каржакоў будзе мець месца толькі да некаторай граніцы, пасьля чаго павінна пачацца зваротная зьява, якая абумоўлена тым, што наогул кажучы, таўшчыня каржакоў павялічваецца з узростам, а апошні справаджаецца, пачынаючы з вядомай граніцы, большай фаўтнасьцю. Эмпірычныя дадзеныя пацьвярджаюць гэта (гл. табл. № 23), у самых тоўстых каржакоў у нашым матар'яле процант выхаду фенеры падае. Таму, апрача просталінейнага каэфіцыэнту карэляцыі дзеля ўстанаўленьня цеснаты сувязі, быў вылічан карэляцыйны стасунак па формуле Пірсона; ён здаўся роўным $\eta = 0{,}550 \pm 0{,}070$. Хоць $\eta$ больш $r$ толькі ў межах сярэдзіннай памылкі, але з тэй прычыны, што крывалінейная сувязь больш адпавядае сутнасьці справы, то было вылічана раўнаньне крывалінейнай рэгрэсіі ў выглядзе парабалы другога парадку, якое мае наступны выгляд:

$$\rho = 14{,}68 + 3{,}132d - 0{,}0361d^2.$$

У табліцы № 23 прыведзены вылічаныя па строю d проценты выхаду фанеры ад агульнага аб'ёму каржакоў непасрэдна, згодна раўнаньня просталінейнай рэгрэсіі і раўнаньня другога парадку.

Таблица № 23. Табліца № 23.

| Як атрыманы $^0/_0{}^0/_0$ выхаду<br>Как получены $^0/_0{}^0/_0$ выхода | Верхнія дыямэтры каржачкоў у сантымэтрах ад да<br>Верхние диаметры кряжиков в сантиметрах от до | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 19,0—21,9 | 22,0—24,9 | 25,0—27,9 | 28,0—30.9 | 31,0—33,9 | 34,0—36,9 | 37,0—39,9 |
| | Колькасьць варыянтаў<br>Число вариантов | | | | | | |
| | 7 | 22 | 22 | 25 | 8 | 6 | 11 |
| | Проценты выхаду<br>Проценты выхода | | | | | | |
| Непаср. выліч. . .<br>Непоср. вычисл. | 34,0 | 38,4 | 42,5 | 46,9 | 50,3 | 55,1 | 49,7 |
| З раўн. праст. . .<br>По уравн. прям. | 36,3 | 39,3 | 42,3 | 45,3 | 48,3 | 51,3 | 54,2 |
| З раўн. парабалы<br>По уравн. параб. | 34,3 | 38,9 | 42,9 | 46,2 | 48,9 | 51,0 | 52,4 |

На рысунку атрыманы матар'ял мае наступны выгляд (гл рыс. № 2).

З табліцы № 23 і рыс. № 2 відаць, што крывая бліжэй падыходзіць да нашага матар'ялу, чымся простая; апрача таго, у той час, як па раўнаньню простай „р" з павялічэньнем таўшчыні каржачкоў будзе павялічвацца да бясконцасьці, згодна раўнаньня крывой „р" мае максымум пры таўшчыні каржаку ў 43,4 сантымэтра, роўны 53,3%. Таму для вылічэньня гатовай фанеры, якая павінна атрымацца ў выніку перапрацоўкі ўсёй бярозавай сыравіны, мы вылічым проценты з раўнаньня другога парадку.




Пасьля скарыстаньня дадзеных з табліцы № 21 аб разьмеркаваньні ў процантным стасунку фанернай сыравіны па ступенях таўшчыні ў верхнім дыямэтры і процантамі выхаду з каржакоў рознай таўшчыні, якія вылічаны згодна раўнаньня крывой мы можам вылічыць сярэдні процант выхаду фанеры, які адпавядае разьмерам усей Беларускай сыравіны; процант гэты раўняецца 40,2%. Значыцца, прымаючы пад увагу дадзеныя табліцы № 20 аб колькасьці ўсёй фанернай бярозавай сыра-

віны, можна спадзявацца на атрыманьне з яе 60,6 тысяч куб. мэтр. гатовай фанеры пры карыстаньні ў разьмеры фактычна адведзенай лесасекі ў 1928-1929 годзе і 71,5 тысяч куб. мэтр. пры карыстаньні ў разьмеры каштарыснай лесасекі.

Як відаць з табліцы № 22, першага гатунку фанеры з бярозы зусім не атрымліваецца, II і V гатунку атрымліваецца 5—6%, а астатніх гатункаў амаль пароўну 11—12%; сярэдні гатунак фанеры III-а, 94. Між гатункам фанеры і гатункам фанернай сыравіны маецца невялікая простая залежнасьць, каэфіцыэнт корэляцыі $r = +0.314 \pm 0,090$. Залежыць так сама гатунак фанеры і ад верхняга дыямэтру каржачкоў. Апошняя залежнасьць толькі праўдападобная і характарызуецца каэфіцыэнтам корэляцыі—0,227 ± 0,094, г. зн. з павялічэньнем дыямэтру гатунак фанеры паляпшаецца. Такім чынам гатунак фанеры абумоўліваецца дзьвюмя зьменнымі,—гатункам каржачкоў і іх дыямэтрам.

Частковы каэфіцыэнт корэляцыі між гатункам фанеры s і гатункам сыравіны S пры нязьменным дыямэтры раўняецца + 0,290, а частковы каэфіцыэнт корэляцыі між гатункам фанеры s і дыямэтрам каржачкоў d, пры нязьменным гатунку сыравіны, раўняецца—0,191. Множны каэфіцыэнт корэляцыі, які характарызуе залежнасьць s ад d і S разам раўняецца 0,362.

Раўнаньне рэгрэсіі дзеля вызначэньня гатунку фанеры ў залежнасьці ад гатунку і дыямэтру сыравіны мае наступны выгляд:

$$s = III^{b},\ 0,84 - 0,026d + 0,286S.$$

Пры дапамозе гэтага раўнаньня можна вызначыць, што беларуская сыравіна, якая мае сярэдні гатунак II,7 і сярэдні дыямэтр 23,8 см, дасьць $III^{b}$, 2 сярэдні гатунак фанеры пры поўнай адсутнасьці першага гатунку.

Пры хронамэтраваньні пераапрацоўкі каржакоў шэль-машынай высьветлілася, што працэсы падкаткі каржакоў і ўстаноўкі іх у машыну, пуску машыны і выкіданьня алоўкаў не залежаць ад разьмеру каржачкоў. Час, які патрэбен на першы працэс, у сярэднім ровен 16,6 сэкунды і вагаецца ў межах ад 10 сэк. да 34 сэк. Пуск машыны патрабаваў пры ўсіх іспытах адну сэкунду. Выкіданьне алоўка патрабуе ў сярэднім 7,2 сэк. і вагаецца ў межах ад 5 сэк. да 20 сэкунд. Час, які патрэбен на лушчэньне, у сярэднім ровен 207,62 сэк. і вагаецца ў межах ад 80 да 439 сэк. Ён залежыць ад дыямэтру каржачка.

Каэфіцыэнт корэляцыі між дыямэтрам каржачка і часам, патрэбным на яго лушчэньне, раўняецца 0,797 ± 0,036. Раўнаньне рэгрэсіі дзеля вызначэньня часу лушчэньня t па дыямэтру каржачка d мае выгляд:

$$t = -135,65 + 12,07d$$

Такім чынам у сярэднім за ўвесь працэс апрацоўкі ў шэль-машыне, калі лічыць ва ўсіх стадыях, апрача лушчэньня, сярэдні час нагляданьня, а на працэс лушчэньня час, вылічаны з раўнаньня рэгрэсіі ў залежнасьці ад дыямэтру каржачка, патрабуецца для розных разьмераў каржачкоў наступная колькасьць сэкунд (гл. табл. № 24).

Для сярэдняга-ж разьмеру каржачка Беларускай сыравіны ў 23,8 см ён ровен 176 сэкунд. Пры дапамозе табліцы № 24, якая паказвае колькасьць часу, патрэбнага на пераапрацоўку каржакоў розных разьмераў, і раўнаньня рэгрэсіі:

$$p = 14,68 + 3,132d - 0,0361d^{2}.$$

Таблица № 24. Tablica № 24.

| Найменьне працэсаў<br>Наименование процессов | Дыямэтры ў сантымэтрах верхняга адрэзу<br>Диаметры в сантиметрах верхнего отруба | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 |
| | Час у сэкундах<br>Время в секундах | | | | | | | | | | |
| Падкатка і ўстаноўка . .<br>Подкатка и установка | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 |
| Пуск машыны . . . . .<br>Пуск машины | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,0 | 1,0 |
| Лушчэньне . . . . . .<br>Лущение | 93,7 | 117,8 | 142,0 | 166,1 | 190,2 | 214,4 | 238,5 | 262,7 | 286,8 | 310,9 | 335,1 |
| Выкіданьне алоўкаў . .<br>Выбрасыв. карандашей | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 |
| Разам<br>Итого | 118 | 143 | 167 | 191 | 215 | 239 | 263 | 287 | 312 | 336 | 360 |

па якому можна вылічыць процант выхаду гатовай фанеры з каржачкоў тых-жа разьмераў, ведаючы аб'ёмы каржачкоў, можна вылічыць колькасьць часу, неабходнага на вырабку аднаго куб. мэтр. фанеры з сыравіны розных дыямэтраў. Гэтыя дадзеныя для каржачкоў даўжынёю ў 1,63 мэтр. падаюцца ў табліцы № 25.

Таблица № 25. Tablica № 25.

| | Дыямэтры ў сантымэтрах<br>Диаметры в сантиметрах | | | | | | | | | | | Увага<br>Примечание |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 | |
| | Час у гадзінах, мінутах і сэкундах<br>Время в часах, минутах и секундах | | | | | | | | | | | |
| Час, патрэбны на вырабку 1 куб. мэтру фанеры<br>Время, потребное на изготовление 1 куб. метра фанеры | 2 ч. 1 м. 41 сек. | 1 ч. 47 м. 13 сек. | 1 ч. 34 м. 18 с. | 1 ч. 24 м. 13 с. | 1 ч. 16 м. 8 с. | 1 ч. 9 м. 5 с. | 1 ч. 4 м. 18 с. | 0 ч. 59 м. 54 с. | 0 ч. 55 м. 56 с. | 0 ч. 52 м. 58 с. | 0 ч. 50 м. 43 с. | Аб'ёмы вызначаліся згодна верхн. дыямэтру па табл. Крудэнэра-Турскага<br>Об'емы определялись по верхн. диаметру по табл. Крюденера-Турского |

Для вырабкі аднаго кубічнага мэтра фанеры з каржачка сярэдняга разьмеру беларускай сыравіны таўшчынёй ў верхнім адрэзе 23,8 см, даўжынёй у 1,63 мэтр., патрабуецца адна гадзіна 30 хвілін, 25 сэкунд.

Ведаючы кошт зьмены работы на шэль-машыне, лёгка, згодна дадзеных табліцы № 28, вылічыць кошт апрацоўкі на ёй аднаго куб. мэтру гатовай фанеры з сыравіны таго альбо іншага дыямэтру.

## V.

**Асіна.** Для характарыстыкі асінавай драўніны, якая атрымліваецца пры галоўным карыстаньні, закладзена ў розных акругах у гаспадарцы

іншых ліставых парод 33 спробных плошчы па пераважнасьці на лесасеках 1929-30 году. Галоўнейшыя дадзеныя, атрыманыя на гэтых спробных плошчах, можна бачыць ў табліцы № 26.

Узрост узятых спробных плошчаў вагаецца ад 47 да 100 год, у сярэднім ён ровен 72 гадом, г. зн. адпавядае сярэдняму ўзросту, ў якім будуць высякацца дрэвастаны гаспадаркі іншых ліставых парод у першае дзесяцігодзьдзе. Сярэдняя паўната ўзятых спробных плошчаў 0,71, значыцца, роўна сярэдняй паўнаце гаспадаркі іншых ліставых парод.

Нарэшце, сярэдні банітэт узятых спробных плошчаў І,06 блізкі да сярэдняга банітэту пароды 1,41 і яшчэ бліжэй да сярэдняга з трох вышэйшых банітэтаў І,31 (гл. табл. № 6).

Процант выхаду фанернай драўніны з запасу вылічанага па часовых масавых табліцах, усіх чатырох гатункаў ($P_1$) раўняецца 21,58 ± 1,78%, а першых трох гатункаў ($P_2$) раўняецца 13,91 ± 1,35%.

Процант выхаду фанернай драўніны ад запасу, вылічанага па мадэльных дрэвах, само сабою зразумела, некалькі меней, чымся ад запасу, які вылічан па часовых масавых табліцах, і раўняецца для ўсіх гатункаў 19,5% і для першых трох гатункаў 12,6%. Сярэдні гатунак усёй фанернай сыравіны (S) раўняецца 11,67 ± 0,084 Такім чынам дакладнасьць дасьледваньня ў першым выпадку раўняецца 8,25% у другім 9,71% і ў трэцім 3,14%.

Аб тыповасьці закладзеных спробных плошчаў дзеля ўстанаўленьня проценту выхаду фанернай драўніны ад агульнага запасу можна разважаць па ўстойлівасьці радоў процантаў. Устойлівасьць раду $P_1$ па формуле Барткевіча характарызуецца Q = 1,105, а раду $P_2$ — Q = 0,991. У абодвух выпадках атрымаліся велічыні, блізкія да адзінкі, што сьведчыць аб нармальнасьці радоў. Тое ж самае пацьвярджаецца паверкаю раду $P_1$ па ліках *Вэстэргорда*: тэорэтычным лікам 7, 9; 17,2; 23,7 і 33 адпавядаюць запраўдныя: 10; 18; 22 і 33.

Дзеля таго, каб высьветліць пытаньне аб дапасованасьці атрыманых намі сярэдніх процантаў выхаду фанернай драўніны ад усяго запасу і сярэдняга гатунку ў розных умовах, прааналізуем для асіны, як гэта рабілася раней для бярозы, залежнасьці гэтых велічынь ад банітэту, узросту, сярэдняга дыямэтру дрэвастану і месца росту.

Цеснага сувязі проценту выхаду ўсіх сартоў фанернай драўніны ад агульнага запасу ($P_1$) з банітэтам (B) у межах дасьледваных намі трох банітэтаў, мізэрна, каэфіцыэнт карэляцыі між $P_1$ і B ровен 0,214 ± 0,166. Куды больш залежнасьць велічыні $P_1$ ад узросту дрэвастану: каэфіцыэнт карэляцыі раўняецца ў даным выпадку—0,451 ± 0,138, г. зн. можна ў сярэднім лічыць устаноўленым, што, чым вышэй ўзрост, тым меншы процант выхаду. Частковыя каэфіцыэнты карэляцыі яшчэ больш сьцьвярджаюць нязначнасьць сувязі проценту выхаду з банітэтам, і значную залежнасьць яго ад узросту: у першым выпадку частковы каэфіцыэнт карэляцыі пры нязьменным узросьце раўняецца—0,127, а ў другім пры нязьменным банітэце—0,423. Нарэшце, множны каэфіцыэнт карэляцыі, які характарызуе залежнасьць $P_1$ ад B і A разам, роўны 0,466, толькі нязначна перавышае агульны каэфіцыэнт карэляцыі між $P_1$ і A.

Сувязь між процантам выхаду ўсіх гатункаў фанернай драўніны $P_1$ і сярэднім дыямэтрам дрэвастану D толькі праўдападобна, r = — 0,303 ± ± 0,151. Аднак, калі прыняць пад увагу, што дыямэтр дрэвастану вызначаецца яго банітэтам і ўзростам, то ўплыў дыямэтру пры ўліку залежнасьці $P_1$ ад узросту і банітэту павінен здацца яшчэ больш нязначным. На самой справе, частковы каэфіцыэнт карэляцыі між $P_1$ і D пры нязь-

менных В і А ровен усяго 0,0075, а множны каэфіцыэнт корэляцыі, які характарызуе залежнасьць $P_1$ ад В, А і D разам, раўняецца 0,466, г. зн. у дакладнасьці ровен множнаму каэфіцыэнту корэляцыі, які характарызуе залежнасьць $P_1$ толькі ад В і А.

Раней было паказана, што сувязь $P_1$ значна толькі з узростам А, што ўвядзеньне другой зьменнай—банітэту—амаль ня мае значэньня. Гэтак сама выяўляецца, што ўплыў дыямэтру на $P_1$, пры ўлічаным ужо уплыве на апошні ўзросту, мізэрны: частковы каэфіцыэнт корэляцыі між $P_1$ і D пры нязьменным А раўняецца $+ 0,032$, а множны каэфіцыэнт корэляцыі, які характарызуе залежнасьць $P_1$ ад А і D разам, ровен 0,452, г. зн. усяго на 0,001 больш агульнага каэфіцыэнта між $P_1$ і А.

Такім спосабам аналіз паказаў, што можа мець практычнае значэньне толькі залежнасьць проценту выхаду ўсіх гатункаў фанернай драўніны ад запасу ($P_1$), ад узросту (А); выходзіць, пры адным і тым-жа ўзросьце можна карыстацца сярэдняй велічынёй $P_1$ якая з акругленьнем роўна $21,5\%$. Гэтай велічынёй мы і скарыстаемся ў далейшым, пры вылічэньні колькасьці фанернай драўніны на гадовай лесасецы першага дзесяцігодзьдзя, дзеля таго, што ў бліжэйшае дзесяцігодзьдзе ў высечку будуць паступаць дрэвастаны ў сярэднім з адным і тым-жа ўзростам трохі вышэй за 70 год.

На працягу першага дзесяцігодзьдзя ў высечку ўжо будуць ісьці дрэвастаны прыкладам каля 60 год. Дзеля вызначэньня проценту выхаду фанернай драўніны ў гэтым ўзросьце можна карыстацца раўнаньнем просталінейнай рэгрэсіі: $P_1 = 46,54 - 0,346A$, але лепей карыстацца раўнаньнем парабалы другога парадку: $P_1 = 22,70 + 0,334A - 0,00467A^2$.

Ужываць раўнаньне крывой у даным выпадку, бязумоўна, больш правільна, ня гледзячы на малую розьніцу між каэфіцыэнтам корэляцыі, роўным $- 0,451 \pm 0,138$ і корэляцыйным стасункам $\eta = 0,464 \pm 0,136$, бо нельга дапусьціць павялічэньня проценту выхаду з памяншэньнем узросту да нуля, што атрымаецца з раўнаньня простай.

У табліцы № 27 падаюцца вылічаныя па строю А проценты выхаду $P_1$ непасрэдна, па раўнаньню просталінейнай рэгрэсіі і па раўнаньню другога парадку.

Таблица № 27. Табліца № 27.

| Узрост<br>Возраст | Колькасьць варыянтаў<br>Число вариант. | Вылічан. непасрэдна<br>Вычислен. непоср. | Па раўн. простай<br>По уравн. прямой | Па раўн. крывой<br>По уравн. кривой |
|---|---|---|---|---|
| 52 | 6 | 26,80 | 28,55 | 27,46 |
| 63 | 6 | 27,08 | 24,74 | 25,20 |
| 74 | 11 | 20,81 | 20,93 | 21,98 |
| 85 | 7 | 17,84 | 17,13 | 17,76 |
| 96 | 3 | 11,73 | 13,32 | 11,72 |

(гл. рыс. № 3).

З табліцы відаць, што ў непасрэдна вылічаных велічынь максымальны процант атрымліваецца ва ўзросьце 63 год, у вылічаных па раўнаньню простай процант раўнамерна расьце з памяншэньнем узросту і

будзе павялічвацца бяз конца; нарэшце, ў вылічаных па раўнаньню крывой ен таксама расьце са зьніжэньнем узросту, але не бяз конца, а да 36 год, бо ў гэтым ўзросьце функцыя, якая выяўляе залежнасьць $P_1$ ад А мае максымум, роўны 28,7%.

З толькі што выкладзенага можна зрабіць наступныя вынікі: папершае, што ў інтарэсах фанернай прамысловасьці зварот высечкі для




асіны не павінен перавышаць 50—60 год, а па-другое, што ва ўзросьце 60 г. процант выхаду фанернай драўніны будзе каля 27%. Такім чынам разьмер каштарыснай лесасекі ў гаспадарцы іншых ліставых парод, які адпаваядае 58-гадоваму фактычнаму звароту высечкі, трэба лічыць адпавядаючым у дачыненьні да асіны ня толькі сучасным інтарэсам фанернай прамысловасьці, але таксама і будучым.

Сувязь проценту выхаду першых трох гатункаў фанернай драўніны ад агульнага запасу ($P_2$) з банітэтам характарызуецца каэфіцыэнтам карэляцыі $r = -0{,}415 \pm 0{,}144$, г. зн. амаль верагодная. Раўнаньне рэгрэсіі дзеля вызначэньня $P_2$ па В мае выгляд: $P_2 = 19{,}16 - 4{,}95B$; яшчэ значней залежнасьць $P_2$ ад узросту (А); яна характарызуецца $r = -0{,}546 \pm 0{,}122$. Раўнаньне рэгрэсіі дзеля вызначэньня $P_2$ па А мае наступны выгляд: $P_2 = 36{,}92 - 0{,}319A$. Частковыя каэфіцыэнты карэляцыі паказваюць яшчэ большую ролю ўзросту ў параўнаньні з банітэтам: частковы каэфіцыэнт карэляцыі між $P_2$ і В пры нязьменным $A = -0{,}355$, а між $P_2$ і А, пры нязьменным В раўняецца —0,508. Множны каэфіцыэнт карэляцыі, які характарызуе залежнасьць $P_2$ ад В і А разам, раўняецца 0,621. Раўнаньня рэгрэсіі для вызначэньня $P_2$ па В і А мае наступны выгляд: $P_2 = 37{,}83 - 3{,}6588 - 0{,}278A$.

Прымаючы пад увагу разьмеркаваньне па банітэтах асіны ў лясох БССР (гл. табл. № 6), можна вылічыць сярэдні процант выхаду фанеры першых трох гатункаў ад агульнага запасу $P_2$ на гадовай лесасецы БССР: ён раўняецца 12,7%.

Сярэдні гатунак фанернай драўніны S не залежыць ад банітэту, каэфіцыэнт корэляцыі ровен + 0,202 ± 0,167, а залежнасьць S ад узросту толькі праўдападобная, каэфіцыэнт корэляцыі ровен + 0,331 ± 0,155. г. зн. з павялічэньнем узросту гатунак фанернай драўніны пагаршаецца. Аб залежнасьці ад B і A разам дае ўяўленьне множны каэфіцыэнт корэляцыі, роўны 0,357 ± 0,152, г. зн. пэўнай сувязі няма. З прычыны адсутнасьці пэўнай сувязі між сярэднім гатункам фанернай сыравіны і асноўнымі таксацыйнымі элемэнтамі дрэвастану будзем лічыць ва ўсіх выпадках сярэднім гатункам фанернай сыравіны сярэдні гатунак спробных плошчаў 11,67 ± 0,084.

Дзеля высьвятленьня ўплыву месца росту ў межах БССР на процант выхаду фанернай сыравіны з асіны і на гатунак яе, падзелім Беларусь таксама, як гэта мы рабілі для бярозы, на тры раёны: паўночны, сярэдні і паўднёвы, і параўняем у кожным раёне памянёныя велічыні, атрыманыя непасрэдна па ўзятых у гэтай краіне спробных плошчах, з вылічанымі на падставе ўсяго матар'ялу. Апошнія велічыві вызначаліся наступным чынам: $P_1$ з раўнаньня:

$$P_1 = 22,70 + 0,334A - 0,00467A^2,$$

а S прынята адно і тое-ж сярэдняе для ўсіх спробных плошчаў.

Таблица № 28. Табліца № 28.

| Раёны<br>Районы | Кольк. спроб. плошч.<br>Число проб. площ. | Сярэдн. для спробн плошчаў<br>Средн. для проб. площадей | | Процант выхаду ўсіх гатункаў $P_1$<br>Процент выхода всех сортов $P_1$ | | Гатункі сыравіны<br>Сорта сырья | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Узрост<br>Возраст | Банітэт<br>Бонитет | Па спроб. плошч.<br>По проб. площ. | Па ўсім матар'яле<br>По всему материал. | Па спроб. плошч.<br>По пробн. площ. | Па ўсмі матар'яле<br>По всему материал. |
| Паўночны . Северный | 8 | 64 | 1 | 22,70 | 24,95 | II,78 | II,67 |
| Сярэдні . Средний | 12 | 70 | 1,17 | 22,83 | 23,21 | II,55 | II,67 |
| Паўднёвы . Южный | 13 | 79 | 1 | 19,75 | 19,82 | II,71 | II,63 |

Як відаць з табліцы № 28, усе велічыні, якія атрыманы непасрэдным вылічэньнем для таго ці іншага раёну, адрозьніваюцца ад вылічаных па ўсяму матар'ялу ў граніцах дакладнасьці мэтаду. З гэтага можна зрабіць вывад, што геаграфічнае месцазнаходжаньне ў БССР не ўплывае ні на процант выхаду фанернай асінавай драўніны, ні на сярэдні гатунак яе, а таму атрыманыя намі каэфіцыэнты і формулы на падставе ўсяго матар'ялу можна дапасоўваць з аднолькавым посьпехам ва ўсякім месцы ў Беларускіх лясох.

Агульная колькасьць асінавай драўніны, якая адпускаецца з гадовай лесасекі, ва ўсёй Беларусі згодна дадзеных аб фактычным водпуску ў 1928-1929 годзе, апрача гаспадаркі хвоі па балоце, раўняецца 431 тыся-

чы куб. мэтр., у якую масу ўваходзіць драўніна ўсіх банітэтаў. Прыгоднай дзеля атрыманьня фанернай сыравіны мы прызналі толькі драўніну банітэту, $I^a$, I і II, а таму яе неабходна вылучыць з агульнай масы. Гэта можна зрабіць на падставе разьмеркаваньня асіны па банітэтах у табліцы № 6 і дадзеных аб вытворчасьці асінавых дрэвастанаў розных банітэтаў у табл. праф. *Цюрына* для ўзросту ў 60—70 год. Калі прыняць вытворчасьць першага банітэту за адзінку, то вытворчасьць першага$^a$ ($I^a$) будзе раўняцца 1,19, для II—0,81, для III—0,64, для IV—0,49. Колькасьць драўніны першых трох банітэтаў у агульнай масе вызначыцца з наступнага разьліку:

431 × (3,0 × 1,19 + 59,0 × 1 + 31,8 × 0,81) : (3,0 × 1,19 + 59,0 × × 1 + 31,8 × 0,81 + 6,0 × 0,64 + 0,2 × 0,49) = 431 × 0,957 = 412 тысяч куб. мэтр. У тым ліку з іглястай гаспадаркі 128,1 тысяч куб. мэтр з гаспадаркі іншых ліставых парод 258,3 тысяч куб. мэтр., з альховай 15,5 тысяч куб. мэтр. і з дубовай 10,1 тысяч куб. мэтр.

У гэтай колькасьці фанернай сыравіны будзе, згодна прынятага намі сярэдняга проценту выхаду ў 21,5%, $\frac{412 \times 21{,}5}{100} = 88{,}6$ тысяч куб. мэтр., у тым ліку з іглястай гаспадаркі 27,5 тысяч куб. мэтр., з гаспадаркі іншых ліставых парод 55,6 куб. мэтр., з альховай 3,3 тысяч куб. мэтр. і з дубовай 2,2 тысяч куб. мэтр.

Пры адводзе поўнай каштарыснай лесасекі ў БССР будзе атрымлівацца 518 тысяч куб. мэтр. асінавай драўніны (у гэтай колькасьці драўніны першых трох банітэтаў будзе 518 × 0,957 = 496 тысяч куб. мэтр., у тым ліку з іглястай гаспадаркі 188,6 тысяч куб. мэтр., з гаспадаркі іншых ліставых парод 282,6 тысяч куб. мэтр., з альховай 14,1 тысяч куб. мэтр. і з дубовай 10,7 тысяч куб. мэтр. У гэтай колькасьці драўніны фанернай сыравіны будзе $\frac{496 \times 21{,}5}{100} = 106{,}5$ тысяч куб. мэтр., г. зн. на 21% болей, чымся ў 1928—29 годзе і сярэдні між 1926—27 і 1928—29 г., у тым ліку з іглястай гаспадаркі 40,5 тысяч куб. мэтр., з гаспадаркі іншых ліставых парод 60,7 тысяч куб. мэтр., з альховай 3,0 тысяч куб. мэтр., і з дубовай 2,3 тысяч куб. мэтр.

Гэтая колькасьць будзе атрымлівацца на працягу ўсяго першага дзесяцігодзьдзя, затым у высечку будуць паступаць больш маладыя дрэвастаны. У гаспадарках іглястай, альховай і дубовай ўсё-такі ўзрост іх застанецца ў сярэднім ня менш 70 год, у гаспадарцы-жа іншых ліставых парод ён ўпадзе з другой паловы другога дзесяцігодзьдзя да 60 год. Запас хваёвых дрэвастанаў у гаспадарцы іншых ліставых парод у 60 год пэўна наогул будзе меншы, але затое процант выхаду фанернай драўніны будзе большы, згодна вышэйпададзеных намі меркаваньняў, каля 27%. Прыкладнае ўяўленьне аб колькасьці фанернай асінавай драўніны, якая будзе атрымлівацца ў гаспадарцы іншых ліставых парод, пачынаючы з сярэдзіны другога дзесяцігодзьдзя, можна скласьці, калі паменшыць сучасны запас асінавай драўніны прапарцыянальна запасаў у 60—70 год у I банітэце агульных табліц праф. *Цюрына* і ўзяць ад яго процант выхаду ў 60 год $\frac{295 \times 378 \times 0{,}957 \times 27}{428 \times 100} = 67{,}3$ тысяч куб. мэтр., г. зн. на 6,6 тысяч куб. мэтр. больш, чымся ў першым дзесяцігодзьдзі. Калі развважаць аб разьмеркаваньні гатункаў фанернай сыравіны на спробных плошчах, можна дапускаць, што на лесасецы на працягу пер-

шага дзесяцігодзьдзя суадносіны гатункаў у процантным стасунку будуць наступныя:

| I | II | III | IV |
|---|---|---|---|
| 22,7% | 18,5% | 23,2% | 35,6%, |

пры сярэднім гатунку 11,67.

У наступныя дзесяцігодзьдзі можна чакаць, што гатункі некалькі падвысяцца ў сувязі з некаторым амаладжваньнем дрэвастану і мерамі дагляду. Згодна дадзеных спробных плошчаў, можна таксама меркаваць аб разьмерах асінавай сыравіны, якая будзе паступаць у апрацоўку. Пры дапамозе тых-жа мэтадаў, як гэта рабілася для бярозы, можна ўстанавіць, што сярэднія дыямэтры каржачкоў не залежаць ад банітэту, як гэта відаць з табліцы № 29.

Таблица № 29. Табліца № 29.

| Банітэты / Бонитеты — Даўжыня карж. у мэтр. / Длина кряж. в метр. | Ia | I | II | У сярэдн. / В средн. |
|---|---|---|---|---|
| | Дыямэтры верхніх адрэзаў у сант. / Диаметры верхн. отруб. в сант. | | | |
| 1,63 | 32,2 | 30,3 | 30,8 | 30,6 |
| 1,35 | 29,7 | 26,7 | 27,8 | 27,3 |
| 0,80 | 26,9 | 26,1 | 26,6 | 26,3 |

Значыцца, можна аб'яднаць усе банітэты і паказаць дадзеныя аб процантным разьмеркаваньні ўсёй сыравіны па разьмерах (глядзі табліцу № 30).

З табліцы № 30 відаць, што верхняга шпону маецца выстарчальная колькасьць, і што колькасьць маламерных каржачкоў нязначная. Дадзеныя спробных плошчаў, узятых для характарыстыкі асінавай драўніны, якая атрымліваецца пры прамежных карыстаньнях, падаюцца ў табліцы № 31.

З табліцы № 31 відаць, што сярэдні ўзрост спробных плошчаў 60 год блізкі да сярэдняга ўзросту дрэвастанаў, якія могуць даваць фанерную сыравіну пры праходных высечках. Сярэдні банітэт спробных плошчаў 1,14 блізкі да сярэдняга банітэту асіны першых трох банітэтаў ў лясох БССР, ды і разьмеркаваньне спробных плошчаў на банітэтах падобна да гэтакіх па БССР, а менавіта, лік спробных плошчаў разьмяркоўваецца па банітэтах у наступнай прапорцыі: 14% : 57% : 29%, а ў лясох БССР суадносіны па банітэтах наступныя: 3% : 63% 34%.

Таму сярэднія дадзеныя спробных плошчаў можна прыняць для вылічэньня колькасьці фанернай драўніны, якая атрымліваецца пры прамежным карыстаньні.

Сярэдні процант выхаду фанернай драўніны ўсіх гатункаў ад агульнага запасу асіны, вылічанага па часовых масавых табліцах, згодна дадзеных спробных плошчаў раўняецца 16,6 ± 4,12%, сярэдні процант выхаду першых трох гатункаў раўняецца 11,3 ± 3,25% і сярэдні гатунак фанернай сыравіны раўняецца 111,1 ± 0,19.

Проценты выхаду фанернай драўніны ад запасу, які вылічан па мадэльных дрэвах, ніжэй, чымся ад запасу па часовых масавых табліцах, і раўняецца для ўсіх гатункаў 13,8% і для першых трох гатункаў 8,8%.

Таблица № 31.

| Найменьне акругі / Наименование округов | Найменьне лясьніцтва / Наименование лесничества | Найменьне гаспадаркі / Наименование хозяйства | Склад дрэвастану спробы / Состав насаждения | Сярэдні ўзрост / Средний возраст | Сярэдняя вышыня / Средняя высота | Сярэдн дыямэтр / Средний дыямэтр | Паўната / Полнота | Банітэт / Бонитет | Плошча спробы ў гэкт. / Площадь пробы в гект. | Запас асіны на спробе ў к. м. выліч. па рас. мас. табл. / Запас осины на пробе в к. м. исчисл. по рус. врем. мас. таб. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Магілеўская Могилевский | Панькоўскае Паньковск. | Іглястая Хвойное | 50с3.Е.1Б1Д.ЕдКл. | 59 | 27,4 | 28,1 | 0,9 | Ia | 0,30 | 61,86 |
| | | | Сяр. арытмэтыч. Ср. арифметич. | | | | | | | **61,86** |
| Бабруйская Бобруйский | Лапіцкае Лапичское | Іглястая Хвойное | 4Е. 30с. 2Б. 1Гр | 51 | 26,1 | 32,7 | 0,7 | I | 0,50 | 52,75 |
| Аршанская Оршанский | Горацкае Горецкое | „ | 60с. 3Е. 1Б. ЕдД | 64 | 27,1 | 27,6 | 0,8 | „ | 0,50 | 116,40 |
| „ | „ | „ | 50с. 4Е. 1Кл. | 78 | 28,6 | 37,3 | 0,7 | „ | 0,25 | 48,74 |
| Магілеўская Могилевский | Касьцюковіцкае Костюкович. | „ | 3Е.20с.20л.2Кл.1Б. | 73 | 25,4 | 50,6 | 0,6 | „ | 0,50 | 27,40 |
| | | Сярэдняе арытмэтычнае Среднее арифметическое | | **66** | **26,8** | **37,0** | **0,7** | I | — | **245,29** |
| Гомельская Гомельский | Астроўскае Островское | Ліства. Листв. | 4Б. 3С. 20с. 10л. | 42 | 16,9 | 17,0 | 0,8 | II | 0,44 | 15,92 |
| Аршанская Оршанский | Аршанскае Оршанское | Іглястая Хвойное | 5С. 2Б. 20с. 1Е | 51 | 20,8 | 19,2 | 0,9 | „ | 0,25 | 9,58 |
| | | Сярэдняе арытмэтычнае Среднее арифметическое | | **46** | **18,8** | **18,1** | **0,85** | II | — | **25,56** |
| Сярэдняе арытмэтычнае па ўсіх банітэтах . . . . Среднее арифметическое по всем бонитетам | | | | **60** | **24,6** | **30,4** | **0,77** | I,14 | — | **332,65** |

Агульная колькасьць асінавай драўніны, якая атрымліваецца пры праходных высечках у іглястай гаспадарцы ва ўзросьце ад 50 да 90 год была прынята ў 114 тысяч куб. мэтр. Дзеля вылучэньня з гэтай масай драўніны, якая належыць да першых трох банітэтаў, трэба на падставе вышэйпададзеных разьлікаў 114 памножыць на 0,957 : $114 \times 0{,}957 = 109$ тысяч куб. мэтр.

Дзеля вызначэньня колькасьці фанернай драўніны, якая атрымліваецца з агульнай масы драўніны першых трох банітэтаў трэба 109 тысяч куб. мэтр памножыць на сярэдні процант выхаду 16,6%: $\frac{109 \times 16{,}6}{100} =$

$= 18{,}1$ тысяч куб. мэтр. Гэтыя 18,1 тысяч куб. мэтр., якія атрымліваюцца пры праходных высечках фанернай асінавай драўніны, па гатунках у процантным стасунку будуць разьмяркоўвацца наступным чынам:

Табліца № 31.

| Выхад фанернай сыравіны ў куб. мэтрах і °/₀ °/₀ запасу асіны, вылічанага згодна рас. часовых масавых табліц / Выход фанерного сырья в куб. метр. и °/₀ °/₀ от запаса асины да исчисленного по рус. временным массовым таблицам | | | | | | | | | | | | Сярэдні гатунак фанернай сыравіны / Сред. сорт фанерного сырья | Запас па мадэльн. дрэвов / Запас по модельн. дерев. | °/₀ выхаду ад запраўднага запасу / °/₀ выход от истин. запаса | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I-a | | II-в | | III-c | | IV-a | | Усяго / Всего | | Першых 3-х гатункоў / Перв. 3 сорт. | | | | Усіх гатункаў / Всех сортов | Першых 3-х гатункаў / Первых 3-х сортов |
| мт³ | °/₀ | мт³ | °/₀ | мт³ | °/₀ | мт³ | °/₀ | мт³ | °/₀ | мт³ | °/₀ | | | | |
| 1,162 | 1,9 | 1,856 | 3,0 | 6,440 | 16,4 | 2,837 | 4,6 | 12,295 | 19,9 | 9,458 | 15,3 | II,9 | 76,164 | 16,1 | 12,4 |
| | | | | | | | | | | | | | **76,164** | **16,1** | **12,4** |
| 0,383 | 0,7 | 4,854 | 9,2 | 0,302 | 0,6 | 2.014 | 3,8 | 7,553 | 14,3 | 5,539 | 10,5 | II,5 | 56,212 | 11,5 | 5,1 |
| 0,301 | 0,3 | 1,720 | 1,4 | 9,859 | 8,5 | 6,673 | 5,7 | 18,553 | 15,9 | 11,880 | 10,2 | III,2 | 136,545 | 13,6 | 8,7 |
| 1,394 | 2,9 | 5,012 | 10,3 | 3,872 | 7,9 | 4,819 | 9,9 | 15,097 | 31,0 | 10,278 | 21,1 | II,8 | 50,987 | 29,8 | 20,2 |
| 0,408 | 1,5 | 3,146 | 11,5 | 2,331 | 8,5 | 1,811 | 6,6 | 7,696 | 28,1 | 5,885 | 21,5 | II,7 | 40,837 | 18,8 | 14,4 |
| — | **1,3** | — | **8,1** | — | **6,4** | — | **6,5** | — | **22,3** | — | **15,8** | II,8 | **284,581** | **15,9** | **12,1** |
| — | — | — | — | 0,130 | 0,8 | 0,073 | 0,5 | 0,203 | 1,3 | 0,130 | 0,8 | III,4 | 17,076 | 1,2 | 0,8 |
| — | — | — | — | — | — | 0,543 | 5,6 | 0,543 | 5,6 | 0,543 | — | IV,0 | 10,320 | 5,3 | — |
| — | — | — | — | — | **0,4** | — | **3,0** | — | **3,4** | — | **0,4** | III,7 | **27.396** | **3,3** | **0,4** |
| — | **1,0** | — | **5,1** | — | **5,2** | — | **5,3** | — | **16,6** | — | **11,3** | III,1 | **388,141** | **13,8** | **8,8** |

| I | II | III | IV |
|---|---|---|---|
| 6,0°/₀ | 30,8°/₀ | 31,3°/₀ | 31,9°/₀ |

пры сярэднім гатунку III,1.

Па разьмерах фанерная сыравіна, якая атрымліваецца пры прамежным карыстаньні, будзе разьмяркоўвацца гэтак: (гл. табл. № 32).

З табліцы № 32 відаць, што верхняга шпону зусім выстарчальная колькасьць, а маламерак мала. Агульная колькасьць фанернай асінавай драўніны, якая можа быць атрымана з лясоў БССР ад галоўнага прамежнага карыстаньня, відана з наступнай табліцы (гл. табл. № 33).

Пры гэтым трэба заўважыць, што пасьля першага дзесяцігодзьдзя на працягу якога іглястыя дрэвастаны будуць абойдзены праходнай высечкай, колькасьць асінавай драўніны ў гэтай гаспадарцы пры галоўным карыстаньні будзе паступова скарачацца, бо частка асіны з дрэвастанаў,

Таблица № 30. | Табліца № 30.

| Даўжыня каржачк. / Длина кряжиков | | Дыямэтры верхніх адрэзаў у сантымэтрах / Диаметры верхних отрубов в сантиметрах | | | | | | | | | | | | | | | | | Сярэдні дыямэтр / Средний диаметр | Процант удзелу каржакоў ровнай даўжыні ў агульнай масе / Процент участия кряжей различ. длины в общей массе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 | 41 | 43 | 45 | 47 | 49 | 51 | | |
| | | У процантах / В процентах | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1,63 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 0,1 | 8,2 | 8,4 | 6,9 | 8,5 | 13,8 | 10,7 | 11,8 | 13,6 | 11,4 | 3,3 | 0,8 | 1,3 | 0,3 | 0,1 | 0,7 | 0,1 | 30,6 | 65,3% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 0,1 | 3,6 | 4,4 | 4,4 | 6,4 | 12,0 | 10,6 | 13,3 | 17,2 | 16,1 | 5,0 | 1,4 | 2,5 | 0,6 | 0,2 | 1,9 | 0,3 | 31,1 | |
| 1,35 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 7,1 | 13,0 | 9,8 | 8,1 | 15,8 | 16,7 | 15,0 | 6,3 | 3,4 | 2,6 | 0,2 | 0,4 | 1,6 | — | 0,1 | — | — | 27,3 | 26,9% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 3,2 | 6,9 | 6,5 | 6,5 | 15,0 | 18,4 | 18,6 | 9,9 | 5,4 | 4,8 | 0,5 | 0,8 | 3,9 | — | 0,3 | — | — | 27,6 | |
| 0,80 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 10,4 | 19,1 | 20,5 | 5,4 | 7,2 | 10,4 | 13,3 | 9,9 | — | 0,2 | 1,7 | — | — | — | — | 1,9 | — | 26,3 | 7,8% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 5,0 | 11,1 | 15,2 | 4,7 | 7,4 | 12,2 | 18,3 | 15,6 | — | 0,4 | 3,7 | — | — | — | — | 6,4 | — | 26,5 | |
| Для ўсіх ступеняў даўжыні разам / Для всех ступ. длины вместе | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 4,1 | 11,6 | 10,9 | 7,0 | 10,6 | 14,1 | 12,5 | 9,8 | 8,1 | 6,5 | 2,0 | 0,5 | 1,2 | 0,2 | 0,1 | 0,7 | 0,1 | 28,8 | 100% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 1,3 | 5,1 | 5,8 | 5,0 | 8,8 | 13,8 | 13,3 | 12,3 | 12,8 | 11,8 | 3,8 | 1,1 | 2,6 | 0,4 | 0,2 | 1,7 | 0,2 | 29,3 | |

Таблица № 32. Табліца № 32.

| Даўжыня каржачк. / Длина кряжиков | | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 | 41 | 43 | 45 | 47 | 49 | 51 | 59 | 61 | 63 | Сярэдні дыямэтр / Средний диаметр | Процант удзелу каржакў розной даўжыні ў агульнай масе / Процент участия кряжей различ. длины в общей массе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Дыямэтры верхніх адрэзаў у сантымэтрах / Диаметры верхних отрубов в сантиметрах | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | У процантах / В процентах | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1,63 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 12,2 | 10,5 | 4,0 | 11,2 | 15,7 | 14,6 | 6,7 | 2,8 | 8,5 | 8,3 | 1,6 | — | 0,6 | — | 0,6 | — | 0,9 | 0,9 | 0,9 | 30,5 | 69,8% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 5,3 | 5,5 | 2,5 | 8,2 | 13,3 | 14,1 | 7,4 | 3,5 | 11,7 | 12,8 | 2,6 | — | 1,2 | — | 1,4 | — | 3,2 | 3,5 | 3,7 | 31,4 | |
| 1,35 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 37,5 | 14,2 | — | 0,8 | 15,6 | 3,4 | 3,3 | 9,3 | 10,4 | 2,3 | 2,3 | 0,9 | — | — | — | — | — | — | — | 27,4 | 28,0% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 20,0 | 9,4 | — | 0,7 | 17,0 | 4,3 | 4,8 | 14,6 | 18,5 | 4,1 | 4,4 | 2,2 | — | — | — | — | — | — | — | 28,1 | |
| 0,80 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | — | 56,1 | — | 31,2 | 4,1 | 8,6 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 25.0 | 2,2% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | - | 45,9 | — | 35,7 | 5,7 | 12,7 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 25,2 | |
| Для ўсіх ступеняў даўжыні разам / Для всех ступ. длины вместе | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 20,5 | 14,5 | 3,4 | 8,6 | 15,0 | 10,3 | 5,1 | 5,0 | 8,6 | 5,4 | 1,5 | 0,3 | 0,3 | — | 0,3 | — | 0,4 | 0,4 | 0,4 | 28 8 | 100% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 9,2 | 7,5 | 1,7 | 6,7 | 14,3 | 11,4 | 6,5 | 6,5 | 13,4 | 10,0 | 3,0 | 0,6 | 0,8 | — | 1,0 | — | 2,3 | 2,5 | 2,6 | 30,3 | |

якія адведзены для галоўнай высечкі, будзе ўжо ўзята пры высечках дагляду.

Таблица № 33. Табліца № 33.

| Від карыстаньня<br>Вид пользования | Пры фактычн. разьмеры водпуску ў 1928/29 г.<br>При фактич. размере отпуска в 1928/29 г. | Пры водпуску ў разьмеры новай каштарыснай лесасекі<br>При отпуске в размере новой сметной лесосеки |
|---|---|---|
| Галоўнае . . . . . . .<br>Главное | 88,6 тыс. куб. мет. | 106,5 |
| Прамежнае . . . . . .<br>Проможуточное | 18,1 | 18,1 |
| Разам . . . . . .<br>Итого | **196,7** | **124,6** |

Па гатунках уся маса фанернай драўніны, якая атрымліваецца пры галоўным і прамежным карыстаньні, будзе разьмяркоўвацца ў процантным стасунку наступным чынам:

| I гатунак | II гатунак | III гатунак | IV гатунак |
|---|---|---|---|
| 20,4% | 20,2% | 24,4% | 35,0% |

Нарэшце, па разьмерах уся асінавая сыравіна разьмяркоўваецца прыкладам так: (гл. табл. № 34).

Графічнае выяўленьне гэтага разьмеркаваньня дадзена на рысунку № 4.

Дзеля дасьледваньня проценту выхаду гатовай фанеры сыравіны, яе якасьці, а таксама часу, патрэбнага для лушчэньня, былі прапушчаны цераз шэль-машыну 71 асінавы каржачок.

Некаторыя дадзеныя гэтага дасьледваньня падаюцца ў ніжэйнаступнай табліцы № 35.

Таблица № 35. Табліца № 35.

| Гатунак сыравікы<br>Сорт сырья | Кольк. каржакоў<br>Число кряж. | Верхнія дыямэтры каржачкоў / Верхние диаметры кряжников: Ад—да<br>От—до | Сярэдні<br>Средний | Сярэдня-арытмэтычны % выхаду фанеры<br>Средне-арифмет. % выхода фанеры | Гатункі фанеры ў %% ад сіравіны / Сорта фанеры в %% от сырья: I | II | IIIa | IIIв | IV | V | Сярэдні агрэгатн. % выхаду фанеры<br>Средн. аггрег. % выхода фанеры | Сярэд. гатунак фанеры<br>Средний сорт фанеры | Дадзеныя хронамэтражу ў сэкундах / Данные хронометража в секундах: Падкатка і ўстаноўка<br>Подкат. и установ. | Пуск машыны<br>Пуск машины | Лушчэньне<br>Лущение | Выкіданьне алоўкаў<br>Выбрасыв. карандашей | Разам<br>Итого |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | 29 | 22 —53,5 | 37,2 | 55,6 | 13,0 | 10,2 | 13,7 | 8,2 | 5,2 | 3,4 | 53,7 | II,86 | — | — | — | — | — |
| II | 26 | 21,5—43,0 | 31,7 | 49,8 | — | 9,8 | 12,7 | 3,4 | 19,2 | 5,2 | 50,3 | IIIa,95 | — | — | — | — | — |
| III | 13 | 22 —39,7 | 28,8 | 50,2 | — | 6,2 | 15,0 | 12,2 | 11,8 | 5,9 | 51,1 | IIIa,93 | — | — | — | — | — |
| IV | 3 | 35 —37,5 | 36,2 | 47,2 | — | — | 6,6 | 6,5 | 21,0 | 13,5 | 47,6 | IIIb,87 | — | — | — | — | — |
| Усяр.<br>В ср.<br>**1,86** | **71** | **21,5—53,5** | **33,6** | **52,1** | **6,5** | **9,1** | **13,2** | **7,1** | **11,3** | **4,9** | **52,1** | IIIa,43 | **16,7** | **1** | **219** | **6,9** | **243,6** |

Таблица № 34. Табліца № 34.

| Даўжыня каржачк. / Длина кряжиков | | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 | 41 | 43 | 45 | 47 | 49 | 51 | 59 | 61 | 63 | Сярэдні дыямэтр / Средний диаметр | Процант удзелу каржакоў роўнай даўжыні ў агульнай масе / Процент участия кряжей различ. длины в общей массе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Дыямэтры верхніх адрэзаў у сантымэтрах / Диаметры верхних отрубов в сантиметрах | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | У процантах / В процентах | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1,63 | Па кольк. шт. / По числ. шт, | 0,1 | 9,0 | 8,8 | 6,3 | 9,2 | 14,2 | 11,4 | 10,8 | 11,5 | 10,8 | 4,2 | 0,9 | 1.0 | 0,3 | 0,1 | 0,7 | 0,1 | 0,2 | 0,2 | 0,2 | 30,6 | 65,8% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 0,05 | 3,9 | 4,7 | 4,0 | 6,7 | 12,3 | 11,3 | 12,1 | 14,6 | 15,2 | 6,6 | 1,6 | 2,0 | 0,7 | 0,2 | 1,8 | 0,3 | 0,65 | 0,7 | 0,7 | 31,2 | |
| 1,35 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 5,7 | 17,7 | 10,6 | 6,5 | 12,9 | 16,4 | 12,6 | 5,7 | 4,5 | 4,1 | 0,6 | 0,7 | 1,5 | — | 0,1 | — | — | — | — | -- | 27,4 | 27,5% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 2,5 | 9,3 | 6,9 | 5,1 | 13,2 | 17,7 | 16,5 | 8,1 | 7,0 | 7,3 | 1,2 | 1,5 | 3,5 | — | 0,2 | — | — | — | — | — | 28,0 | |
| 0,80 | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 9,6 | 17,8 | 23,0 | 5,0 | 8,7 | 9,9 | 13,1 | 9,3 | — | 0,2 | 1,6 | — | — | — | 1,8 | — | — | — | — | — | 26,0 | 6,7% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 4,7 | 10,5 | 17,1 | 4,4 | 9,0 | 12,0 | 18,0 | 14,5 | — | 0,4 | 3,4 | — | — | — | 6,0 | — | — | — | — | — | 26,6 | |
| Для ўсіх ступеняў даўжыні разам / Для всех ступ. длины вместе | Па кольк. шт. / По числ. шт. | 3,4 | 13,2 | 11,5 | 6,3 | 10,0 | 14,3 | 12,1 | 9,0 | 7,5 | 7,0 | 2,7 | 0,7 | 1,1 | 0,2 | 0,05 | 0,6 | 0,05 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 28.8 | 100% |
| | Па аб'ёму . . / По об'ему | 1,0 | 5,8 | 6,0 | 4,3 | 8,8 | 13,8 | 13,3 | 11,2 | 11,5 | 12,1 | 4,9 | 1,5 | 2,2 | 0,4 | 0,1 | 1,6 | 0,1 | 0,4 | 0,5 | 0,5 | 29,9 | |

Спынімся на аналізе гэтых дадзеных.

Сярэдня-арытмэтычны процант выхаду фанеры з сыравіны супадае з агрэгатным і ровен 52,1%. Велічыня проценту выхаду фанеры (p) не залежыць ад гатунку сыравіны (S), каэфіцыэнт корэляцыі ровен—0,160 ± 0,115. Сувязь проценту выхаду фанеры з верхнім дыямэтрам каржачкоў (d) характарызуецца каэфіцыэнтам корэляцыі $r = 0,075 \pm 0,112$ і корэляцыйным стасункам $\eta = 0,488 \pm 0,095$.

Значыцца, тут маецца наяўна тыповы прыклад крывалінейнай залежнасьці. Раўнаньне, якое характарызуе гэтую сувязь, мае выгляд:

$$p = -26,15 \pm 4,47d - 0,061d^2$$

У табліцы № 36 і на рысунку № 5 графічна падаюцца непасрэдна атрыманыя проценты выхаду для розных дыямэтраў і вылічаныя з раўнаньня парабалы (гл. табл. № 36).

Таблица № 36. Табліца № 36.

| Згодна даўжынь<br>По длинам | Верхні дыямэтр (d) каржачкоў у сантымэтрах<br>Верхний диаметр (d) кряжиков в сантиметрах | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 21—25.9 | 26—30,9 | 31—35,9 | 36—40,9 | 41—45,9 | 46—50,9 | 51—55,9 |
| | Процант выхада фанеры (p)<br>Процент выхода фанеры (p) | | | | | | |
| Непасрэдным вылічэньнем . . .<br>Непосредственным вычислением | 43,26 | 53,50 | 57,30 | 54,15 | 49,62 | 46,95 | 41,62 |
| З раўнаньня рэгрэсіі . . . .<br>По уравнению регрессии | 45,08 | 51,59 | 55,05 | 55,46 | 52,82 | 47,13 | 38,39 |

З гэтай табліцы і рысунку відаць, што процант выхаду расьце да вызначанага дыямэтру, а затым пачынае падаць, відавочна, у сувязі з фаўтнасьцю, якая павялічваецца з таўшчынёй каржакоў.

Максымум проценту выхаду атрымліваецца пры дыямэтры каржачка ў 36,6 сантымэтраў і раўняецца 55,7%.

Пры дапамозе табліцы № 34, дзе паладзена разьмеркаваньне асінавай сыравіны па ступенях таўшчыні ў верхнім адрэзе і процантах выхаду гатовай фанеры з каржачкоў рознай таушчыні, вызначаным згодна раўнаньня, мы можам вылічыць сярэдні процант выхаду фанеры, які адпавядае разьмерам нашай сыравіны. Процант гэты раўняецца 51,2%. Значыцца, ўсяго гатовай фанеры можа атрымацца з асінавай драўніны, пры водпуску ў разьмеры 1928-29 году $\frac{106,7 \times 51,2}{100} = 54,6$ тысяч куб. мэтраў, а пры водпуску ў разьмеры новай каштарыснай лесасекі $\frac{124,6 \times 51,2}{100} = 63,7$ тысяч куб. мэтр. Як відаць з табліцы № 35, сярэдні гатунак фанеры, які атрымаўся пры досьледзе,—III[a], 43, ён адпавядае сярэдняму гатунку сыравіны 1,86 і сярэдняму дыямэтру сыравіны 33,6 см.

Між гатункам фанеры (s) і гатункам фанернай сыравіны (S) маецца простая залежнасьць, каэфіцыэнт корэляцыі 0,425 ± 0,097. Маецца таксама сувязь між гатункам фанеры і дыямэтрам каржачкоў (d). Залежнасьць гэта зваротная і характарызуецца каэфіцыэнтам корэляцыі— 0,419 ± 0,098. Частковы каэфіцыэнт корэляцыі між s і S пры нязьменным d раўняецца 0,475, а між s і d пры нязьменным S раўняецца—0,470 значыцца, абодва фактары ўплываюць амаль пароўну, прычым з пагоршаньнем сыравіны пагаршаецца і фанера, а з павялічэньнем дыямэтру сыравіны паляпшаецца якасьць фанеры. Залежнасьць гатунку фанеры ад гатунку сыравіны і яго дыямэтру характарызуецца множным каэфіцыэнтам корэляцыі, роўным 0,601. Раўнаньне рэгрэсіі для вылічэньня гатунку фанеры ў залежнасьці ад S і d мае наступны выгляд:

$$s = III^{b}, 84 + 0,58S - 0,065d.$$

Пры дапамове гэтага раўнаньня можна вылічыць, што беларуская асінавая сыравіна, якая мае сярэдні гатунак II,74 і сярэдні дыямэтр 29,9 см, дасьць сярэдні гатунак фанеры $III^{b}$, 49.

Пры хронометраваньні пераапрацоўкі каржачкоў на фанеру высьветлілася, што працэсы падкаткі і ўстаноўкі каржачкоў, пуску машыны і выкіданьня алоўкаў не залежаць ні ад дрэўнай пароды, ні ад разьмеру каржакоў, і ў сярэднім працяжнасьць гэтых працэсаў для асіны можна прыняць такую-ж, як для бярозы, г. зн. для першага працэсу 16,6 сэкунды, для другога 1 сэкунду, і для трэцяга 7,2 сэкунды.

Час, патрэбны на лушчэньне (t) у сярэднім ровен 220 сэк. і знаходзіцца ў залежнасьці ад разьмераў каржакоў, дакладней іх верхняга дыямэтру (d). Цесната сувязі між гэтымі велічынямі характарызуецца каэфіцыэнтам корэляцыі 0,714 ± 0,058.

Раўнаньне рэгрэсіі дзеля вызначэньня часу (t) у сэкундах па дыямэтру (d) мае наступны выгляд: $t = -19,32 + 7,008d$.

Сярэдні час, патрэбны для ўсяго працэсу апрацоўкі ў шэль-машыне каржакоў розных дыямэтраў, падаецца ў наступнай табліцы № 37.

Для апрацоўкі-ж сярэдняга разьмеру каржачка Беларускай сыравіны ў 29,9 см патрабуецца каля 215 сэкунд. Пры дапамозе табліцы № 37, дзе паказан час, патрэбны на пераапрацоўку каржачкоў розных дыямэтраў, і раўнаньня $p = -26,15 + 4,47d - 0,061d^2$, пры дапамозе якога мажна вылічыць процанты выхаду фанеры з каржачкоў тых-жа дыямэтраў, ведаючы аб'ёмы каржачкоў, можна вылічаць час, неабходны на вырабку аднаго куб. мэтру фанеры з сыравіны розных дыямэтраў. Гэтыя дадзеныя для каржачкоў даўжынёю у 1,63 мэтр. падаюцца ў табліцы № 38.

Дзеля вырабкі аднаго куб. мэтру фанеры з каржачкоў сярэдняга разьмеру таўшчынёю у верхнім адрэзе 29,9 сантымэтраў і даўжынёю 1,63 мэтра патрабуецца 52 мінуты 9 сэкунд.

## VI.

**Ліпа, ясень і дуб.** Дзеля выяўленьня фанернай сыравіны, якую можна нарыхтаваць на гадовай лесасецы ў лясох БССР з ліпы, ясеню і дубу, былі дапасованы тыя-ж мэтады збору і апрацоўкі матар'ялу, якія ўжываліся для бярозы і асіны.

У выніку апрацоўкі сабранага матар'ялу процант выхаду фанернай сыравіны ад запасу, вылічанага згодна расійскіх часовых масавых табліц, здаўся роўным: для ліпы 25,6 ± 4,4% усіх гатункаў і 23,5% першых

Таблица № 37. Табліца № 37.

| Найменьне працэсаў / Наименование процессов | Дыямэтры ў верхнім адрэзе каржачкоў ў сантымэтрах / Диаметры в верхнем отрубе кряжиков в сантиметрах | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 | 41 | 43 | 45 | 47 | 49 | 51 |
| | Час ў сэкундах / Время в секундах | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Устаноўка / Установка | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 | 16,6 |
| Пуск машыны / Пуск машины | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Лушчэньне / Лущение | 113,8 | 127,8 | 141,9 | 155,9 | 169,9 | 183,9 | 197,9 | 211,9 | 226,0 | 240,0 | 254,0 | 268,0 | 282,0 | 296,0 | 310,0 | 324,1 | 338,1 |
| Выкіданьне алоўкаў / Выбрасыв. каранд. | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 | 7,2 |
| Разам / Итого | 139 | 153 | 167 | 181 | 195 | 209 | 223 | 237 | 251 | 265 | 279 | 293 | 307 | 321 | 335 | 349 | 363 |

Таблица № 38. Табліца № 38.

| Дыямэтры каржачкоў у верхнім адрэзе ў сантымэтрах / Диаметры кряжиков в верхнем отрубе в сантиметрах | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 | 41 | 43 | 45 | 47 | 49 | 51 |
| Час у гадзінах, мінутах і сэкундах / Время в часах, минутах и секундах | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 2 ч. 3 м. 21 с. | 1 ч. 39 м. 18 с. | 1 ч. 21 м. 10 с. | 1 ч. 9 м. 4 с. | 1 ч. 0 м. 5 с. | 52 м. 58 с. | 48 м. 15 с. | 44 м. 24 с. | 41 м. 9 с. | 38 м. 53 с. | 37 м. 20 с. | 36 м. 16 с. | 35 м. 37 с. | 35 м. 24 с. | 35 м. 25 с. | 35 м. 53 с. | 36 м. 47 с. |

трох гатункаў, для ясеню 34,6±4,0% усіх гатункаў і 29,6% першых трох і для дубу 9,2 ±1,4% першых трох гатункаў. Процант выхаду ад запасу, па мадэльных дрэвах складае ў ліпы 28,8% для ўсіх гатункаў і 26,4% для першых трох, у ясеня 32,2% для ўсіх гатункаў і 27,5 для першых трох гатункаў і ў дубу 11,6%, г. зн. для дубу і ліпы вышэй, чым ад запасу па часовых масавых табліцах, што тлумачыцца пераўвялічаньнем запасаў дубу і ліпы апошнімі.

Прымаючы пад увагу вялікі попыт на дубовую драўніну і яе высокую каштоўнасьць, бясспрэчна, што з дубу можа вырабляцца толькі дэкарацыйная фанера, а не для тары, таму пры распрацоўцы дубовых спробных плошчаў нарыхтоўвалася фанерная сыравіна толькі першых трох гатункаў,

Нізкі процант выхаду дубовай фанернай драўніны тлумачыцца тым, што нарыхтоўка лушчонай фанеры з гэтай пароды намі дапускалася толькі з сярэдняй таварнай драўніны (дробная таварная драуніна занадта тонкая, а буйная вельмі дарагая), процант удзелу якой у агульнай эксплёатуемай дубовай масе згодна дадзеных матар'ялаў ацэнкі лесасек 1926-1927 і 1928-29 гадоў складае каля 8%,

Прымаючы запас гадовага водпуску з лясоў БССР роўным для ліпы ў 26,1 тысяч куб. мэтр., для ясеню ў 53,0 тысяч куб. мэтр. і для дубу ў 267 тысяч куб. мэтр. і вылічаныя вышэй проценты выхаду з гэтага запасу фанернай сыравіны, можна разьлічаць на штогодняе атрыманьне апошняй з ліпы ў колькасьці 6,7 тысяч куб. мэтр., з ясеню 18,3 тысяч куб. мэтр. з дубу 24,5 тысяч куб. мэтр. пры ўмове выкарыстаньня ўсей прыгоднай дзеля гэтага ясянёвай і сярэдняй дубовай драўніны, на што наўрад-ці можна разьлічваць, як з прычыны вялікага попыту на драўніну гэтых парод з боку іншых галін прамысловасьці, так і з прычыны няпэўнай рэнтабэльнасьці такога карыстаньня драўніны дубу і ясеню.

Па гатунках гэтае фанерная драўніна разьмяркоўваецца ў процантах наступным чынам (гл. табл. № 39).

Таблица № 39. Табліца № 39.

| Парода<br>Порода | Гатунак / Сорт I | II | III | IV | Сярэдні гатунак<br>Средний сорт |
|---|---|---|---|---|---|
| Ліпа . . . . . . . .<br>Липа | 37,1 | 17,2 | 37,5 | 8,2 | II,2 |
| Ясень . . . . . . .<br>Ясень | 50,6 | 13,9 | 21,1 | 14,4 | II,0 |
| Дуб . . . . . . . .<br>Дуб | 63,0 | 32,0 | 5,0 | — | I,52 |

Разьмеркаваньне фанернай сыравіны па разьмеру каржачкоў на падставе дадзеных спробных плошчаў падаецца ў табліцы № 40.

З табліцы відаць, што амаль уся сыравіна ідзе для верхняга шпону і нязначная колькасьць сыравіны сярэдняга шпону і маламерак.

Узорныя парааапрацоўкі на фабрыках ліпавай, ясянёвай і дубовай фанернай сыравіны далі наступныя вынікі: сярэдні процант выхаду гатовай фанеры з ліпавай сыравіны складае 45%, з ясянёвай **41%** і з ду-

бовай 42% пры сярэдніх дыямэтрах сыравіны, паказаных ў табліцы № 40.

Таблица № 40. Табліца № 40.

| Парода / Порода | Даўжыня каржачкоў у мэтрах / Длина кряжиков в метр. | | | | Сярэдні дыямэтр, фанернай сыравіны ў верхнім адрэзе / Срений диаметр фанерного сырья в верхнем отрубе |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1,63 | 1,35 | 0,80 | Разам / Итого | |
| Ліпа / Липа | 91,9% | 6,3% | 1,8% | 100% | 31,1 |
| Ясень / Ясень | 82,6% | 6,5% | 10,9% | 100% | 26,0 |
| Дуб / Дуб | 94,1% | 4,0% | 1,9% | 100% | 27,8 |

Пры гэтых процантах выхаду і памянёнай вышэй наяўнасьці фанернай сыравіны гатовай ліпавай фанеры атрымліваецца каля 3,000 куб. мэтр., ясянёвай 7,5 тыс. куб. мэтр. і дубовай каля 10,3 тыс. куб. мэтр, пры сярэднім гатунку ліпавай фанеры $III^a$, 4, ясянёвай $III^b$, 0 і дубовай $III^b$ 5.

Нізкі гатунак фанеры, які атрымліваецца, яшчэ больш пераконвае ў нямэтазгоднасьці вырабкі яе з дубу і ясеню.

## VII.

**Хвоя.** Пры дасьледваньні хвоі галоўная задача выяўлялася не ў вылічэньні ўсёй сырцовай базы, а ў вызначэньні процанту выхаду фанернай сыравіны ад агульнага запасу і процанту выхаду з гэтай сыравіны гатовай фанеры. Усяго ў хваёвых дрэвастанаў было ўзята 9 спробных плошчаў, галоўнейшыя вынікі дасьледваньня якіх падаюцца ў табліцы № 41.

У адзнаку ад ліставых парод фанерная сыравіна хвоі загатаўлялася толькі двух першых гатункаў, бо па нашай думцы, сукаватую хвою больш рацыянальна выкарыстаць на расьпілоўкі, чымся на загатоўку фанеры.

З табліцы відаць, што хвоя IV банітэту дае вельмі малы выхад фанернай драўніны, усяго каля 5% таму яе ня варта ўжываць на лушчэньне.

Сярэдні процант выхаду фанернай сыравіны ад агульнага запасу па ўзятых намі спробных плошчах для банітэту I, II, і III $= 33,6 \pm 3,1\%$.

Мы дапускаем, што з прычыны параўнальна-нязначнага процанту выхаду фанернай драўніны з III банітэту (каля 25%) і яго трэба пакінуць, як і IV банітэт, выключна для расьпілоўкі. Такім чынам, для загатоўкі фанернай сыравіны, па нашай думцы, належыць ўжываць толькі хвою $I^a$, I і II банітэтаў, з процантам выхаду фанернай драўніны ад агульнага запасу па часовых масавых табліцах у $38,3 \pm 2,6\%$. Процант выхаду фанернай драўніны ад запасу, вылічанага па мадэльных дрэвах вядома, меншы, з прычыны перамяншэньня запасу хвоі часовымі масавымі табліцамі, ён ровен 30,8%.

Арыэнтыровачнае ўяўленьне аб тым, якую колькасьць фанернай сыравіны з хвоі здолее атрымаць з гадовай лесасекі беларуская прамысловасьць, можна пачэрпнуць з наступнага разьліку:

Таблица № 41.

| Найменьне акругі<br>Наименование округов | Найменьне лясьніцтва<br>Наименование лесничества | Найменьне гаспадаркі<br>Наименование хозяйства | Склад дрэвастану спробы<br>Состав насаждения | Сярэдні ўзрост<br>Средний возраст | Сярэдняя вышыня<br>Средняя высота | Сярэдні дыямэтр<br>Средний диаметр | Паўната<br>Полнота | Банітэт<br>Бонитет | Плошча спробы ў гэкт.<br>Площадь пробы в гект. | Запас хвоі на спробе, вылічан. на рас. часов масавых таблiцах<br>Запас сосны на пробе, исчислен по рус. времен. массовым таб. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бабруйская<br>Бобруйский | Брыцаловіцкае<br>Брицалович. | Іглястая<br>Хвойное | 8С. 2Е. Ед. Д. Кл. Б.<br>Сяр. арытмэтычн.<br>Ср. арифметическ. | 118 | 31,4 | 40,9 | 0,9 | I | 0,25 | 97,94<br>97,94 |
| Менская<br>Минский | Стара-Барысаў.<br>Старо-Борисов. | „ | 9С. 1Б. Ед. 0С. | 111 | 24,4 | 29,1 | 0,4 | II | 1,42 | 179,28 |
| „ | „ | „ | 8С, 2Б. Ед. 0С. | 96 | 22,9 | 30,8 | 0,5 | „ | 1,38 | 149,74 |
| „ | „ | „ | 10С. Ед. Б | 93 | 22,8 | 33,0 | 0,5 | „ | 0,50 | 88,44 |
| „ | „ | „ | 10С. Ед. Б | 99 | 24,4 | 35,4 | 0,5 | „ | 0,50 | 92,63 |
| | | | **Сяр. арытмэтычн.<br>Ср. арифметическ.** | **96** | **23,6** | **32,1** | **0,5** | **II** | — | **510,09** |
| Менская<br>Минский | Барысаўскае<br>Борисовск. | „ | 10С. Е. Б. | 96 | 20,6 | 29,4 | 0,50 | III | 1,50 | 264,64 |
| „ | „ | „ | 10С. | 112 | 19,5 | 26,6 | 0,50 | „ | 0,50 | 60,05 |
| „ | „ | „ | 10С. | 101 | 20,0 | 31,8 | 0,60 | „ | 0,40 | 67,68 |
| | | | **Сяр. арытмэтычн.<br>Ср. арифметическ.** | **106** | **20,0** | **29,9** | **0,5** | **III** | — | **392,38** |
| Мазырская<br>Мозырский | Дарашэвіцкае<br>Дорошевич. | „ | 9С. 1Б,<br>**Сяр. арытмэтычн.<br>Ср. арифметическ.** | 101 | 17,6 | 24,7 | 0,6 | IV | 0,32 | 39,98<br>**39,98** |
| | Сяр.-арытмэтычн.<br>Ср.-арифметическ. | | Першых 2 банітэтаў (I і II)<br>Первых 2 бонитетов (I и II) | — | — | — | — | — | — | — |
| | | | Першых 3-х банітэтаў (I, II і III)<br>Первых 3-х бонит. (I, II и III): | **102** | **23,2** | **32,1** | **0,6** | **II,25** | — | — |
| | | | Усіх банітэтаў (I, II, III, і IV)<br>Всех бонитетов (I, II, III, и IV) | **102** | **22,8** | **31,3** | **0,6** | **II,44** | — | **104,39** |

Табліца № 41.

| Выхад фанернай сыравіны ў куб. мэтрах і % % ад запасу хвоі, вылічанага па рас. часовых масавых табліцах / Выход фанерного сырья в куб. мет. и % % от запаса сосны исчисленному по рус. времен. массовым таблицам | | | | | | | | | | Першых 3-х гатункаў / Первых 3-х сортов | | Сярэдні гатунак сыравін. Средний сорт сырья | Запас спробных плошчаў па мадэльн. дрэвах / Запас проби. площ. по модельн. дерев. | % выхаду ад запраўднага запасу / % выхода от истин. запас. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I-а | | II-в | | III-с | | IV-д | | Усяго / Всего | | | | | | Усіх гатункаў / Всех сортов | Першых трох / Первых трех |
| мт³ | % | мт³ | % | мт³ | % | мт³ | % | мт³ | % | мт³ | % | | | | |
| 29,705 | 30,4 | 4,557 | 4,6 | — | — | — | — | 34,262 | 35.0 | 34,262 | 35,0 | I,1 | 127,294 | 26,8 | 26,8 |
| | | | | | | | | | | | | | 127,294 | 26,8 | 26,8 |
| 72,915 | 40,7 | 5,372 | 3,0 | — | — | — | — | 78,287 | 43,7 | 78,287 | 43,7 | I,1 | 258,014 | 30,4 | 30,4 |
| 42,019 | 28,2 | 14,729 | 9,8 | — | — | — | — | 56,748 | 38,0 | 56,748 | 38,0 | I,3 | 198,120 | 28,6 | 28,6 |
| 25,270 | 28,5 | 1,787 | 2,1 | — | — | — | — | 27,057 | 30,6 | 27,057 | 30,6 | I,1 | 88,990 | 30,3 | 30,3 |
| 31,299 | 33,8 | 9,692 | 10,5 | — | — | — | — | 40,991 | 44,3 | 40,991 | 44,3 | I,2 | 107,639 | 37,7 | 37,7 |
| — | 32,8 | — | 6,3 | — | — | — | — | — | 39,1 | — | 39,1 | 1,2 | 652,763 | 31,7 | 31,7 |
| 49,794 | 18,9 | 25,884 | 9,8 | — | — | — | — | 75,678 | 28,7 | 75,678 | 28,7 | I,3 | 272,754 | 27,8 | 27,8 |
| 8,489 | 14,2 | 3,794 | 6,3 | — | — | — | — | 12,283 | 20,5 | 12,283 | 20,5 | I,3 | 71,377 | 17,2 | 17,2 |
| 13,122 | 19,4 | 5,643 | 8,3 | — | — | — | — | 18,765 | 27,7 | 18,765 | 27,7 | I,3 | 76,445 | 24,4 | 24,4 |
| — | 17,5 | — | 8,1 | — | — | — | — | — | 25,6 | — | 25,6 | 1,3 | 420,576 | 23,1 | 23,1 |
| — | — | 1,941 | 4,9 | — | — | — | — | 1,941 | 4,9 | 1,941 | 4,9 | II,9 | 45,366 | 4,3 | 4,3 |
| | | | | | | | | | | | | | 45,366 | 4,3 | 4,3 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | 38,3 | — | 38,3 | — | — | 30,8 | 30,8 |
| — | 26,8 | — | 6,8 | — | — | — | — | — | 33,6 | — | 33,6 | I,2 | — | 27,9 | 27,9 |
| — | 23,8 | — | 6,6 | — | — | — | — | — | 30,4 | — | 30,4 | 1,4 | [1]246,0 | 25,3 | 25,3 |

Усяго хваёвай драўніны на гадовай лесасецы (гл. табліцу № 7) у 1926-27 годзе 889 тысяч куб. мэтр., у 1928-29 годзе 849 тысяч куб.мэтр., у сярэднім 869 тысяч куб. мэтр. Паводле ўвядзеньня ў іглястай гаспадарцы новай каштарыснай лесасекі і адводу поўнай каштарыснай лесасекі ў астатніх гаспадарках, маса гэта павялічыцца прыкладам на 42%, і ў будучым можна спадзявацца на атрыманьне штогодна з лесасекі каля 1200 тысяч куб. мэтр. хваёвай драўніны. З гэтай колькасьці, згодна пяцігадовага пляну, каля 50 процантаў пойдзе на патрэбы мясцовага будаўніцтва, і толькі палова дастанецца прамысловасьці і транспарту Значыцца, ў прамысловую пераапрацоўку паступіць каля 600 тысяч куб мэтраў хвоі. Калі прыняць сярэдні банітэт хвоі ў БССР роўным II,5 то з гэтых 600 тысяч куб. мэтр. прыкладам 60% драўніны падае на II банітэт і вышэй, гэта значыць, 360 тысяч куб. мэтр. Дзеля таго, што 38% гэтай колькасьці прыгодна для фанернай сыравіны, то фанерная прамысловасьць можа атрымаць штогодна хваёвай драўніны ў колькасьці каля 137 тысяч куб. мэтр. Пэўна, адначасова з гэтым лесапільная прамысловасьць будзе траціць гэтакую-ж колькасьць піловачніку і пры тым лепшай якасьці.

Калі меркаваць па дадзеных нашых спробных плошчаў, каля 85% з гэтай колькасьці фанернай хваёвай сыравіны будзе першага гатунку і каля 15% другога гатунку; такім чынам сярэдні гатунак сыравіны будзе ровен I,15.

Разьмеркаваньне хваёвай сыравіны па разьмерах, на падставе ўзятых намі спробных плошчаў, відаць з наступнай табліцы № 42.

Таблица № 42. Табліца № 42.

| Даўжыня каржачкоў / Длина кряжиков | | Дыямэтры верхняга адрэзу ў сантымэтрах / Диаметры верхнего отруба в сантиметрах | | | | | | | | | | | Сярэдні дыямэтр / Средний диаметр | Процантны ўдзел каржакоў розный даўжыні ў агульнай масе / Процентное участие кряжей различн. длины в общей массе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 | | |
| | | У процентах / В процентах | | | | | | | | | | | | |
| 1,63 | Па кольк. шт. / По чис. шт. | 6,6 | 5,2 | 9,4 | 9,1 | 9,2 | 12,7 | 12,6 | 15,4 | 14,7 | 4,9 | 3,2 | 29,4 | 100% |
| | Па аб'ёму / По об'ему | 2,6 | 2,5 | 5,6 | 6,3 | 5,0 | 12,2 | 14,0 | 18,7 | 20,2 | 7,5 | 5,4 | 29,8 | |
| 1,35 | Па кольк. шт. / По чис. шт. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | Па аб'ёму / По об'ему | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| 0,80 | Па кольк. шт. / По чис. шт. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| | Па аб'ёму / По об'ему | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| Для ўсіх даўжынь разам / Для всех длин вместе | **Па кольк. шт. / По чис. шт.** | **6,6** | **5,2** | **9,4** | **9,1** | **9,2** | **12,7** | **12,6** | **15,4** | **14,7** | **4,9** | **3,1** | **29,4** | **100%** |
| | **Па аб'ёму / По об'ему** | **2,6** | **2,5** | **5,6** | **6,3** | **5,0** | **12,2** | **14,0** | **18,7** | **20,2** | **7,5** | **5,4** | **29,8** | |

Усе хваёвыя каржачкі ўзяты даўжынёю у 1,63 мэтра, бо з хвоі I і II гатунку няма сэнсу загатаўляць унутранага шпону, на які лёгка выкарыстаць горшую ліставую драўніну.

Графічныя дадзеныя табліцы № 42 абазначаюцца наступным чынам на рысунку № 6.

Дзеля вызначэньня процанту выхаду фанеры з сасновай сыравіны у залежнасьці ад разьмеру і якасьці сыравіны, дзеля ўстанаўленьня залежнасьці гатунку фанеры ад гатунку і разьмеру сыравіны і нарэшце, дзеля ўстанаўленьня колькасьці часу, патрэбнага на лушчэньне каржачкоў розных дыямэтраў, былі прапушчаны праз шэль-машыну 104 каржачкі, якія складаюць 12,463 куб. мэтр. Вымяраўся толькі час лушчэньня, астатнія працэсы не хрономэтраваліся, і працяжнасьць іх адзначалася згодна дадзеных для бярозы, бо дасьледваньне іншых пород паказала, што дрэўная парода ня ўплывае на час, патрэбны на гэтыя працэсы.

Некаторыя вынікі досьледу заводзкай апрацоўкі падаюцца ў наступнай табліцы № 43.

Таблица № 43. Табліца № 43.

| Гатунак сыравіны<br>Сорт сырья | Кольк. каржачкоў<br>Число кряжиков | Верхні дыямэтр каржачкоў / Верхний диаметр кряжиков: Ад—да<br>От—до | Сярэдн.<br>Средн. | Сяр. арытм. % выхаду<br>Сред. ариф. % выхода | Гатункі фанеры ў %% ад сыравіны / Сорта фанеры в %% от сырья: I | II | IIIa | IIIb | IV | V | Сярэдні агрэгат % выходу<br>Средн. аггрегат. % выхода | Сярэд. гатунак фанеры<br>Средний сорт фанеры | Час лушчэньня ў сэкундах<br>Время лущения в секундах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I . . . . | 68 | 19,5—42,7 | 29,0 | 50,3 | 7,7 | 9,2 | 6,5 | 10,4 | 9,3 | 8,8 | 51,9 | IIIa,59 | — |
| II . . . | 27 | 17,5—41,5 | 27,4 | 49,0 | — | 5,6 | 5,1 | 13,5 | 19,2 | 7,2 | 50,6 | IIIb,34 | — |
| III . . . | 5 | 24,4—34,5 | 28,8 | 50,0 | — | — | 3,4 | 0,7 | 42,0 | 4,7 | 50,8 | IIIb,91 | — |
| IV . . . | 4 | 26,5—37,2 | 31,7 | 47,0 | — | — | 2,0 | — | 39,2 | 6,6 | 47,8 | IV,05 | — |
| Усяго .<br>Итого . | 104 | 17,5—42,7 | 28,7 | 49,9 | 5,2 | 7,6 | 5,8 | 10,3 | 14,3 | 8,1 | 51,3 | IIIa,88 | 206,4 |

Процант выхаду гатовай фанеры сыравіны вызначаецца разьмерам каржачка. Каэфіцыэнт корэляцыі між (ρ), процантам выхаду і (d) верхнім дыямэтрам каржачка $0{,}569 \pm 0{,}066$. Корэляцыйныя адносіны па формуле *Пірсона* між гэткімі дзьвюма велічынямі раўняюцца $0{,}652 \pm 0{,}056$, некалькі больш каэфіцыэнту корэляцыі, аднак, розьніца ў межах сярэдзіннай памылкі.

Просталінейнае раўнаньне рэгрэсіі між паказанымі велічынямі мае выгляд: $\rho = 27{,}41 + 0{,}789d$, а крывалінейнае: $\rho = 23{,}72 + 104{,}d — — 0{,}00435d^2$. Гл. рысунак № 7.

Як відаць з ысунку, розьніца між велічынямі ρ, атрыманымі з гэтых раўнаньняў, вельмі невялікая, а таму ў далейшым будзем карыстацца больш простым раўнаньнем простай лініі. Дапусьціць, што сувязь між ρ і d для хвоі просталінейная, можна было на падставе біалёгічных уласьцівасьцяй гэтай пароды. На самай справе, ў той час, як у бярозы

і ў асаблівасьці ў асіны разам з узростам павялічваецца ня толькі таўшчыня, але і фаўтнасьць, якая зьніжае процант выхаду, у адносна доўгавечнай хвоі фаўтнасьць выяўляецца звычайна толькі ў вельмі позьнім узросьце, а таму з павялічэньнем дыямэтру процант выхаду будзе расьці вельмі доўга.

Між гатункам сыравіны (S) і процантам выхаду фанеры няма верагоднай сувязі, каэфіцыэнт корэляцыі раўняецца—0,119 ± 0,097. Такім чынам зусім пэўная сувязь у проценту выхаду фанеру існуе толькі з дыямэтрамі каржачкоў. У табліцы № 44 падаюцца процанты выхаду фанеры, вылічаныя па раунаньню просталінейнай рэгрэсіі для каржачкоў розных дыямэтраў.

Таблица № 44. Табліца № 44.

| d | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| p | 42,4 | 44,0 | 45,6 | 47,1 | 48,7 | 50,3 | 51,9 | 53,5 | 55,0 | 56,6 | 58,2 |

Калі ведаць процант выхаду фанеры з сыравіны розных разьмераў і разьмеркаваньне сыравіны па разьмерах з табліцы № 42, можна вылічыць сярэдні процант выхаду гатовай фанеры з ўсёй сыравіны, пры сярэднім дыямэтры яе ў 29,8 сантымэтраў. Процант гэты раўняецца 52, значыцца, пры наяўнасьці фанернай хваёвай сыравіны з папярэдняга арыэнтыровачнага разьліку ў 137 тысяч куб. мэтр., гатовай хваёвай фанеры можна атрымаць 71 тысячу куб. мэтраў. З табліцы № 43 відаць, што сярэдні гатунак фанеры зьніжаецца разам са зьніжэньнем гатунку сыравіны, цесната гэтай сувязі характарызуецца каэфіцыэнтам корэляцыі 0,443 ± 0,079. Разьмер сыравіны на гатунак фанеры ня робіць уплыву, каэфіцыэнт корэляцыі між гэтымі велічынямі ровен 0,049 ± 0,098.

Такім чынам аб гатунку фанеры (s) можна разважаць толькі па гатунку сыравіны.

Раўнаньне рэгрэсіі між гэтымі велічынямі мае наступны выгляд:

$$s = III^{a},\ 13 + 0{,}548S$$

Пры дапамозе гэтага раўнаньня можна вылічыць, што сярэдні гатунак хваёвай фанеры ў БССР, пры наяўнасьці сярэдняга гатунку сыравіны I,15 будзе IIIᵃ ,76.

Згодна дадзеных хрономэтраваньня працэсу лушчэньня, можна ўстанавіць сувязь між часам лушчэньня (t) і дыямэтрам каржачка (d). Цесната гэтай сувязі характарызуецца каэфіцыэнтам корэляцыі 0,682 ± 0,052 а раўнаньне рэгрэсіі для вызначэньня t па d мае выгляд: $t = -47{,}88 + 8{,}86d$. У наступнай табліцы № 45 падаецца час у сэкундах, патрэбны для працэсу апрацоўкі ў шэль-машыне каржакоў розных дыямэтраў, прычым час лушчэньня вызначана па раўнаньню рэгрэсіі, а час, патрэбны на падкатку, устаноўку машыны, пуск машыны і выкіданьне алоўка, узят сярэдні для бярозавых каржакоў (гл. табл. 45).

Для апрацоўкі каржачка сярэдняга разьмеру ў 29,8 см патрабуецца 241 сэкунда.

Калі ведаць аб'ём каржачкоў з табліцы №№ 44 і 45, процант выхаду гатовай фанеры і час, патрэбны на пераапрацоўку каржачкоў, можна вылічыць колькасьць часу, неабходнага для заготоўкі аднаго куб. мэтру фанеры з сыравіны розных дыямэтраў. Дадзеныя гэтыя падаюцца ў табліцы № 46.

Таблица № 45. Табліца № 45.

| Найменьне працэсаў / Наименование процессов | Дыямэтры ў сантымэтрах / Диаметры в сантиметрах | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 |
| Лушчэньне . . . / Лущение | 120,5 | 138,2 | 155,9 | 173,6 | 191,3 | 209,1 | 226,8 | 244,5 | 262,2 | 279,9 | 297,7 |
| Іншыя працэсы . / Прочие процессы | 24,8 | 24,8 | 24,8 | 24,8 | 24,8 | 24,8 | 24,8 | 24,8 | 24,8 | 24,8 | 24,8 |
| Усяго . . . . / Итого | **145** | **163** | **181** | **198** | **216** | **234** | **251** | **269** | **287** | **305** | **332** |

Дзеля вырабкі аднага куб. мэтру фанеры з каржаку сярэдняга разьмеру ў 29,8 сантымэтру патрабуецца 59 мінут 25 сэкунд.

Таблица № 46. Табліца № 46.

| | З каржачкоў пры дыямэтры ў сантымэтрах / Из кряжиков при диаметре в сантиметрах | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 19 | 21 | 23 | 25 | 27 | 29 | 31 | 33 | 35 | 37 | 39 |
| На вырабку 1 куб. мэтру фанеры патрабуецца / На изготовление 1 куб. метра фанеры требуется | 1 ч. 52 м. 11 сек. | 1 ч. 37 м. 59 с. | 1 ч. 25 м. 49 с. | 1 ч. 16 м. 15 с. | 1 ч. 8 м. 27 с. | 1 ч. 1 м. 30 с. | 56 мин. 31 сек. | 51 мин. 49 сек. | 47 мин. 29 сек. | 43 мин. 59 сек. | 41 мин. 03 сек. |

## VIII.

У адміністрацыйным дачыненьні ў БССР усе лясы агульна-дзяржаўнага значэньня падзяляюцца на 194 лясьніцтвы[1]), пры чым граніцы лясьніцтваў звычайна не пераходзяць граніц адміністрацыйных раёнаў.

Згодна пастановы Саўнаркому Беларусі, для загатоўкі лесу дапускаюцца толькі два асноўных лесазагатоўшчыкі: Лесбел і органы НКШЗ, пры чым НКШЗ атрымлівае лесасекі ў нязначнай колькасьці лясьніцтваў (33). Кіраўніцтва лясамі вядзе лесазагатоўкі толькі ў парадку ўтварэньня спосабаў дагляду за лесам (прачысткі, зрэджваньні і праходныя высечкі). Нарыхтаваная пры даглядзе за лесам драўніна перадаецца на месцы ў лесе асноўным лесазагатоўшчыкам.

Апрача апошніх, атрымлівае лес на корані толькі мясцовае сялянскае насельніцтва. Аднак, і гэтай групе спажыўцоў па пастанове адпаведных раённых альбо акруговых выканаўчых камітэтаў лес можа адпускацца не на корані, а ў нарыхтаваным выглядзе памянёнымі асноўнымі лесазагатоўшчыкамі.

Лесасекі разьмяркоўваюцца штогодна між лесазагатоўшчыкамі Цэнтральнымі і Акруговымі лесасечнымі камісіямі; першыя намячаюць па

[1]) За апошні час, дзякуючы ўзбуйненьню лясьніцтваў Віцебскай акругі, лік іх скараціўся да 185.

акругах кантрольныя лічбы, а другія на падставе гэтых кантрольных лічбаў разьмяркоўваюць між арганізацыямі лясьніцтва.

Умовы транспарту драўніны з лясоў БССР наогул спрыяючыя. Апрача чыгунак, лясы Беларусі прарэзваюцца густой сеткай рэчак і каналаў, якія цякуць у рэкі Дняпро, Заходнюю Дзьвіну і Нёман. Стан сплаўных і выплавачных рэк і каналаў наогул добрабытны. Грузапад'ёмнасьць іх зусім здавальняючая, і можна сказаць, што яшчэ ня бывала выпадку, каб колькі-небудзь значная колькасьць драўніны затрымлівалася з прычыны слабай прапускной здольнасьці рэк. Нават ў пэрыяд распрацоўкі буйных земфондаў, калі ў адным месцы згрупоўвалася вялікая колькасьць драўніны, якая прытым належыць розным лесазагатоўкам, усю яе ўдавалася сплавіць на працягу аднаго сэзону. Сплаў у БССР пераважае плытавы, па малых рэчках невялікімі плытамі—двохрадковікамі, якія аб'яднаюцца пры выхадзе на вялікую раку. Малявы сплаў мала разьвіты. На баржах па вялікіх рэках перавозяцца толькі дровы і дубовыя лесаматар'ялы, а за апошні час і дошкі. Сплаў бярозы і дубу адбываецца ў плытох, у якіх разам з гэтымі пародамі сплаўляюцца больш лёгкія, як елка, хвоя, асіна і інш.

Да сплаўных шляхоў і чыгунак драўніна падвозіцца пераважна ўзімку гужом. Сярэдняя адлегласьць гужовай возкі каля 8 кілёмэтраў, хоць у асобных выпадках мае месца вывазка, напрыклад, дубовай драўніны і на адлегласьць 35 кілёмэтраў. Гуж і рабсілы маецца зусім выстарчальная колькасьць; у досьледзе мясцовых лесазагатоўцаў ня бывала выпадкаў затрымкі лесазагатовак, вывазкі і сплаву з за недахвату падвод і рабочых. Забясьпечанасьць лясных апэрацый раб-і гуж-сілай пацьвярджаецца і агульнымі меркаваньнямі, а менавіта: шчыльнасьць насельніцтва БССР, каля 40 чалавек на адзін кв. кілёмэтр падае толькі ў самай слаба-населенай Мазырскай акрузе да 15; процант насельніцтва, занятага сельскай гаспадаркай, звыш 91%. Такім чынам сярэдняя шчыльнасьць насельніцтва перавышае мінімальную норму праф. *Арлова*[1]) для лясістых мясцовасьцяй—у 4-ры разы, процант жа сельскага насельніцтва, якое зьяўляецца галоўным пастаўшчыком рабочых і возьнікаў, большы, чымся ў іншых мясцох СССР. Дзякуючы збытку добрых шляхоў зносін і параўнальна густому насельніцтву, на Беларусі выкарыстоўваецца ўся без выключэньня таварная і будоўная драўніна, а збыт дроў трудны толькі з параўнальна нязначнай колькасьці лясьніцтваў. Галоўнейшымі ўнутранымі рынкамі для збыту драўніны зьяўляюцца сама Беларусь (36,3%) Украіна (49,5%) і буйныя гарады РСФСР. За-межы драўніна з БССР ідзе больш за ўсё ў Нямеччыну, часткова ў Ангельшчыну, а альховая фанера дходзіць нават да Паўднёвай Амэрыкі.

З агульнай колькасьці драўніны, якая адпушчана Лесбелам у 1928-1929 годзе, згодна статыстычных дадзеных на суму 47.040.180 рублёў, на долю экспарту падае 4,465,364 рублі, г. зн. 9,5%, у тым ліку больш, чымся на мільён рублёў альховай фанеры.

З боку ўсіх спажыўцоў, акрамя лясной прамысловасьці, попыт прад'яўляецца больш за ўсё на іглястую будоўную драўніну. Сельскае і гарадзкое насельніцтва і Дзяржустановы патрабуюць амаль выключна іглястую будоўную драўніну і дровы. Таварная драўніна цьвёрдых ліставых парод закупляецца прамысловасьцю дзеля рэалізацыі на ўнутраным, альбо замежным рынку ў круглым выглядзе, альбо ў выглядзе шчэпных вырабаў і чыгункамі дзеля ўласных патрэб. Альховая таварная

[1]) Проф. Орлов. „Лесоустройство" т. II. стр. 17.

2 пўнкта на 1 гэктар з вучотам асаблівасьцяй рэльефу. Склад, узрост і паўната дрэвастану ня ўлічваліся і амаль што зусім не адзначаны. 3) Пры параўнаньні дадзеных В. В. Мяцельскага з іншымі дадзенымі, паводле гэтых двух прычын іх можна лічыць толькі арыентыровачнымі хоць яны больш—меньш супадаюць з дадзенымі па Горацкай дачы.

Больш дакладныя з лесагадоўчага боку і больш падрабязныя дасьледы аб кісласьці лясных глеб былі зроблены Пададдзелам Лесазнаўства, Догляду і Рубак Аддзелу Лясной Гаспадаркі БНДІ ўлетку 1928 г. пад кіраўніцтвам праф. С. П. Мельніка на тэрыторыі Горацкага Дасьледчага Лясьніцтва Аршанскай Акругі і Вяляціцкай Раённай Лясной Дасьледчай Станцыі Барысаўскага раёну Менскай акругі.

Для вызначэньня ρH глеба бралася ў прыродных умовах увільгатненьня, па паасобных глебавых паземах.

Вызначэньне ρH вытваралася ў водных суспэнзыях 1 : 2,5 пры дапамозе ацыдымэтру Транэля і часткаю (для кантролю) калёрымэтру Bjerrum Arrhenius.

Праца ў Горацкім Льсьніцтве пачалася ў траўні і была скончана ў лістападзе 1928 г. Падзяляецца на наступныя часткі:

1) Арыентыровачна-экскурсійнае вызначэньне ρH паверхавых глебавых паземаў у галоўных тыпах дрэвастанаў у межах усей Горацкай Дасьледчай Лясной Дачы.

2) Больш падрабязнае вывучэньне ρH глебы ў кв. 44 Горацкай Дачы. На тэрыторыі гэтага кварталу сустракаецца 8 тыпаў дрэвастанаў, вельмі характэрных для Горацкай Дачы і наогул для ўсіх яловых лясоў паўночнай часткі БССР. У межах кварталу была вызначана ρH для 180 паасобных пунктаў з мэтаю: а) складаньня дакладнай карты ρH глебы кварталу паасобна для паземаў $A^0$ $A_1$ $A_2$; б) вывучэньня залежнасьці велічыні ρH ад глебы, рэльефу, ступені ўвільгатненьня глебы, паўнаты, узросту і складу дрэвастану; в) вывучэньня залежнасьці ад ρH банітэту дрэвастану, відавога складу жывога глебавага акрыцьця.

3) Спэцыяльныя пэрыядычныя вызначэньні ρH глебы ў 24 пунктах для вывучэньня хістаньня ρH у залежнасьці ад пары году. Гэтыя дасьледы пачаліся 15/V і былі скончаны 10/XI.

4) Спэцыяльнае вызначэньне ρH глебы па генэтычных паземах на глыбіню да 2 мэтраў (у 24 пунктах).

5) Спэцыяльныя параўнальныя вызначэньні ρH глебы пад полагам дрэвастану і на дзелянках суцэльнай высечкі для вывучэньня ўплыву суцэльных лесасек на ρH паверхавых паземаў глебы. Папярэднія вынікі зьмешчаны ў наступных табліцах (гл. стар. 190 і 191).

З табл. II і з складзеных карт кісласьці глебы ў кв. 44 для кожнага з трох паверхавых паземаў відаць, што: 1) найбольш кіслым з гэтых паземаў у мінэральных глебах зьяўляецца пазем $A_2$ (падзолісты, а ў тарфяніках—ачос, 2) макра-і мікрарэльеф маюць найбольшы ўплыў на ρH пазему $A_0$. Уплыў рэльефу на ρH глебы ў больш глыбокіх паземах рэзка і значна памяншаецца.

Уплыў паўнаты і складу дрэвастану на ρH паверхавых паземаў глебы відаць з табліц на стар. 192.

Асінавае лісьцё па Hesselman'у мае ρH = 6,1, па В. Гулісашвілі (Ленінград)—6,5; іглы елкі маюць ρH па Hesselman'у 4,0, па Гулісашвілі 3,7.

Павялічэньне кісласьці падсьцілкі з павялічэньнем асінавага лісьця тлумачыцца тым, што шчытнае і цяжкае лісьце асіны прыводзіць да стварэньня грубага кіслага гумусу, пагаршаючы фізычныя ўласьцівасьці глебы, хоць само лісьцё мае высокае ρH.

Табліца 1.

**Кісласьць паверхавых паземаў лясных глеб у галоўных тыпах дрэвастанаў Горацкай Дасьледчай Лясной Дачы**

| № | Тып дрэвастану | Склад дрэваст. | Банітэт | Паэем | Глыбіня см. | pH Хістаньні | pH Сярэдні | Адзнака |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Рамень грудавая | 7 Кл. 2 Яс 1 Е | I | $A_0$ | 0—4 | 5,5—6,9 | 6,0 | 90—100 г. 0,8 |
| | | | | $A_1$ | 4—12 | 5,3—6,7 | 5,8 | |
| | | | | $A_2$ | 12—16 | 1,6—5,0 | 4,8 | |
| 2 | Рамень сьвежая | 9 Е 1 Кл. адда. Д | Ia—I | $A_0$ | 0—3 | 5,5—6,7 | 5,8 | 90—100 г. 0,8 |
| | | | | $A_1$ | 3—8 | 5,0—6,2 | 5,6 | |
| | | | | $A_2$ | 8—16 | 4,3—5,0 | 4,7 | |
| 3 | Рамень вільготная | 9Е 1 Ас адда. Кл. | I—II | $A_0$ | 0—2 | 5,0—6,0 | 5,5 | 90—100 г. 0,8 |
| | | | | $A_1$ | 2—8 | 4,5—5,5 | 4,9 | |
| | | | | $A_2$ | 8—16 | 4,0—5,0 | 4,5 | |
| 4 | Рамень сырая | 6 Е 4 Ас адда. Б | II—III | $A_0$ | 0—1 | 4,4—5,2 | 4,8 | 90—100 г. 0,8 |
| | | | | $A_1$ | 1—6 | 4,0—4,8 | 4,5 | |
| | | | | $A_2$ | 6—16 | 3,9—4,6 | 4,4 | |
| 5 | Вольс бяз стоку | 8 Ал 2 Е адда. Б | III | $A_0$ | 0—2 | 4,2—5,0 | 4,6 | 90—100 г. 0,8 |
| | | | | $A_1$ | 2—5 | 4,1—4,7 | 4,5 | |
| | | | | $A_2$ | 5—12 | 4,1—4,9 | 4,6 | |
| 6 | Вольс са стокам | 10 Ал адда. Е Яс | I—II | $A_0$ | 0—5 | 5,3—6,1 | 5,8 | 90—100 г 0,8 |
| | | | | торф | 5—20 | 5,8—6,5 | 6,5 | |
| | | | | торф | 20—40 | 6,0—6,9 | 6,5 | |
| 7 | Сумшара | 8 Б 2 С | III | ачос | 20—30 | 4,0—4,9 | 4,6 | 30—40 г. 0,7 |
| | | | | торф | 30—50 | 4,0—4,9 | 4,7 | |
| | | | | глей | 50—70 | 3,5—4,6 | 4,1 | |
| 8 | Мшара | 9 С 1 Б | IV | ачос | 20—30 | 3,5—3,9 | 3,7 | 30—40 г. 0,7 |
| | | | | торф | 30—50 | 3,5—4,0 | 3,8 | |
| | | | | торф | 50—70 | 3,8—4,7 | 4,5 | |
| 9 | Мшара-багун | 10 С | IV | ачос | 20—30 | 3,1—4,0 | 3,5 | 30—40 г. 0,7 |
| | | | | торф | 30—50 | 3,1—4,1 | 3,6 | |
| | | | | торф | 50—70 | 3,6—5,0 | 4,7 | |

Табліца 2.

Кісласьць паверхавых паземаў глебы ў квартале № 44 Горацкай Лясной Дасьледчай Дачы

| № | Тып дрэвастану | Тып глебы | Глебавы пазем | Лік выпадкаў, калі кісласьць адпаведнага пазему вызначалася велічынёй pH: Надзвыч. кіслая 3,0—3,4 | Вельмі кіслая 3,5—3,9 | Вельмі кіслая 4,0—4,4 | Кіслая 4,5—4,9 | Кіслая 5,0—5,4 | Слаба кіслая 5,5—5,9 | Слаба кіслая 6,0—6,4 | Найтральн. 6,5—6,9 | Сума Σ | Сярэдняе pH |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | Рамень сьвежая | Падзолістая, з нармальным увільгатненьнем лёэсападобны суглінак на марэне | $A_0$ | — | — | — | 3 | 10 | 14 | 8 | 2 | 37 | 5,6 |
| | | | $A_1$ | — | — | 3 | 14 | 13 | 5 | 2 | — | 37 | 5,1 |
| | | | $A_2$ | — | 2 | 22 | 10 | 3 | - | — | — | 37 | 4,4 |
| II | Рамень вільготная A | Падзолістая з часовым збыткавым увільгатненьнем, лёэсападобны суглін. на марэне | $A_0$ | — | 1 | 6 | 7 | 9 | 3 | 2 | — | 28 | 5,0 |
| | | | $A_1$ | — | 1 | 11 | 10 | 3 | 3 | — | — | 28 | 4,6 |
| | | | $A_2$ | — | 4 | 21 | 3 | — | — | — | — | 28 | 4,2 |
| III | Рамень вільготная B | Падзолістая са сталым збыткав. увільгатненьнем лёэсападобны суглін. на марэне | $A_0$ | — | 2 | 8 | 12 | 3 | 1 | — | — | 26 | 4,6 |
| | | | $A_1$ | — | 6 | 13 | 6 | 1 | — | — | — | 26 | 4,2 |
| | | | $A_2$ | — | 4 | 19 | 3 | — | — | — | — | 26 | 4,2 |
| IV | Рамень сырая | Падзоліста-балоцістая, лёэсападобны суглінак на марэне | $A_0$ | — | — | 6 | 7 | 1 | — | — | — | 14 | 4,4 |
| | | | $A_1$ | — | 5 | 7 | 2 | — | — | — | — | 14 | 4,1 |
| | | | $A_2$ | — | 7 | 5 | 2 | — | — | — | — | 14 | 4,1 |
| V | Сумшара A | Тарфяна-глеевая на марэне | Ачос | — | — | 10 | — | — | — | — | — | 10 | 4,2 |
| | | | Торф | — | 2 | 8 | — | — | — | — | — | 10 | 4,1 |
| | | | Глей | — | 2 | 5 | 3 | — | — | — | — | 10 | 4,3 |
| VI | Сумшара B | Тарфянік глыб. да 50 см | Ачос | — | 1 | 3 | 1 | — | — | — | — | 5 | 4,2 |
| | | | Торф | — | 4 | 1 | . . | — | — | — | — | 5 | 4,2 |
| | | | Торф | — | 1 | 4 | — | — | — | — | — | 5 | 4,1 |
| VII | Мшара A | Тарфянік глыбінёю ад 50 да 100 см | Ачос | 5 | 9 | 4 | — | — | — | — | — | 18 | 3,6 |
| | | | Торф | 1 | 4 | 10 | 3 | — | — | — | — | 18 | 4,1 |
| | | | Торф | — | 4 | 13 | 1 | — | — | — | — | 18 | 4,1 |
| VIII | Мшара B | Тарфянік глыбінёю ад 100 да 200 см | Ачос | 2 | 4 | — | — | — | — | — | — | 6 | 3,5 |
| | | | Торф | — | 2 | 2 | 2 | — | — | — | — | 6 | 4,1 |
| | | | Торф | — | 2 | 2 | 2 | — | — | — | — | 6 | 4,2 |

З табл. I i II відаць, што з павялічэньнем ступені ўвільгатненьня глебы, павялічваецца яе кісласьць, (напр. pH глебы ў сьвежай рамені значна большае, чым ў сырой рамені), што тлумачыцца горшай аэрацыяй глебы.

Табліца 3.

Уплыў паўнаты дрэвастану на pH глебы (сярэднія з 5-ці кратнай паўторнасьці)

| Паўната | | 0,9 | 0,7 | 0,5 | 0,2 | Дзялянка суцэльнай высечкі | Дрэвастан |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Паземы і pH | $A^{\circ}$ | 4,3 | 5,0 | 5,2 | 5,6 | 5,0 | 10 E (80—100 г.) |
| | $A_1$ | 4,2 | 4,6 | 4,7 | 4,9 | 4,8 | тып—вільготная |
| | $A_2$ | 4,0 | 4,2 | 4,3 | 4,2 | 4,3 | рамень |

Табліца 4.

Уплыў складу дрэвастану на pH глебы (сярэднія з 5-ці кратнай паўторнасьці)

| Склад дрэвастану | | 10 E | 8 E 2 Ac | 6 E 4 Ac | 4 E 6 Ac | Дрэвастан |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пазем і pH | $A_0$ | 4,5 | 5,1 | 4,7 | 4,6 | E (80—100 г.) |
| | $A_1$ | 4,3 | 4,7 | 4,4 | 4,2 | паўн. 0,7, тып |
| | $A_2$ | 4,2 | 4,2 | 4,1 | 4,2 | вільготн. рамень |

Вывучэньне жывога глебавага акрыцьця паказала, што думкі Olsen'a i Aaltonen'a аб суадносінах паміж pH глебы і відавым складам расьлінасьці справідловы і ў нашых умовах.

Для кв. 44 Горацкай Дачы здалося мажлівым скласьці наступную таблічку: (Гл. табл. 5 на стар. 193).

Каб разважаць аб уплыве pH глебы на банітэт дрэвастану, сабраных дадзеных яшчэ мала, але-ж, мабыць, кісласьць глебы простага ўплыву на банітэт дрэвастану ня мае. Тут першую ролю граюць фізычныя якасьці глебы, рэльеф, ступень ураджайнасьці і ўвільгатненьня.

Пэрыядычнае вызначэньне кісласьці глебы паказвае. што pH глебы зьмяняецца роўналежна інтэнсыўнасьці жыцьцядзейнасьці мікрафлёры і мікрафаўны паверхавых глебавых паземаў. Пачынаючы з вясны, pH глебы павялічваецца, максымум наглядаецца ў канцы жніўня. Пад восень дзейнасьць мікраарганізмаў паслабляецца, намнажаецца колькасьць кіслых прадуктаў распаду, і pH глебы рэзка зьніжаецца.

Вывучэньне кісласьці глебавых паземаў на глыбіню да 2 мэтраў паказала, што ў мінэральных глебах самым кіслым зьяўляецца пазем падзолаўтварэньня ($A_2$).

У тарфяніках pH глебы з глыбінёю павялічваецца.

Сярэднія дадзеныя паказаны ў табл. 6 на стар. 194.

Табліца 5.

**Распаўсюджанасьць некаторых відаў глебавага акрыцьця ў залежнасьці ад pH глебы (паземы $A_0$—$A_1$)**

| Від | Сустракаецца пры pH глебы | Від |
|---|---|---|
| Menyanthes trifoliata | 3,0—4,6 | Бабоўнік |
| Eriophorum vaginatum | 3,0—4,8 | Пушыца |
| Sphagnum | 3,0—5,0 | Сфагнум |
| Carex | 3,0—6,2 | Асокі |
| Polytrichum commune | 3,2—5,0 | Зязюлькін лён |
| Vaccinium oxicoccos | 3,4—4,6 | Журавіны |
| Vaccinium Myrtillus | 3,4—4,8 | Чарніцы |
| Hylocomium | 3,4—5,2 | Гілокомі |
| Oxalis acetosella | 3,4—6,0 | Кісьлічка |
| Phegopteris Dryopteris | 3,4—6,0 | Папараць-трайчатка |
| Pteris aquilina | 3,4—6,2 | Папараць-арляк |
| Majanthemum bifolium | 3,4—6.2 | Майнік |
| Vaccinium vitis idaea | 3,8—4,6 | Брусьнічнік |
| Phragmites communis | 3,8—4,8 | Чарот |
| Equisetum silvaticum | 3,8—5,8 | Лясны хвошч |
| Filipendula-Ulmaria | 3,8—6,2 | Папоўнік, тавалга |
| Melampyrum-nemorosum | 3,8—6,2 | Брацец-сястрыца |
| Rubus saxatilix | 3,8—6,2 | Касьцяніка |
| Pulmonaria officinalis | 3,8—6,6 | Мядуніца |
| Gramineae | 3,8—6,6 | Збожжа |
| Aegopodium Podagraria | 3,8—6,6 | Сьнітка |
| Epilobium Angustifolium | 4,0—5,8 | Іван-Чай |
| Stellaria Holostea | 4,0—6,2 | Зорачка лясная |
| Pirola rotundifolia | 4,0—6,2 | Грушніца |
| Fragaria vesca | 4,0—6,6 | Суніцы |
| Asarum europaeum | 4,5—6,2 | Капыцень |
| Rubus idaeus | 4,8—6,2 | Маліна |

Пры параўнальным вывучэньні кісласьці глебы пад полагам яловых дрэвастанаў і на зьдзірванелых неадноўленых лесасеках суцэльнай высечкі выявілася, што pH паверхавых паземаў на лесасеках значна вышэй, чым у глебах пад полагам дрэвастанаў.

Табліца 6.

Кісласьць глебы ў тыповых глебавых разрэзах, узятых у кв. 44. Горацкай Лясной Дачы

| Тып лесу / Пазем | Сьвежая рамень | Вільготн. рамень А | Вільготн. рамень В | Сырая рамень | Тып / Пазем | Сумшара А | Сумшара В | Тып / Пазем | Мшара А | Мшара В |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| $A_0$ | 5,6 | 5,0 | 4,9 | 4,7 | Ачос | 4,6 | 4,2 | Ачос | 3,8 | 3,7 |
| $A_1$ | 5,3 | 4,6 | 4,5 | 4,4 | Торф | 4,4 | 4,5 | Торф | 4,1 | 4,1 |
| $A_2$ | 5,1 | 4,4 | 4,3 | 4,2 | Торф | — | 4,3 | Торф | 4,4 | 4,4 |
| $B_1$ | 5,2 | 4,8 | 4,7 | 4,6 | Глей | 4,5 | 4,6 | Торф | 4,7 | 5,1 |
| $B_2$ | 5,8 | 5,1 | 4,8 | 4,8 | Глей | — | 4,8 | Торф | — | 5,2 |
| $B_3$ | 6,1 | 5,1 | 5,0 | 5,2 | Пясок | 5,3 | — | Глей | 5,1 | — |
| Пясок | — | — | 5,8 | — | Марэна | 5,4 | 5,2 | Глей | — | 5,3 |
| Марэна (150 см) | 6,4 | 5,8 | 5,4 | 5,3 | Марэна | 5,7 | 5,7 | Марэна | 5,2 | 5,5 |
| Марэна (200 см) | 6,4 | 5,9 | 5,5 | 5,7 | Марэна | 5,7 | 5,8 | Марэна | 5,5 | 5,6 |

Для пазему $A_0$ кісласьць глебы на лесасецы ў 58% выпадкаў была меншая, чым пад полагам дрэвастану, ў 32% выпадкаў раўнялася ёй і ў 12% выпадкаў была большая.

Для пазему $A_1$ маем: 42% выпадкаў з меншай кісласьці на лесасецы, 48% выпадкаў з аднолькавай кісласьцю і 10% з большай кісласьцю.

Для пазему $A_2$—12% выпадкаў з меншай кісласьцю на лесасецы, 78% з аднолькавым значэньнем pH і 10% выпадкаў з меншым значаньнем pH.

Вывучэньне ўплыву мікрарэльефу ў лесе і на лесасеках паказала, што па дадатных элемэнтах рэльефу (купінкі, старое згніўшае пянёўе і г. д.), мы маем павялічэньне pH, г. зн. зьмяньшэньне кісласьці, а па адмоўных—ў западзінках, мачавінках—рэзкае падвышэньне кісласьці глебы і падзеньне pH.

Рыхленьне (паверхавае) глебы на лесасеках ў 85% выпадкаў значна падвышала pH пазему $A_0$ і $A_1$.

Параўнаньне вынікаў абсьледваньня кісласьці глебы ў Горацкай дачы з дадзенымі аб кісласьці глеб яловых дрэвастанаў, якія маюцца як у расейскай (Глінка, Гулісашвілі), так асабліва ў нямецкай, швэдзкай і фінскай літаратурах (Hesselmann, Wiedemann, Nemec et Kvapil, Aaltonen, Feher) паказвае, што нашы ельнікі больш падыходзяць паводле біалёгічных якасьцяй сваей глебы да ельнікаў пайднёвай Швэцыі, чым Нямеччыны, і некалькі адрозьніваюцца да ельнікаў з ваколіцы Ленінграду ў бок меншай кісласьці паверхавых паземаў, што можна тлумачыць агульнымі кліматычнымі ўмовамі і паасобку больш спрыяючым тэмпэратурным рэжымам.

Пэрыядычнае прарэджваньне дрэвастанаў для выстарчальнага асьвятленьня глебы, дамешка лісьцяных парод — Бярозы, Асіны і Вольхі і паступовае натуральнае лесааднаўленьне—вось тыя мерапрыемствы лесагаспадарчага характару, якія здолеюць палепшыць біялёгічныя ўласьцівасьці глеб нашых яловых лясоў.

У тым самым годзе досьледы па вывучэньню кісласьці глебы былі перанесены ў дасьледчыя кварталы Вяляціцкай Лясной Дачы Барысаўскага раёну Менскай акругі. У гэтых кварталах праца вялася ў двух напрамках:

1. Экскурсійным мэтадам была абсьледвана кісласьць глеб на тэрыторыі ўсіх дасьледчых і некаторых сумежных з імі кварталаў.

2. Больш падрабязна была вывучана кісласьць глеб кв. № 48 Вяляціцкай дачы.

Па першаму пункту былі атрыманы дадзеныя, якія зьмешчаны. (гл. таб. 7 на стар. 196).

Больш падрабязнае вывучэньне кісласьці глеб ў кв. 48 Вяляціцкай дачы дало магчымасьць скласьці карты pH глебы для кожнага з трох паверхавых глебавых паземаў ($A_0$ $A_1$ і $A_2$). Квартал гэты быў выбраны з тэй прычыны, што на яго тэрыторыі сустракаецца 8 тыпаў дрэвастанаў і чыстае балота.

Пададзем агульную табліцу кісласьці глеб у гэтым квартале. (гл. таб. 8 на стар. 197)

З табліц VII і VIII відаць, што самым кіслым паземам у баравых і субаравых тыпах Вяляціцкай Раённай Лясной Дасьледчай Станцыі зьяўляецца перагнойны пазем $A_1$.

Уплыў рэльефу на pH глебы ў сувязі з больш грубым мэханічным складам глеб выявіўся ня так яскрава, як у кв. 44 Горацкай Дачы, але ўсё ж наглядаецца тэндэнцыя павялічэньня кісласьці глебы з павялічэньнем ступені яе ўвільгатненьня. На імшары кісласьць торфу падае з глыбінёю, а на асаковым балоце торф набывае аж шчолачную рэакцыю.

Спэцыяльныя назіраньні паказалі, што і ў хваёвых дрэвастанах Вяляціцкай Дачы pH глебы суцэльных лесасек значна вышэй параўнальна з глебамі пад полагам дрэвастанаў. На жаль, большасьць абсьледаваных лесасек была пад часовым с.-г. карыстаньнем, глебавая структура на іх парушана, што зацямняе адпаведныя вынікі.

Параўнаньне дадзеных аб кісласьці глебы для хваёвых і яловых дрэвастанаў падаецца ў табліцы 9 на стар. 198.

Такім чынам для хваёвых дрэвастанаў атрыманы меншыя значэньні pH, чым для яловых.

Абагульваць гэтыя дадзеныя на ўсе яловыя і хваёвыя дрэвастаны БССР нельга, але-ж такія вынікі супадаюць з дадзенымі Гулісашвілі па Охценскаму і Паша-Капецкаму Лясьніцтвах (блізу Ленінграду), дзе ім атрыманы таксама меншыя значаньні pH для хваёвых дрэвастанаў, чым для яловых.

Дадзеныя замежнай лясной літаратуры не даюць такой розьніцы. Тэарэтычна можна дапусьціць, што пры аднолькавых паўнотах глебы пад яловымі дрэвастанамі павінны быць больш зацененымі і ўвільгатнёнымі, чым пад хваёвымі дрэвастанамі і таму можна чакаць большай кісласьці ў глебах яловых раменей, чым ў глебах хваёвых бароў і субароў.

Атрыманыя вынікі тлумачацца спэцыфічнымі асаблівасьцямі глеб вывучаўшыхся лясьніцтваў і іншымі момантамі.

Дадзеных па кісласьці глеб у беларускіх грудавых дрэвастанах, у дубравах і пойменных дубняках, а таксама ў дрэвастанах з панаваньнем

Табліца 7.

**Кісласьць паверхавых паземаў лясных глеб у галоўных тыпах дрэвастанаў дасьледчых кварталаў Вяляціцкай Лясной Дачы**

| № па чарзе | № кв. | Дрэвастан | Глебавае акрыцьцё | Глеба | Глебавы пазем | Глыбіня см. | pH |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | **I. Бары** | | | | | |
| 1 | 48 | 10 С (110—130) 0,4 III бан. падрост С (10—15) | Верас (cop³) чарніцы (sp) зял. імхі (sol) | Слаба падзолістая пяшчаная | $A_0$ | 0— 1 | 4,0 |
| | | | | | $A_1$ | 1— 3 | 3,7 |
| | | | | | $A_2$ | 3— 8 | 4,5 |
| 2 | 49 | 10 С (30—40 + 20) аддз. С (130) 0,7 III бан. | Верас (cop) клядонія (sp) зял. імхі (sp) | Сл. падзолістая, пясок | $A_0$ | 0— 1 | 3,7 |
| | | | | | $A_1$ | 1— 3 | 3,9 |
| | | | | | $A_2$ | 3— 9 | 4,3 |
| 3 | 48 | 10 С (70—100+30) 0,7 III бан. | Зял. імхі (cop) чарніцы (sol) сфагнум (sp) зязюлькін лён (sp) | Падзолістая пяшчаная са значным збытачным увільгатненьнем | $A_0$ | 0— 2 | 4,2 |
| | | | | | $A_1$ | 2— 5 | 4,0 |
| | | | | | $A_2$ | 5— 12 | 4,1 |
| 4 | 48 | 10 С (120—130) 0,6 III/IV бан. | Сфагнум (cop³) зязюлькін лён (cop³) чарніцы (sp) брусніцы (sp) багун (sp) | Падзоліста-балоцістая пяшчаная. З глыбіні 40 см пясок аглеен | $A_0$ | 0— 4 | 3,6 |
| | | | | | $A_1$ | 4— 6 | 3,8 |
| | | | | | $A_2$ | 6— 10 | 4,0 |
| | | **II. Субары** | | | | | |
| 5 | 50 | 10 С (100—120) аддз. Б 0,8 I бан. II ярус 10 Е (50—60) аддз. Б | Зял. імхі, кісьлічка, майнік | Супесь ападзоленая, на глыб. 50 см падсьцілаецца пяском | $A_0$ | 0— 1 | 5,0 |
| | | | | | $A_1$ | 1— 2 | 4,6 |
| | | | | | $A_2$ | 2— 6 | 4,8 |
| 6 | 49 | 10 С (100—120) 0,7 Ia бан. абільны падрост елкі (20—30 г.) | Зял. імхі, кісьлічка, майнік | Супесь слаба ападзоленая, на глыб. 50 см. падсьцілаецца пяском | $A_0$ | 0— 1 | 4,8 |
| | | | | | $A_1$ | 1— 3 | 4,8 |
| | | | | | $A_2$ | 3— 10 | 4,7 |
| 7 | 49 | 10 С аддз. Е (110—130) 0,7 II бан. | Dicranum (soc) | Падзолістая супесь, падсьцілаецца на глыб. 30 см пяском | $A_0$ | 0— 1 | 4,9 |
| | | | | | $A_1$ | 1— 2 | 4,7 |
| | | | | | $A_2$ | 2— 8 | 4,7 |
| 8 | 65 | 10 С (60—70) 0,8 II/III бан. падрост. Е (20 г.) | Зялён. імхі (cop) чарніцы (cop²) верас (sp gr) | Супесь падзолістая, на глыбіні 50 см падсьцілаецца пяском | $A_0$ | 0— 1 | 4,7 |
| | | | | | $A_1$ | 1— 3 | 4,5 |
| | | | | | $A_2$ | 3— 7 | 4,7 |
| 9 | 48 | 10 С (110—130) 0,6 III бан. II ярус Е (50—60) | Зял. імхі, чарніцы (cop²) арляк (cop) | Падзолістая супесь з лёгкім збытачным ўвільгатненьнем, на глыб. 70 см падсьцілаецца пяском | $A_0$ | 0— 2 | 4,7 |
| | | | | | $A_1$ | 2— 4 | 4,2 |
| | | | | | $A_2$ | 4— 9 | 4,5 |
| | | **III. Мшара баравая** | | | | | |
| 10 | 48 | 10 С (100—110) IV бан. 0,7 | Сфагнум (soc) пушыца (cop) галубіка (cop) багульнік (cop²) | Торф глыбінею да 100 см падсьцілаецца аглееным пяском | Ачос | 0— 20 | 4,0 |
| | | | | | Торф | 20— 40 | 4,2 |
| | | | | | Торф | 40— 60 | 4,6 |
| 11 | 48 | 10 С (120—140) V бан. 0,7 | Сфагнум (soc) пушыца (cop) журавіны (cop) | Торф глыбінёю ад 100 да 300 см падсьцілаецца аглееным пяском | Ачос | 10— 30 | 4,1 |
| | | | | | Торф | 30— 50 | 4,2 |
| | | | | | Торф | 50—100 | 4,8 |
| | | | | | Торф | 150—180 | 5,0 |

Табліца 8.

**Кісласьць паверхавых паземаў глебы у кварт. № 48 Вяляціцкай Лясной Дачы**

| № | Тып дрэвастану | Глебавы пазем | Лік выпадкаў, калі кісласьць адпаведнага пазему вызначалася велічынёй ρH: Надзвыч. кіслая | Вельмі кіслая | | Кіслая | | Слаба кіслая | | Нэўтральн | | Шчолачн. | Вельмі шчолач. | Агульны лік навіраньняў | Сярэдняе ρH |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 3,0—3,4 | 3,5—3,9 | 4,0—4,4 | 4,5—4,9 | 5,0—5,4 | 5,5—5,9 | 6,0—6,4 | 6,5—6,9 | 7,0—7,4 | 7,5—7,9 | 8,0—8,4 | | |
| I | Субар сьвежая 10 С (100—120) I бан. аддз. Е падрост. Е (20—30 г.) | $A_0$ | — | — | 4 | 31 | 2 | — | — | — | — | — | — | 37 | 4,8 |
| | | $A_1$ | — | — | 18 | 19 | — | — | — | — | — | — | — | 37 | 4,5 |
| | | $A_2$ | — | — | 4 | 30 | 3 | — | — | — | — | — | — | 37 | 4,7 |
| II | Субар вільготная А 9 С (90—110) 1 Е (90—100) II бан. аддз. Б падрост Е (20 г.) | $A_0$ | — | — | 2 | 4 | 10 | 8 | — | — | — | — | — | 24 | 5,2 |
| | | $A_1$ | — | — | 3 | 13 | 8 | — | — | — | — | — | — | 24 | 4,7 |
| | | $A_2$ | — | — | 3 | 4 | 10 | 7 | — | — | — | — | — | 24 | 5,1 |
| III | Субар вільготная В 10С аддз. Б (90—100) II-III бан. аддз. падрост. Е збытачнае увільгатн. | $A_0$ | 2 | 4 | 10 | 3 | 1 | — | — | — | — | — | — | 20 | 4,3 |
| | | $A_1$ | 4 | 9 | 4 | 3 | — | — | — | — | — | — | — | 20 | 3,7 |
| | | $A_2$ | 2 | 3 | 11 | 3 | 1 | — | — | — | — | — | — | 20 | 4,2 |
| IV | Мшара IV бан. торф да 100 см. 10 С (100 + 60) | Ачос | — | 4 | 6 | 5 | — | — | — | — | — | — | — | 15 | 4,4 |
| | | Торф | — | 3 | 4 | 5 | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | 15 | 4,6 |
| | | Торф | — | — | 4 | 6 | 1 | 2 | 2 | — | — | — | — | 15 | 4,9 |
| V | Мшара V бан. торф ад 100 да 300 см. 10 С (130 + 100 г.) | Ачос | 2 | 4 | 5 | 4 | — | — | — | — | — | — | — | 15 | 4,0 |
| | | Торф | — | 2 | 8 | 5 | — | — | — | — | — | — | — | 15 | 4,3 |
| | | Торф | — | 2 | 5 | 8 | — | — | — | — | — | — | — | 15 | 4,6 |
| | | Торф | — | — | 5 | 7 | 3 | — | — | — | — | — | — | 15 | 4,8 |
| VI | Балота асакова-сфагнавае торф глыбінею ад 150 да 350 см. Дraніруецца ракой Начай | Ачос | — | — | — | — | — | 9 | 6 | — | — | — | — | 15 | 5,9 |
| | | Торф | — | — | — | — | — | — | 7 | 8 | — | — | — | 15 | 6,5 |
| | | Торф | — | — | — | — | — | — | — | 4 | 6 | 3 | 2 | 15 | 7,1 |
| | | Торф | — | — | — | — | — | — | — | 4 | 4 | 5 | 2 | 15 | 7,4 |
| | | Пясок | — | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 5 | 8 | 15 | 7,8 |
| VII | 8С 2Е (120—140) III бан. 0,5 II яр. 8 Е 2 Ал. (70—90) глеба—моцна сьціснуты цалкам распаўшыйся торф на глыбіні 250—300 см падсьцілаецца пяском | $A_0$ | — | — | 2 | 3 | — | — | — | — | — | — | — | 5 | 4,5 |
| | | $A_1$ | — | — | — | 1 | 1 | 3 | — | — | — | — | — | 5 | 5,7 |
| | | Торф | — | — | — | — | — | — | 5 | — | — | — | — | 5 | 6,3 |
| | | Торф | — | — | — | — | — | — | 3 | 2 | — | — | — | 5 | 6,4 |
| VIII | 8 Ал. 2 Е (80—90+100) аддз. С (150) 0,6 III бан. па сьціснутаму торфу глыбінёю 300—400 см падсьцілаецца пяском | $A_0$ | — | — | — | — | 1 | 3 | — | — | — | — | — | 4 | 5,6 |
| | | Торф | — | — | — | — | — | 2 | 2 | — | — | — | — | 4 | 6,3 |
| | | Торф | — | — | — | — | — | — | — | 3 | 1 | — | — | 4 | 6,7 |
| | | Торф | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 2 | — | — | 4 | 7,0 |

ясеню мы пакуль што ня маем. Улетку мінулага 1929 г. тыпалёгічнай экспэдыцыяй былі сабраны адпаведныя глебавыя ўзоры ў лясох Мазыршчыны, але-ж іх вывучэньне з хэмічнага боку яшчэ ня скончана, чаму і гаварыць аб якіх-небудзь выніках у гэтай галіне яшчэ заўчасна.

Табліца 9.

Параўнальныя дадзеныя аб кісласьці паверхавых паземаў глебы ў яловых (раменных) і хваёвых (баравых і субаравых) тыпах дрэвастанаў Горацкай і Вяляціцкай Лясных дач

| Тып дрэвастану | Глебавы пазем | pH | Тып дрэвастану | Глебавы пазем | pH | Тып дрэвастану | Глебавы пазем | pH |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сьвежы бор Ia I бан. | $A_0$ | 4,9 | Сьвежая субар I бан. | $A_0$ | 4,8 | Сьвежая рамень Ia I бан. | $A_0$ | 5,6 |
| | $A_1$ | 4,7 | | $A_1$ | 4,5 | | $A_1$ | 5,1 |
| | $A_2$ | 4,8 | | $A_2$ | 4,7 | | $A_2$ | 4,4 |
| Вільготны бор A I-II бан. | $A_0$ | 4,7 | Вільготная субар A II бан. | $A_0$ | 5,2 | Вільготная рамень A I-II бан. | $A_0$ | 5,0 |
| | $A_1$ | 4,5 | | $A_1$ | 4,7 | | $A_1$ | 4,6 |
| | $A_2$ | 4,8 | | $A_2$ | 5,1 | | $A_2$ | 4,2 |
| Вільготны бор B II-III бан. | $A_0$ | 4,0 | Вільготная субар B II-III бан. | $A_0$ | 4,3 | Вільготная рамень B II-III бан. | $A_0$ | 4,6 |
| | $A_1$ | 3,7 | | $A_1$ | 3,7 | | $A_1$ | 4,2 |
| | $A_2$ | 4,5 | | $A_2$ | 4,2 | | $A_2$ | 4,2 |
| Сыры бор III-IV бан. | $A_0$ | 3,8 | Сырая субар III бан. | $A_0$ | 4,2 | Сырая рамень III бан. | $A_0$ | 4,4 |
| | $A_1$ | 3,7 | | $A_1$ | 4,0 | | $A_1$ | 4,4 |
| | $A_2$ | 4,2 | | $A_2$ | 4,2 | | $A_2$ | 4,1 |

Дадзеныя нямецкай літаратуры даюць наступныя лічбы:

| Пануючая парода | pH глебы |
|---|---|
| Дуб . . . . . . . | 5,0—7,0 |
| Бук . . . . . . . | 5,5—6,9 |
| Ясень . . . . . . | 6,0—7,5 |
| Граб . . . . . . | 5,0—7,0 |

З гэтай прычыны дамешка шырока-лісьцяных парод да іглястых дрэвастанаў павінна паменшыць кісласьць лясной глебы і наогул палепшыць яе якасьці, што і назіраецца ў лясох Нямеччыны і паўднёвай Швэцыі.

Нашы досьледы паказалі, што назіраньні і досьледы Зах.-Эўрапейскіх лесаводаў у галіне вывучэньня біялёгіі лясных глеб можна з нека-

торымі невялікімі папраўкамі перанесьці і ў практыку лясной гаспадаркі БССР і зрабіць наступныя практычныя вынікі для вытворчасьці.

1. Прыбытковасьць лясоў залежыць у значнай колькасьці ад якасьцяй і асаблівасьцяй лясных глеб.

2. Для давядзеньня лясных глеб і іх біа-флёры да здаровага стану і да максымальнай прадукцыйнасьці патрэбны наступныя мерапрыемствы:

а) Утварэньне па мажлівасьці мешаных іглясга-лісьцёвых дрэвастанаў.

б) Пэрыядычнае прарэджваньне полагу стычных дрэвастанаў для належнага асьвятленьня глебы.

в) Хутчэйшы пераход да палепшаных высечак з натуральным лесааднаўленьным.

Пытаньне аб карысьці суцэльных высечак у яловых дрэвастанах з кіслымі і значна кіслымі глебамі патрабуе дадатковых досьледаў і абгаварэньня.

Лясныя працаўнікі БССР павінны памятаць, што прышласьць беларускіх лясоў знаходзіцца ў іх руках і ў першую чаргу залежыць ад захаваньня і паляпшэньня якасьцяй нашых лясных глеб шляхам рацыянальнага дагляду за дрэвастанамі і адпаведнай арганізацыі рубак.

*Асыстэнт Д. О. Манцэвіч.*

19—I—1930 г.
г. Горкі, БССР.




---

